МІХАСЬ
КАЛАЧЫНСКІ

# РЭХА ЗЯМЛІ

ВЕРШЫ
КАЗКІ
ПАЭМЫ

Мінск
,,Мастацкая літаратура''
1978



## ХАЙ ЗЯМЛЯ АДГУКНЕЦЦА!

Летняй парой да світанку
Лесам ісці — любата.
Пушча маўчыць.
На палянках
Вецер стаіўся ў кустах.

Строй сасняку меднастволы,
Гулкі ў час буры, як звон,
Струн не кранае вясёлых,
Дрэмле пад шапкамі крон.

Спяць, прытаіўшы галіны,
Рослыя клёны, дубкі.
Толькі ялін верхавіны
Вынеслі ў неба штыкі.

Ціша наўкола пануе
Па гушчарах над зямлёй.
Птах не ўзляцеў,
Не палюе
Звер — анямеў з цішынёй.

Кінь жа знячэўкавы погук
З вуснаў, бы птушачку з рук,—
Ледзь шугане за дарогу,
Ўсюды адчуецца зрух.

Перад зарою дзівоснай
Край пасвятлее лясны,
Голлем зашастаюць сосны,
Потым — дубы-маўчуны.

Злёгку зялёныя крыльцы
Вецер узрушыць асін,
Сонейка ў іх заіскрыцца
З кроплямі чыстых расін.

Пойдзе з галёканнем голас
З лесу на нівы, сады,
Мігам абудзяцца сёлы
І зашумяць гарады.

Стане к варштату рабочы,
Выйдзе на рунь аграном,
Сцежкай са школы пакрочаць
К лесу юннаты гуртом.

Спраў усім знойдзецца розных
Многа — бадай, не злічыць.
Рукі малых і дарослых
Будуць іх разам вяршыць.

Голас, ляці ж!
Хай прачнецца
З промнямі сонца зямля,
Хай на яго адгукнецца
Свет неабдымны здаля.

І на арбітах касмічных
Людзі ў сваім караблі
Зловяць не шум навальнічны —
Мірнае рэха зямлі.

## УСМЕШКА

Светла, светла
Стала ў хаце,
Хоць і дзень
Не ўспеў заняцца.

Недзе сіні
Тлее золак,
Але ў вокнах —
Сем вясёлак.

І таму
У ранняй рані
Ззяюць шафы,
Люстра ў раме;

Папкі з гумы
На камодзе,
Стосы кніг
У пераплёце.

У таршэры
Над канапай
Не гарыць —
Бліскоча лямпа.

Зыркасць бліскаўкі
Адбіла

І чарнільніца
З чарнілам.

Засвяціліся,
Бы ў росах,
І вазон,
І хатні посуд.

А на татавай
Кашулі
Нават гузікі
Мільгнулі.

Тата ўстаў:
Адчуў з пасцелі —
Рэчы ўсе
Зазіхацелі.

Ціха крочыць
Па пакоі:
— Ну й святло!
Адкуль такое?

Нахіліўся
Ўпотай нізка
Над дзіцячаю
Калыскай.

Там скамечана
Падушка,
На падушцы
Спіць дачушка.

Сніцца ёй,
Натулі, нешта,
І на шчочках
Грае ўсмешка.

Таму тут
І на паўсвета
Стала ўранку
Светла, светла...

## СОНЦА БУДЗІЦЬ РАНАК

Ледзь заліўся барвай ранак,
І расплюшчыў вочы Данік.

Цішыня нямая ў хаце.
Не прачнуўся меншы брацік.

На куце заснуў вялізны
Мутнавокі тэлевізар.

Дрэмле кот, заняў ляжанку,
Хвост скруціўшы абаранкам.

У трубе водаправоднай
Спіць вада з крыніц халодных.

Толькі цікае адзіны,
Час злічаючы, гадзіннік.

Ды ў акно прамень-пралаза
Зазірнуў — ад сонца лазер.

Тут усё пайшло іначай.
З шыб на сцены скочыў зайчык.

Пацягнуўся кот-мурлыка,
Мышалоўны тыгр вялікі.

У трубе вада запела,
З крана вырвалася з пенай.

На сцяне радыёкропка
Абудзілася таропка,

Абвясціла для парадку:
«Пачынаем фіззарадку!»

Дзень пайшоў па ўсёй старонцы,
Як скамандавала сонца.

## МАЯ МАЗАІКА

Багаты скарб
Прынёс мой друг —
Шкляных асколкаў многа.
Шкло розных колераў — ад рук
Не адарваць такога.

Бяру кавалак,
У якім
Ліловасць кветак лесу.
Гляджу на неба — і блакіт
Расцвіў ліловым бэзам.

Барвовы выцягнуў з грудка,
З акна на рэчку глянуў,
І, аж не верыцца,—
Рака
Гарыць агнём барвяным.

Паднёс ружовы да вачэй,
На воблачка нацэліў,—
Яно,
Ад жару гарачэй,
Плыве над светам цэлым.

І што ні шкельца —
Колер свой,
Свае ва ўсім адценні.
Такое бачыцца парой
У сне ці ў летуценнях.

Я разлажыў іх на стале,
І ваз, і колб асколкі,
І мне здалося:
Ў бітым шкле
Хтось запаліў вясёлкі.

Тут падышоў і брат —
Студэнт,
Мастацкіх спраў аматар,
Агледзеў друз шкляны як след:
Відаць, увагі варты?

Ён абвясціў:
Маўляў, даўно
Такую песціў мару,
Каб мазаічнае пано
Зрабіць са мной на пару.

Брат разгарнуў паперы ліст
І мне міргнуў,
Сказаўшы,
Што ўжо гатовы і эскіз
Задумы добрай нашай.

Мы не марудзілі,
Былі
За працай заўтра рана,
Цэмент, фанеру здабылі
І змайстравалі раму.

Я шкельцаў розных
Вёў падбор
Па колеру й памеру,
А брат выводзіў з іх узор
У рамцы на фанеры.

Час праляцеў,
З ім заадно —
Пакуты ўсе мастацтва.
Сябры на нашае пано
Прыйшлі палюбавацца.

Стаяць і дзівяцца: на ім
У самых розных фарбах
Рака і лес,
Над лесам дым
І трубы новых фабрык.

А збоку — хлопец,
За руку
Дзяўчыну ён трымае,
Яна кош яблык юнаку
Узняць дапамагае.

З другога боку —
Луг, сады
І ў небе сінім бусел.
Такое ж бачыш сапраўды
У роднай Беларусі.

Трымалі дома
Мы пано,
Усё на яго глядзелі.
Цяпер жа ў школе ў нас яно,
У Ленінскім музеі.

## ЗАЛЕЦЦЕ

Вераснёўскі дзень вясёлы
Сонца выкаціў над школай,
Пагукаў у шлях нядальні
На касцёр наш развітальны.

Крочым трактам.
Справа й злева
Восень плавіцца на дрэвах,
Восень, сэрцу дарагая,
Дагарае, дагарае.

Клён змарнеў,
Зямлі з лістотай
Скарб аддаў ён — пазалоту,
А цяпер, відаць, смуткуе,
Што такім свой век звякуе.

Лета колеры згубілі
Ля дарог лясных рабіны,
Ды гараць у іх на кронах
Плоймы вогненныя гронак.

У паветры ціха, ціха.
Але дзесьці скача віхар,
Скача з поўначы імкліва
І махае снежнай грывай.

Перадзім'е бачым самі:
Людзі ўжо рыхтуюць сані...
Не спяшайся, сцюжа, толькі,
У рабін ірдзеюць гронкі
І даспелы, позні яблык
На суку вісіць азяблым,
Нам нагадваючы гэтым
Залатое ў промнях лета.

Мы яго красу сабралі,
Мы нясём у клас гербарый,—
Будуць радаваць у школе
Родны лес, і луг, і поле.

## ЧЫРВОНЫ СЦЯГ

Блізка дзень.
Заняўся золак.
Нам ісці пара ўжо ў школу.

Выйшлі мы,
А за парогам
Снег зіма кладзе пад ногі.

Дзьме мяцеліца.
Марозік
Расскрыпеўся на дарозе.

А над ёю,
Там, на ўсходзе,
Сонца зімняе ўзыходзіць.

Працірае сонца вочы,
Азірнуць планету хоча.

Промні кінула здалёку,
І змяніўся свет навокал.

Сіні дым над кожнай хатай
Іншым стаў — чырванаватым.

Дахі хат,
Што ў снежнай белі,
Чырвань зыркую надзелі.

Выйшлі ў чырвані марознай
Да дарогі ліпы й сосны.

Стаў барвовым
Дол зімовы.

Нават нам на шчокі сівер
Перадаў ад сонца чырвань.

Запаліў, адчуўшы вецер,
Зырка й сцяг на сельсавеце.

Над дымамі,
Над дамамі,
Над палеткамі, лясамі,
Над дарогаю таксама
Над усёй зямной планетай
Плыў той сцяг ад сельсавета.

Мы ішлі насустрач школе
І спыніліся міжволі.

Мы стаім,
Рады гуртуем.
Мы пад сцягам трыумфуем.

Гэта ён, як сонца, свеціць
Нам
І ўсім людзям на свеце.

## СУСТРЭЧА З ДЗЕДАМ

Дзень будзённы, невясёлы.
Валіць, валіць мокры снег.
Мы ідзём гуртом са школы
І сумуем як на грэх.

Снегапад кладзе ахапкі
Пуху белага свайго
І на плечы, і на шапкі
Нам усім, да аднаго.

Мы тым пухам абрастаем.
Час збаўляючы хадой,
Мы падобныя ўжо сталі
Да заслужаных дзядоў.

Так ідзём,
А насустрэчу
Сапраўды старэнькі дзед,
Белы ўвесь: лягло на плечы
Мо яму сто зім, сто лет.

Ды палаюць жарам шчокі,
І ў вачах жывы агонь.
Падышоў, прыцішыў крокі,
Снег зграбаючы ў далонь.

Згроб бялюткі пух, скамечыў,
Намякае хлапчукам:
«Што ж азызлі так, малечы,—
Мо згуляць у снежкі нам?»

І пайшла тут мітусніна:
Перапалка, радасць, крык...
Дзед тым часам нас пакінуў
І кудысь, як прывід, знік.

Мы ж усе павесялелі,
Па пярыне белых сцюж
Зноў пайшлі,
Ва ўсіх гарэлі
Шчокі, быццам кветкі руж.

## НА ГАРЫ

На гары і пад гарой
Снег пярынай пухавой,
Снег ды дзеці грамадой.

Тут Зарыны, Ванды, Янкі,
Нікадзімы і Святланкі,
А ва ўсіх — з прычэпкай санкі.

Мітусіцца дзетвара,
Шумам поўніцца гара:
— Ну, ляцім?
— Выходзь, пара!

Дружна разам паляцелі,
Аж са снежнае пасцелі
Узнялося сем мяцеліц.

Толькі Руза на гары,
Апусцелай да пары,
Стала, стыне на вятры.

— Дык з'язджай! —
Гурт крыкнуў Рузе.
— Не магу.
— Прымёрзла, мусіць?
Яна ў слёзы:
— Штось баюся.

Прыпыніўся шум і смех.
Да дзяўчыны Стась падбег:
— Ты не бойся — мяккі снег...

Яна села са слязамі
У свае драўлянкі-сані,
Тыя — шусь! — пабеглі самі.

Нехта іх схапіў, панёс —
І ні страху, і ні слёз,
Толькі твар пячэ мароз...

## РОМАЎ ПОЧЫРК

Снег валіў,
Але не густа,
Мы яго змялі набок,
І на возеры, як люстра,
Заблішчаў скразны лядок.

Сонца з неба паглядзела,
Працягнула ўніз руку —
Загарэлася надзеяй
Пакатацца на лядку.

Прыляцелі канькабежцы,
Не стаіцца ім.
Сябры
Дачакаліся нарэшце
Зімняй радаснай пары.

Хто ж адважыцца з разгону
Перарэзаць чысты лёд,
Канькабежнага сезону
Старт узяць пад Новы год?

Шмат ахвотнікаў, вядома:
Юрка, Стась, Ігнат, Лявон,
Але хлопцам кажа Рома,
Што паедзе першы ён.

Згодны ўсе.
Мільгнуў канькамі,

І яны, нібы пяро,
На лядку катка насамі
Чыста выпісалі «РО».

Мы, як лыпнулі вачамі,
Пазайздросцілі ў душы.
— Малайчына! — закрычалі,—
Ты ж канчатак дапішы.

Ён рвануўся, бы на гонцы,
Ўсіх пакінуў убаку,
Абагнаўканькамі сонца,
Што стаяла на катку.

Тут, падкуплены увагай,
Крутануўся зноў як мог,
Вырабляць пачаў зігзагі
І... на лёд — з абедзвюх ног.

Што было далей, сам хлопчык
Хай раскажа вам усім...
Так застаўся Ромаў почырк
Не ацэнены нікім.

## МАСТАКІ

Перад вечарам у хаце
Да акна падсеў Ігнацік.

Ён глядзіць, як рой сняжынак
Завіруха закружыла.

Рой бялюткі мітусіцца,
На акно, на двор садзіцца.

Прамінула колькі часу,
Пабялела ўсё адразу.

Хаты, сад, за садам далі
На сябе зіму напялі.

Снег прайшоў, красу пакінуў,—
Хоць пішы з яе карціну.

Малышок бярэ аловак,
Не абы-які, а — новы,
Каляровы.

Дастае паперы аркуш
Без ніводнае памаркі.

Хоча хлопчык у малюнках
Перадаць зімы карункі...

За акном — прастор шырозны,
Долы, двор, пад хатай сосны.

Доўга ён алоўкам водзіць,
Ды карціна не выходзіць.

Зірк на шкло, і нечакана
Стаў, нібы зачараваны.

Хтось да шыб нябачны выйшаў,
Хтось на іх выразна піша
Сад, сняжынкі,
Лісця жылкі,
Хвой галлё, праменні зорак —
З мудрай выдумкаю ўзоры.

Думку ён, малы, гадуе:
«Дзед Мароз... Мастак дзядуля!»

Зноў хлапчук бярэ аловак,
Адмысловы,
Каляровы.

Твар схіляе над паперай —
Ёй і сэрцу моцна верыць.

Піша сам зіму-красуню,
Прад марозам не пасуе.

А мароз?..
Ён не здаецца,
З ім спаборнічаць бярэцца.

## ЛЯСНОЕ НАВАСЕЛЛЕ

Красавік зіму адрэзаў,
З крыгамі сплаўляе.
Свята весняе — Дзень лесу
Трэці клас праўляе.

Свята гэта не такое,
Каб гуляць нам толькі,
Мець патрэбна пад рукою
Кіркі ды рыдлёўкі.

Мы з таго іх часу маем,
Як прайшлі мяцелі.
Мы рыхтуем перад маем
Дрэўцам наваселле.

Накапалі ям даволі
Госцям лесу розным:
Ніцым лозам і таполям,
Ліпам і бярозам.

І калкоў пяцьсот ці болей
Самі настругалі,
Каб шумелі перад школай
Навасёлы гаем.

Мы працуем, і настаўнік
Радуецца намі,
Правярае ён, батанік,
Саджанцы і ямы.

Пасадзілі ўсё да рэшты,
Дрэў ствалы бінтуем,
Толькі з многіх ямак нешта
Цімкава пустуе.

На яго, нібы на дзіва,
Мы глядзім, пытаем:
«Ты чаму ж марудзіш, Ціма,
Са сваім каштанам?»

Ён адказвае сур'ёзна:
«Чуў, казалі людзі,
Покуль стане лес дарослы,
Жыць мы ўжо не будзем».

Клас абурыўся:
«Штосьць рана
Думаеш аб смерці?
Працаваў бы больш старанна,
Рос бы разам з дрэўцам!»

— Ну й прарок!..— настаўнік кажа,—
Нас не будзе, Ціма,—
Зашуміць аб справах нашых
Лес, што мы ўзрасцілі!

## З ВЫРАЮ

Птушкі вяртаюцца
З выраю, з выраю,
З намі вітаюцца
Песняю шчыраю.

Зорым з аселіцы
Ў неба мы сіняе:
Мо ў нас паселіцца
Пара бусліная?

Бачым — адбілася
З гурту крылатага
І закружылася
Нізка над хатамі.

Сесці ўсё меціцца,
Голасна раіцца,
З кім пасуседзіцца
Весняю раніцай.

Вось апусцілася
К дубу высокаму
І абвясціла ўсім
Радасным клёкатам:

— Сонца над нівамі,—
Так у вас хораша!

. . . . . . . .

Скача шчаслівае
Босае зборышча...

## РАЗМОВА З ЖУРАЎЛЁМ

— Жораў шэры, журавель,
Ты з якіх ляціш зямель?

— Я пакінуў край заморскі
І лячу ў свой прыдняпроўскі.

— Добры жораў, раскажы,
Што ж там бачыў, як там жыў?

— Бачыў розныя я дзівы,
Пальмы, тыграў, кракадзілаў.

— Можа, свой сабраўшы род,
Бавіў час ля цёплых вод?

— Быў на водах, ды не вельмі
Палюбіў пяскі пустэльні.

— Ад чужых зямель, нябёс
З чым ляцеў ты, што ж ты нёс?

— Ад Сахары і ад Ніла
Смутак нёс я ў шлях на крылах.

— Там жа сонца, сінява,
Дык чаго ж ты сумаваў?

— Сумаваў я па айчынных
Поймах, рэках, балацінах.

— Дзе ж ты спынішся? Куды
Вабіць шлях цябе заўжды?

— Шлях у родны край бацькоўскі,
Ён мілей зямель заморскіх.

— Праўда?
— Праўду гавару.
Кр-р-ру! Кр-р-ру!

## ПТУШЫНЫ МІКРАРАЁН

Мы сваім мікраараёнам
Не нарадуемся ўсе.
Ёсць тут школы, стадыёны,
Нават плавальны басейн.

І паколькі ўвесь ён новы,
На машынах к нам вясной
Сарака-
пяці-
гадовы
Пераехаў парк з лясоў.

Ён за лета так разрос,ся
У людзей, жыхар лясны,
Што з-пад крон калы і тросы
Зняў да наступу вясны.

А пабегла раўчукамі
І разорамі вясна,
Мы гасцей у парк чакалі —
Прыляцяць жа птушкі к нам.

Мы чакалі, нават снілі
І пад навіссю сукоў
Уяўлялі галасы іх,
Самых лепшых спевакоў.

Прызямляцца ім, любімым,
Падавалі свістам знак,

А яны ляцелі міма,
Не хацелі знаць наш парк.

Дзе ж прычына?
Птахам згубу
Тоіць хто ж, пужае дзесь?
І на сходку птушкалюбы
Свой актыў сабралі ўвесь.

Гаварылі так і гэтак
Пра шпакоў і пра шпачых,
Што лятуць кудысь на лета,
Абмінаюць нас усіх.

А важаты нешта ўспомніў,
І сказаў актыву ён:
— Зробім мо ў мікрараёне
Мы ім свой мікрараён?

І пайшла тут ходам поўным
Справа ў нас: усё гудзе,
І дуплянкі, і шпакоўні
Мы будуем трэці дзень.

На чацвёрты ў дзевяць роўна
Па камандзе ў парк прыйшлі,
На сто дрэў мікрараёна
Хаткі птушкам узнялі.

Вырас ён, раён птушыны,—
Любата зірнуць самім.
Сціхлі мы, сачыць рашылі,
Ці ж паселіцца хто ў ім.

Ранак скончыўся, і поўдзень
З хмарак сонейкам бліснуў.

Сочым мы, ды птах ніводзін
Зноў у парк не зазірнуў.

На пастах стаім, а сэрцы
У трывозе і журбе:
Ну, шпакі не хочуць сесці,
Хай жа сеў бы варабей!

Толькі чуем — голас хтосьці
Падае здаля: ціў-ціў!
Мы на посвіст вабім госця:
Ёсць жылплошча —
к нам ляці!

Стала ціха,
Дужа ціха.
Мы затоена сядзім,
А ў раён наш са шпачыхай
Завітаў шпачок адзін.

Свой харом драўляны разам
З ёй агледзеў ён як след,
Наваселлю гімн адразу
Заспяваў на цэлы свет.

А пад вечар навасёлаў
Стогалосы чуўся звон.
Стаў шумлівы, стаў вясёлы
Птушкам здадзены раён.

## БУСЕЛ НЕ ПРАСТУДЗІЦЦА

«Ходзіць бусел
Даўганосы,
Прадаў боты,

А сам босы».
Гэта ў кніжцы
Мы чыталі.

Бусел босы...
Шкода Тані,
Што ён дзесьці
Збыў абутак
І стаў голы
І разуты.

І сказала Таня
Светцы:
— Буслу звяжам
Па шкарпэтцы,
Каб ён
Не нудзіўся
І не прастудзіўся.

На сябровак
Глянуў Войтык:
— Да шкарпэтак
Трэба й боты.
Я сам буслу
Іх пашыю,
Ён жа ў багне
Аж па шыю.

Як памесіць
Багну-кашу,
То падхопіць,
Мабыць, кашаль.

Так сказалі,
Так рашылі,
І звязалі,
І пашылі.

Праўда,
Войтык,
Скуру ўзяўшы,
Кроіў боты —
Сшыў гамашы.

Толькі бусел
Рад ім, мусіць,
І ў гамашах
Месіць «кашу».
Ну, а потым
Штосьці мроіць,
Над балотам
Сонца ловіць
І пры гэтым клёкае,
Славіць свет навокала.

## ЛАСТАЎКІ І ВЕРАБЕЙ

З-за сіняга мора
На поклічы грому
Прыляцелі ўчора
Ластаўкі дадому.

Шчэбетам сустрэлі
Родны край з дарогі.
На тэлеантэне
Пасядзелі трохі.

Потым узняліся,
Зрушаныя спешкай,
Ляпіць узяліся
Хатку пад застрэшкам.

Расла ластаўчанка,
Як палац сапраўдны.
Быў ужо над ганкам
І ўваход парадны.

Верабей тым часам
Шмыгнуў з бліжняй латы
І заняў адразу
Белагрудак хату.

Грозна пры ўваходзе
Растапырыў крылы.
Гнаць яго, выходзіць,
Трэба толькі сілай.

Сілы ж, як ні крыўдна,
Ў іх няма з ім роўнай,
І яны там злыдня
Сталі замуроўваць.

На ўваход парадны
Клалі з лужын гліну,
Каб чужак нахабны
Іх жытло пакінуў.

Ды не ўцёк свавольнік,
Толькі соўгаў лапы
І ў турму міжволі
Як захопнік трапіў.

У палон забраны
Ластаўкамі летам,
Там замураваны
Ён сядзіць дагэтуль.

## ВОКНЫ ПЛАЧУЦЬ

Шыбы ў кроплях.
Мокра. Мокра.
Мама кажа:
— Плачуць вокны.

Дзед зірнуў,
І ён зазначыў:
— Праўда,
Нешта вокны плачуць.

Я падумаў:
Байка, мабыць,—
Хіба ж могуць
Вокны плакаць?

Брат са сну
Расплюшчыў вейкі:
— Можа, ў вокан
Смутак нейкі?

А сястра
Яму гаворыць:
— Мо не смутак —
Боль ці гора?

Першым я
Са спальні выбег
Ды ілбом упёрся ў шыбы.

Падышлі
І брат з сястрою,
І яны глядзяць са мною.

Там, за шыбамі,—
Світанак,
Пераклічка берасцянак.

З сонцам
Тчэ туман валокны.
Дык чаго слязяцца вокны?

Дзед тлумачыць:
— Знайце ўсё ж,
Вокны плачуць — будзе дождж.

## РЭХА ВЫКАНАЛА ПРОСЬБУ

Нам дзетсад даказваў хорам,
Быццам дождж
Жыве на моры,
З мора, з хваль ягоных цёплых
Ён бярэ для неба кроплі
І трымаецца ў блакіце
На шкляных нябачных ніцях.

Калі б ніці чым пакратаць,
Дождж з нябёс пачаў бы крапаць,
А далей бы ў хмары збіўся
І пацёк,
Цурком паліўся,
Па усёй зямлі ахвотна
Скарб разносячы вільготны.

Хто зрабіць такое можа?
Пэўна, вецер?
Спрытны ён жа
І дабрацца знойдзе сілы
Да марскіх прастораў сініх,
А як толькі дабярэцца,
Прыйдзе дождж
І з хмар пальецца.

Мы прасілі вецер лёгкі
Паляцець у шлях далёкі.
Мы прасілі ад палеткаў,
Ад лугоў, дзе звялі кветкі,
Ад садоў,
Ад гарадоў,
Ненапоеных вадой.

Вецер нашу просьбу слухаў
Безуважна краем вуха.
Ён сказаў,
Што ў стэп, пустэльні
Лётаў доўга,
Стомлен вельмі,
Болей лётаць немагчыма —
Ўзяў на тыдзень адпачынак.

Мы заўважылі над шляхам
Каню — плакальшчыцу птахаў.
К ёй прысталі з просьбай той жа —
Дождж паклікаць
Хай паможа.
Адказала каня гэтак:
— Не магу. Гадую дзетак!

Просьбу нашу слыхам чулым
Рэха звонкае пачула
І без лішніх угавораў
З ёй ляцець рашыла к мору,
Каб прывесці дождж ці лівень
Сенажацям,
пушчам,
нівам.

Толькі рушыла,
І глуха

Ў далячынях гром забухаў,
Пацягнуліся ў абшары,
Як авечак статкі,
Хмары,
Нібы ў часе ліхаманкі,
Лупцанулі іх маланкі.

Набліжалася грымота,
Па зямлі страляла шротам,
А зямля
Той шрот лавіла,
Усміхаючыся міла,
Паўтарала разам з рэхам:
— Дождж прыехаў!
— Дождж прыехаў!

## З ДОЖДЖЫКАМ!

Дожджык з неба —
Кап-кап! —
На сухую глебу,
Каб
Дол засмяглы адсырэў,
Сокі даў
Карэнню дрэў,
Напаіў кусты ў садах,
Луг пад сонцам,
Шоўк-мурог,
На балотцы —
Рыжы мох,
Торф,
Раллю
І ўсю зямлю.

Дожджык — кап-кап!
Хоць бы ліўся, не аслаб,
Каб раслі
Чубы ў раслін,
Кветкі зыркія ў расе
Пад смугой
Заківалі сонцу ўсе
Галавой,
Белы яблыні наліў
На суку
Поўны сокам шар наліў
У цяньку,
Жыта гнула каласы
Ўсё ніжэй,
І звінелі галасы
Ўсіх дзяцей.

Дождж пакапаў.
Ліся, дождж,
Раз пачаў!
Льецца дождж.
Ну і што ж?
Хто не любіць — выбачай!

## ХАЧУ ПАДРАСЦІ

Ходзяць чуткі між дзяцей,
Што з дажджом усё расце.

Пойдзе ён —
На паплавах
Густа выскачыць трава.

Лес палье —
Глядзі, й дубок
Новы выкіне сучок.

Пусціць воды
Долу ўглыб,
І палезе ўгору грыб.

Дождж, я верыў, дабрадзей,
І чакаў яго штодзень.

Дачакаўся
І — на двор,
З галавы здымаю ўбор.

Дожджык капае,—
Стаю,
Шапку зняў хутчэй сваю.

Дождж мацнее,
Дождж сячэ,
Я ж на месцы ўсё яшчэ.

Тата выскачыў:
— Сынок,
Марш у хату! Ты ж прамок.

Я ў адказ:
— Ды не бяда,
Льецца ж цёплая вада...

Я стаю,
Бы на пасту,
Ды не бачу, як расту.

## ГРЫБНІКІ

Мы дружна рушылі з дзетдома
На збор без поклічу трубы.
У лес зарэчны, стогадовы
Ідзём, ідзём збіраць грыбы.

Вядуць сцяжынкі нас, старанных,
То на імхі, то ў верасок.
Баравіковыя ж паляны
Не выдае густы барок.

Пасля дажджу ён, заімглёны,
Схаваў як след свае дары.
Праз мох прапоруцца зялёны,—
Кідайся з кошыкам, бяры!

Нам, запаветных скарбаў знаўцам,
Куткоў прытоеных грыбных,
Карціць найпершымі прабрацца
Да казачных мясцінак тых.

Брыдзём па сцежках асцярожна,
Ледзь-ледзь кранаючы зямлю,
Інакш спужаць, як кажуць, можна
Чорнагаловікаў сям'ю.

Мігціць зялёнае паўзмрочча
Паўсюдна ў хвойніку густым.
Мы за мігценнем бору сочым
Ды скардзімся, што ён — пусты.

І раптам на здзіўленне — неруш
Зусім на голым «пятаку».
Глядзім, вачам сваім не верым —
Стаў баравік к баравіку.

Пераглянуўшыся па-свойску,
Не ўцямім нeяк, што рабіць?
Тут не сям'я — грыбное войска
З-пад шыгалля на нас глядзіць.

Ішло, нібы на бой, заўзята
І ўздумала зрабіць прывал.
Стаяць палкоўнікі, салдаты,
А на чале ўсіх — генерал.

Мы на «пятак» уроссып крочым
І войску б'ём паклон зямны...
Таварыш кухар,
                    сам, як хочаш,
А нам гатуй абед грыбны!

## ТРУСІКІ

Эх, якія трусікі!
Проста прыгажосць:
Чорненькія вусікі,
Беленькая поўсць.

Вочы зыркаватыя —
З сонечных зярнят,
А хвасты куртатыя,
Як у зайчанят.

Хатку самаробную
Я адвёў трусам,
Два пакоі добрыя
Выслаў сенам сам.

Любяць хатку гэтую
Белыя трусы,

У акенца светлае
Тыркаюць насы.

Кожны пыскай мокраю
Падае мне знак —
Час займацца морквао
Ці грызці бурак.

Я ўстаю штораніцы,
Да трусоў іду,
Даць у час стараюся
Ежу і ваду.

Яны сталі дужыя
За адну зіму:
Двух вазьму за вушы я,
Ледзьве падыму.

Глянуць хочуць многія,
Як трусы растуць,
Як вушамі доўгімі
Цішыню стрыгуць.

## ЗАЙЦАЛОВЫ

Хлапчукі гарох пры ўзлессі
Сцераглі палову дня,
Там злавілі і прынеслі
Ў двор брыгадны зайчаня.

Касавокі з рук ірваўся,
Праклінаючы палон,
Моўчкі, бачна, заракаўся
Больш хадзіць у шкоду ён.

Маўчуна ж яны за вушы
Падымалі над зямлёй
І, не лаячы задужа,
Учынялі допыт свой:

— Ты адкуль ляцеў?
— З-пад стогу.
— А чаго хацеў?
— Га-ро-ху!

Так сказаўшы, ён акінуў
Іх паглядам
Спадцішка.
Пакаціліся слязіны,
Як гарох той, па шчаках.

— Еў струкі?
— Не, болей блоціў.
— Раз які
Ты быў у шкодзе?

Тут шкадлівец аблізнуўся,
Ўспамінаючы папас,
І хлапечаму хаўрусу
Прыхлусіў: «Быў... першы раз...»

Завяршылі канчаткова
Хлопцы допыт,
Сталі ў кут,
Падбіралі па закону
Зайцу строгі свой прысуд.

Меркаванняў шмат, вядома,
Яго ўчынак нарадзіў.
І якраз тут выйшаў з дому
Брыгадзір.

Хлапчукі к яму:
— Як быць?
— Трэба ж зайца правучыць!

Брыгадзір:
— Чым правучаць,
Мо карысней прыручаць?

Брыгадзірава падказка
Вырашала ўсё найлепш.
Зайца ўзялі: калі ласка,
Прыручайся — пі і еш!

Апынуўся госць у клеці
І зажыў як мае быць.
Пачалі касога дзеці
І паіць, і карміць.

Неслі моркву
І капусту,
Боб намоклы,
Бручкі лусты.

Клалі віку,
Канюшыну,
Пырнік дзікі,
Хлеб крышылі.

У зайчыным рацыёне
Усяго было звыш норм:
Корм кухонны,
Корм зялёны,
А яшчэ і камбікорм.

Еў дзікунчык, час ад часу
Больш прасіў адменных блюд.

Адным словам, прыручаўся,
Забываў лясны свой кут.

І аднойчы на дасвецці
Зняты быў над ім нагляд,
Ён на двор падаўся з клеці,
А з двара — далей, у сад.

Тут разгульваў, нюхаў грады,
Выгрыз бок у бурака
І дзятве усёй на радасць
Не збіраўся уцякаць.

Парашылі зайцаловы
Брыгадзіру далажыць:
Прыручыўся, стаў дваровы,
Ў шкоду больш не пабяжыць.

Сход якраз быў у брыгадзе,
І згадзіўся брыгадзір:
— Не пярэчу, выпускайце,
Ці прыручан — паглядзім.

І на волі касавокі
Апынуўся ў момант той.
Пастаяў, падумаў трохі,
І — гайда! — ў прылесак свой.

Бег ён, згадваў пагасціны.
Дзеці — ўслед, ну як хто мог...
А народ крычаў:
— Пусцілі?!
Сцеражыце зноў гарох!

## РЫБАРЫ

Ад соннае затокі
Яны прыйшлі к вірам.
Вакол аер высокі —
Па вушы рыбарам.

Вада зару забрала
І ў ранні час такі
Паціхеньку зыбае
З пярынак паплаўкі.

Ля іх матыль стракаты
Сеў, дражніць рыбакоў,
Што сом паплыў вусаты
Далей ад паплаўкоў.

Ды хтось хапіў з аглядкай.
Ныраюць заадно:
Душа малых — у пяткі,
А паплавок — на дно.

Матыль зляцеў і дзіўна
Пятляе над вадой.
З арэшыны ж вудзільна
Згінаецца дугой.

Парушыў цішу віскат:
Расплёскалі сябры
І сонечныя пырскі,
І сінія віры.

Сюды прыбеглі людзі.
На дзіва ім якраз
Трапечуцца на вудзе
І сонца, і карась.

## УСЕ ЖАДАННІ

Гаварыў сябрам Архіп,
Што знайсці хацеў бы грыб
Баравы, на трох нагах,
З шапкай большаю, чым дах,
Каб хвалілі ўсе наўскрык:
— От заслужаны грыбнік!

Не маўчалася й Агнесе:
— Я знайсці б хацела ў лесе
Паўпудовую суніцу,
Каб лягла на ўсю стальніцу
І каб ёй маглі паснедаць
Мамка, я, бабуля з дзедам,
А ўвесь свет пра гэта ведаў.

Перабіў яе Змітрук:
— Мець такі хачу я лук,
Каб у дождж яго страла
І маланку збіць магла.
Дзе б ні йшоў я, наўздагон
Мне крычалі б: «Чэмпіён!»

Змітруку хваліўся Несцер:
— На гару я мару ўзнесці
Велізарны, з тону, камень
І адтуль піхнуць рукамі,—
Хай бы ведалі ўсе дзеці,
Што ў іх ёсць дужак на свеце!

Дужаку казаў Карык:
— Мне б зрабіць даўжэзны цвік,
Каб зямлю працяў наскрозь,
Ей служыў, як колу вось;
На галоўцы б стаў цвіка,—
Свет, глядзі на Карыка!

Не ўтрымалася тут Проня:
— Мне злавіць бы сонца промень,
Ім бы я, спрытней іголкі,
Сшыла хмары і аблокі.
Хто б сказаў, што я — дзівачка?
Ўсе крычалі б: «Вось дык швачка!»

Слова ўзяў тады Яўсей:
— Ну й прыдумшчыкі вы ўсе!
Прагну больш за ўсё ў жыцці
Аднаго я — падрасці.
Падрасту вось праз гады,
Штось для ўсіх зраблю тады!

## КАЗАЧОК

Дзеці ўсе — як на аўрал.
Ёсць прычына спеху:
Кажуць, быццам генерал
У сяло прыехаў.

А які?
Адкуль?
Калі?
Думаць часу мала.
Пэўна, з дальняе зямлі
Везлі генерала.

Везлі — ззаду віўся дым,
І, напомніць варта,
Ганаровая пры ім
Рухалася варта.

Крыкне — ў голасе метал,
Іскры з-пад абцасаў!

Ён пры шпорах, генерал,
Галіфэ ў лампасах.

Ну і строгі, анідзе
Статут не парушыў.
Дзе ж ён зараз?
Кагадзе
Завітаў на птушнік.

Хто цікаўны, той — туды:
Янка, Чэсік, Грыша.
Ім насустрач малады
Заатэхнік выйшаў.

Дзеці хорам: так і сяк,
Дзе ж ваяка грозны?
Усміхнуўся ім юнак
Ветліва-сур'ёзны.

— Хто вам, кажа, дзівакам,
Плёў пра генерала,
Нам з Прыдоння казака
На развод прыслалі.

А казак?..
Аж глянуць страх:
Шпоры для парада,
І лампасы на штанах,
І картуз з кукардай.

Падначальных мае шмат
Той казак прыдонскі:
І курэй, і куранят,
Гляньце,— цэла войска.

І разявіў кожны рот,
Бо ўсё раскумекаў:
Узляцеў «казак» на плот
І... закукарэкаў.

## НА ПТУШКАФЕРМЕ

Летам з мамаю на ферме
Мы бываем досыць часта.
Падабаецца нам вельмі
У яе птушыным царстве.

Царства тое — двор шырозны —
Мае белыя палацы.
Тут маленькім і дарослым
Птушкам ёсць дзе разгуляцца.

Між палацаў самы светлы,
Самы ціхі — інкубатар.
Ён, палац курыны гэты,
Сам выводзіць пісклянятак.

Ноч і дзень часіну тую
Нараджэння юнай змены
Аўтаматы тут вартуюць
І тэрмометры на сценах.

У вялікім царстве птушак,
Фанабэрых, ганарлівых,
Ёсць яшчэ палац нясушак,
Ці інакш — палац крыклівых.

Ён усім даецца ў знакі:
Ледзь на досвітку ў палацы

Пакладуць нясушкі яйкі,
Пачынаюць выхваляцца.

Пачынаюць так кудахтаць,
Абвяшчаць, што ўжо знясліся,
Ажно зыбаецца дах там,
Дзіўна, як не абваліўся.

Хор іх часам горш за лямант,—
Затыкай чым-небудзь вушы!
Можна думаць: волат-мамант
Нарадзіўся у нясушак.

Мы ў двары з усіх палацаў
Палюбілі болей сама
Той, дзе пухкіх гадаванцаў
Рупна няньчыць наша мама.

Нам яна дае халаты,
Калі к ім ідзём на двор мы,
Бо не любяць кураняты
Тых, хто ходзіць не па форме.

Мы бяром пісклят умела,
Дужа кволых і нясмелых,
Залацістых,
як жаўткі,
І пушыстых,
як пушкі.

Мы іх кормім па рэцэпту:
Трошкі хлеба — белы хлеб той,
Трошкі сыру — сыр тварожны,
Нават кволым есці можна.

Піскунам з адных пушынак,
Каб пачаць ім кукарэкаць,

Дастаўляем вітаміны
Мы з птушынае аптэкі.

Пад'ядуць яны як трэба,
Мы іх поім. П'юць малыя,
Задзіраючы ўсе ў неба
Дзюбкі жоўтыя крывыя.

Ля паілак дужа люба
Назіраць, як з іх, ад донцаў,
Дзесяць тысяч жоўтых дзюбак
Прагна цягнуцца да сонца.

## ЭХ БЫ ПАКУПАЦЦА!

Сонца гойсае па целе.
Мы стаім і ўсе пацеем.

Пот з нас коціцца як град
З галавы да самых пят.

А рака далёка дужа
За палямі ў лузе кружыць.

Недзе грае срэбрам хваль...
Хто ж са жніўя пойдзе ўдаль?

Сталі мэндлікі «панамі».
Мы ж насоўваем панамы.

Ды аднекуль вецер-зух
Прыляцеў і ў твары — дзьмух!

Я рукой — за ўбор, ды позна —
Апярэдзіў вецер грозны.

Эх, свавольнік палявы,
Здзёр панаму з галавы!

Падхапіў, панёс удалеч
Полем тым, дзе жыта зжалі.

Мы сарваліся і — ўслед:
Занясе мо ў белы свет?

Ён жа, дражнячыся з намі,
Дзьме ўсё, кружыцца з панамай.

То падкіне, павядзе,
То на ржэўнік пакладзе.

Мы ляцім за ім праз поле
Кіламетры тры ці болей.

Вецер бег да дальніх коп,
А ля іх з панамай — стоп!

Там, за копамі, і рэчка,
Б'юць крыніцы-самацечкі.

Мы сціраем з твараў пот
І глядзім, дзе бліжні брод.

Як на ветрык нам злавацца,—
Ён жа нас прывёў купацца!

## ПА МЯДОК

Выйшаў з хаты з дымаром
Дзед, пчаляр заўзяты.
Скібкі хлеба мы бяром
І шыбуем з хаты...

Па садку ідзе пчаляр
К пасецы ў разведку,
Ад куслівых пчол на твар
Напінае сетку.

З сеткі лезе барада,
Цесна ёй там, мусіць,
З барадой жа не бяда —
Бараду не ўкусяць.

Мы без сетак у садку —
Голле пад рукамі.
Мы салодкага мядку
За кустом чакаем.

Дзед схіліўся над дамком,
Над радамі вошчын,
Пчол выкурвае дымком
З іх жылое плошчы.

Небагата пчол з вулля
Пасвіцца ля дома,
Дзе расставіла зямля
Красак шмат мядовых.

Ды ахоўнікі ў вуллі
Пільныя знайшліся,
Дзумкат тонанькі ўзнялі,
Ледзь дымок узвіўся.

Не баіцца ж іх дзядок,
Справу знае добра;
Дастае сабе мядок,
Сотак скарб пад пломбай.

Мы мядку ўяўляем пах,
Слодыч — лепш разынкаў,

І міжволі на губах
Выступае слінка.

Сонца свеціць.
Над сялом
Павявае ветрык.
Толькі нешта загуло
Грознае ў паветры.

Пчолы ў наступ перайшлі,
Атакуюць дзеда,
Каб не кратаў у вуллі
Пахкі іх наедак.

Ён жа й вусам не вядзе,
Соты выгружае,
Хоць і пчолы ў барадзе
Выпускаюць джалы.

Ды мацнее грозны шум
Над пчаліным садам,
Пачынаецца ўжо штурм
Нашае засады.

Мы адмахваемся ўсе,
Хто рукой, хто голлем,
Але рой дружней насеў,
Лезе к тварам голым.

Што рабіць?
Сігналіць дзед —
Трэба ўроссып бегчы.
Мы бяжым, а пчолы — ўслед,
Сыплюць стрэлы ў плечы.

Ну й прыгода! За садком
Зноў сышліся хлопцы —

Не відаць з-за гузакоў
Ні мядку, ні сонца.

Праўда, й дзеду зух-пчала
Адплаціць хацела,
Па заслугах упякла
Джала прама ў цемя.

Нёс гузак ён з мноствам сот,
Бы набыты ў бойцы.
Гаварыў нам:
— Любіш мёд,
Дык і пчол не бойся.

## ЗМЕЙ НА НІТАЧЦЫ

За вёскаю пад ветрамі
Плыве мой змей паветраны.

Да сонейка ўзнімаецца,
На нітачцы трымаецца.

Спускае нітку яркую
Мой карабок запалкавы.

Яна за змеем гоніцца
Над сонечнай ваколіцай.

Сышла, руку ўсёй сілаю
Ірве ў бязмежнасць сінюю.

Ды карабочак лоўка я
Трымаю — справа лёгкая.

Высока змей, мне мроіцца —
Там дзіўнае штось робіцца.

Свой карабок да вуха я
Прыклаў і пільна слухаю.

Сябры ў мяне пытаюцца:
Ну, як там неба маецца?

Мо змей па-над прасторамі
Вядзе размову з зорамі?

— Вядзе,— кажу адразу я,—
І радасць нам прадказвае.
Сцвярджае ён, што заўтра мы
Ўжо будзем касманаўтамі.

## КАСМАНАЎТЫ

Двор,
Дзе бывае ў нас гульня,
Чуваць і смех, і гоман,
Стаў з пазаўчорашняга дня
Сапраўдным касмадромам.

Гудуць малыя, як чмялі.
Па згодзе ўсіх на гэтай
Мясціне гульняў пачалі
Мы будаваць ракету.

Нямала панайшло дзяцей,
Глядзяць у захапленні:
Ракета на вачах расце,
Гатовы дзве ступені.

Над імі ў частцы насавой
Галоўная кабіна,
Шчыты, прыборы, кнопак рой —
Усё як быць павінна.

Антэна вусік драцяны
У неба цэліць звонку,
Глядзіць пад ёю са сцяны
Увысь зямная зорка.

Гатова ўсё.
І ўвесь атрад
Славутых касманаўтаў
Займае месцы. Хутка старт:
Хвіліны тры да старту.

Каманда: «Пуск!»
І ад зямлі
Гатова йсці ракета.
Ды от няўдача — не ўзнялі
Яе ў прастор Сусвету.

Ёй без гаручага
Наскрозь
Прабіць паветра цяжка.
І хтосьці ўспомніў: дома ёсць
Дзесь дымавая шашка.

Прынеслі шашку, на зямлі
Шнур падпаліць паспелі,
І дым клубамі паваліў
З-пад першае ступені.

Плыве густы, сівы-сівы,
Ахутвае ракету
І цягнецца да сінявы,
З двара узняты ветрам.

I ахапіў усіх тут жах,
Хто ў полі быў ці дома.
Усталі ўсе, як на пажар,
Бягуць да касмадрома.

І чырванейшая агню
Пажарная машына
Людзей адчула мітусню
І прыляцела жыва.

І касманаўты з карабля
Згрузілі ў спешцы грузы,
Стаяць, глядзяць на ўсіх здаля,—
Не касманаўты — мурзы.

Да зор збіраліся ляцець,
У высях быць надхмарных,
А давялося чырванець
І душ прымаць пажарны.

Але дым шашкі касмадром
Пакінуў, сплыў угору.
І дзеці рады. З тым дымком
Ляціць іх мара к зорам.

## ЗОРКІ Ў КАЛОДЗЕЖЫ

Наш галоўны астраном,
Знаўца зор Ягорка,
Гаварыў, што нават днём
Можна ўбачыць зоркі.

Мы падумалі: пусты
Выдумшчык-нязнайка

Дзівакам наплёў лухты,
З явай зблытаў байку.

Але ўпарціўся Ягор
І як след даводзіў:
Каб пабачыць кропкі зор,
Лезці трэ ў калодзеж.

А калодзеж ля гары,
Там, дзе мы стаялі,
Земляных работ майстры
Доўгі час капалі.

Прыцягнулі кран сюды,
Бралі жвір дзён дваццаць,
Праўда, покуль да вады
Не змаглі дабрацца.

Ён да дна цямнюткі ўвесь,
Метраў сто — глыбокі.
— Астраном,— мы клічам,— лезь,
Дай пра зоркі доказ!

Азірнуў блакіт Ягор
(Сонца стала к поўдню),
І ступае ён нагой
У чарпалку-бодню.

Кран падсунуўся, навіс
У спрыяльнай позе,
Апускае хлопца ўніз
На сталёвым тросе.

Што ні метр — глыбей, глыбей,
Цяжка ўсё ж спускацца.
Застаецца для вачэй
Неба ўжо квадрацік.

Затаіў Ягорка дух
У зямлі халоднай.
Раскруціўся трос і — бух! —
Там аб гліну бодняй.

Мы гаворым: друг, на дно
Стаў, ну, зоркі блізка?
А ў яго вачах адно —
Замест зорак іскры.

Ды ачомаўся дзівак
І гурбе шматлюднай
Падае рукою знак
Не звісаць над студняй.

Ён глядзіць, і галава —
Быццам бы круцёлка.
Бачыць знізу — сінява
І між ёю зорка.

Закрычаў адразу ўсім:
— Зззяе зоркі плямка!
Над калодзежам між тым
Зззяла з крана... лямпа.

## ПАДКОВА НА ШЧАСЦЕ

У маёй сяброўкі Люсі
Брат — каваль калгаснай кузні.

Мне не раз яна казала:
Мае справу брат з металам,

А яшчэ — з вуголлем чорным
Ды з агнём, што зззяе ў горне.

Паглядзець было б цікава,
Як ідзе ў яго там справа.

Мы пайшлі на водзван сталі,
У дзвярах нясмела сталі.

Люсін брат, мажны, як волат,
Выйшаў к нам, узяўшы молат.

Мне кіўнуў:
— Мажліва, хочаш
Патрымаць мой малаточак?

Што ж, бяру, адужаць прагну,
Ды не я — мяне ён цягне.

А каваль па-заліхвацку
Молат той падняў, як цацку.

З горна ўзяў ён прут барвовы
І пачаў каваць падкову.

Прывялі каня: конь Гнедзіч
Серп падковы страціў недзе.

Я сказаў:
— Пастой мінуту,
Вунь табе куюць абутак.

Майстар спрытны скончыў працу.
Кажа:
— Будзем абувацца!

Ён падкову вокам змерыў
І капыт каня праверыў.

Тропкі той капыт абрэзаў
Ды абуў яго ў жалеза.

А каню гнядое масці
Пажадаў:
— Насі на шчасце!

Мы былі каля гнядога.
Мы стаялі ў кузні доўга.

З таго дня падкову тую
Ўсё шукаю, дзе ні йду я.

## ПАЖАРНІКІ

Не баўце часу марненька,
На вуліцу — бягом! —
Ідуць, ідуць пажарнікі
Пад барабанны гром.

Чаканяць крок, раўняюцца,
Парадак у радах,
І людзі пасміхаюцца
На прызбах, у дварах.

Каманда ўся абвешана
Рыштункамі да пят,
Гадкоў за сем старэйшаму,
А меншаму — пад пяць.

Жалезным строем сунуцца
Па правілах усіх,
І сорак сонц па вуліцы
Плыве на касках іх.

Плывуць багры і лесвіцы,
Каб іх увысь падняць,
То можна б нават месяцу
Руку ўначы падаць.

Ідуць.
У мілым выглядзе
І строгасць, і краса:
Калі пажар успыхне дзе,
Ад страху згасне сам.

## НУ І СТАЛЯРЫ!..

У сталярні стукат-гром,
Сцены ходзяць хадуном.

Цыркулярка і варштат
Загулі на дзіўны лад.

І памост дрыжыць, гудзе,
Быццам слон па ім ідзе.

Бэлькі скачуць, гнецца столь —
Гэта мы майструем стол.

Перш за ўсё стальніцу ўдвух
Адстругалі, ўзяўшы струг.

Потым быў этап другі —
К ёй прыбілі тры нагі.

Для чацвёртае якраз
Не хапіла месца ў нас.

Што ж за стол на трох нагах?
Хто ні гляне — проста жах.

Дзе ж тут выхад? Як нам быць?
Трэба ўсё перарабіць.

Думка смелая прыйшла:
Зробім столік са стала!

Ад стальніцы — па цвікі —
Абхапілі ўсе бакі.

Прыляпілі па адной
Ножкі ўсе чатыры к ёй.

Ставім столік з усіх сіл,
Толькі ён дае нахіл.

Ён кульгавы: дзве нагі
Ў ім даўжэй за дзве другіх.

Падпіліць бы іх як след —
Выйшаў добры б табурэт!

Падпілілі — смешна ўсім:
Стаў ён нізенькі зусім.

Табурэт... Навошта ж ён?
Мо з яго зрабіць услон?

Можна будзе двум сядзець,
Двум на сонцы лыткі грэць.

...І сталярня цэлы дзень,
Як гудзела, зноў гудзе.

## МУРЗАВЕЙ

Едзе хлопчык Мазавей
На веласіпедзе.
— Гляньце, едзе Мурзавей! —
Загудзелі дзеці.

— Куд-кудых! Куд-кудых! —
Закрычалі куры
І пусціліся кудысь
Белаю віхурай.

Галаву задраў гусак:
— Га-га-га, гусыня,
Гусянят гукай — гуляк,
І — гайда! — з усімі.

Аблавухі парсючок
Глянуў і зарохкаў:
— Едзе мурза — прэч набок,
Лепш дзівіцца збоку.

На таполю ўскочыў кот,
Растапырыў кіпці
І аскаліў злосна рот —
Хлопчыка баіцца.

Сігануў ад хаты ў хлеў
Нават пёсік Лыска.
Хлопчык клікае, але
Той к яму — ні блізка.

Азірнуўся Мазавей —
Вуліца пустая:
Ні дзяцей, ні гусей,
Нібы ўсе расталі.

Ён спыніў веласіпед,
Апусціў павекі.
Сумна стала.
Тут сусед
Падышоў аднекуль.

Скрутак круцячы ў руках,
Хлапчука пытае:
— Бачу слёзы
На вачах...
Мо бяда якая?

Хлоп малога па плячы
І адвёў свой позірк —
Той стаяў,
Як трубачыст,
Побач на дарозе.

Зразумеў стары:
Сто дзён
Не купаўся хлопчык,
Не сябруе
З лазняй ён,
Рэчку знаць не хоча.

І яго — за ўсё крыўдней —
Дзеці мурзам лічаць,
Не інакш,
Як Мурзавей,
Мазавея клічуць.

Плача мурза.
І замоўк
Дзед — урач калгасны.
А паблізу іх дымок
Курыцца над лазняй.

— Дык папарымся? — сказаў
Доктар Мазавею
І вяхотку паказаў,
З ёй у скрутку —
Венік.

І пайшло, пайшло далей
Так усё як трэба.
На палку
Быў Мазавей,
З ім — сцюдзёнкі цэбар.

Там ад шыі і да пят
Дзед малога парыў,
Па ўсім целе,
Быццам хват,
Венік гойсаў з жарам.

Покуль хлопца йшло мыццё,
Тыя, хто ў гарачцы
Ад яго з дарогі ўцёк,
Сталі зноў збірацца.

Беглі дзеці, ўслед прыйшлі
Чарадою гусі,
Гусянятак прывялі
Для навукі, мусіць.

Згуртаваў усіх курэй
Каля лазні певень
І, каб ведаў
Мазавей,
Сам заліўся спевам.

Апусціўся з дрэва кот,
Муркаў на паляне,

Лыска гаўкнуў
На ўвесь рот
Ад задавальнення.

Вадалюбам парсючок
Пазайздросціў дужа
І не вытрымаў,
На бок
Паваліўся ў лужу.

Той дзянёк
суботні быў,
Дым-дымок
над лазняй плыў...

## ДЗІВОСНЫ ПАРАД

Вясна не стаяла панура,
Пайшла праз палі да лясоў
І там першацвет
Сыпанула —
Пралескі, бухмацісты сон.

Пакуль іх юннаты шчыпалі,
Яна, цеплавей і сявец,
Ля хат запаліла
Цюльпаны,
На ўкосных лугах — дзьмухавец.

Трымаліся тыя нядоўга,
Цвет кволы прарэдзіўся, чэз.
Ды ўспыхнула белым
Чаромха,
Ліловым — у цыбаўках бэз.

Займалася лета паволі,
І з ім, на парад ідучы,
Запалымнелі
Півоні,
Адменнай красы касачы.

К параду дзівоснаму чэрвень
Наважыўся кветак усім,
Як зорак
У небе вячэрнім,
Насеяць на шары зямным.

Па сцежках ён сонечных рушыў
І безліч на долы прынёс
Лілей, і рамонкаў,
І ружаў,
І сціплых «зязюльчыных слёз».

Здзівілася ранняя восень.
Зірнуўшы на кветкі,
Тайком
Тужыла, што ёй давялося
Парад іх спыніць халадком.

Глядзела, як наваддзе гіне
Жывой непаўторнай красы,
Цвілі толькі
Ў садзе вяргіні,
А ў хвойных лясах —
Верасы.

Яна заглянула ў дубровы
І з любасцю да пекнаты
Прыдбала ёй
Колер барвовы,
Дабавіўшы свой — залаты.

І той, хто сюды завітае,
Ад сэрца бязмернага рад,
Што восень — пара залатая
Працягвае лета парад.



## КАЗКА БЕЛАВЕЖЫ

Гэта казка Белавежы,
Дзе зялёныя бязмежжы,
Дзе ў глушы жывуць зубры,—
Вось паслухайце, сябры!..

Белавежы на світанку
Ноч спявае калыханку.
Ціха-ціха: сняцца ж сны,
Калі спіць народ лясны.

Толькі блізка ранні золак,
Ён пасеў збірае зорак,
Пакідаючы адну
Надыходзячаму дню.

З тою зоркаю прачнуўся
На сасне пушчанскі бусел,
Пазяхнуў салодка, ўсмак,
Свой паправіў чорны фрак;

Потым, стаўшы на сасонцы,
Клёкатам паклікаў сонца,

Дзюбу ўзняў, зірнуў на бор,
Бы з указкай дырыжор.

І па ўказцы дырыжора
Птушкі, ўсе запелі хорам,
Вызначаўся салавей:
Ён — артыст, яму зручней.

Спеў птушыны — ўсім пабудка.
Ажывае пушча хутка.
Хто заспаўся, тым у дом
Дзяцел грукаў малатком.

Дзень пачаўся, і ўпачатку
На спартыўныя занятні
Выйшлі пушчы жыхары —
Хто на ўзлескі, хто ў бары.

Лось вучыў сынкоў бязрогіх
Браць бар'ер — абнос ля стога,
Ў свой зялёны рацыён
Даставаць лісцё з-пад крон.

У аленяў трэніроўка —
Бег на тысячаметроўку.
Потым — дранне мхоў нагой,
То адною, то другой.

Навучаліся казулі —
Белавежскія красуні —
Ў даўжыню рабіць скачкі
І сігаць праз раўчукі.

І ў куніц і ў гарнастаяў,
Што з пушыстымі хвастамі,
Род заняткаў не ўстарэў —
Лазанне па ўздыбах дрэў.

Побач з імі, на паляне,
Бой гарачы — фехтаванне
У майстроў яго,
З баркоў
Маладых цецерукоў.

Спортазарт і пад дубамі,
Тут зубры сышліся лбамі,
Бо для вольнай барацьбы
Трэба ж дужыя ілбы.

Ды маламу зубраняці
Не хацелася займацца:
Бацька-трэнер дапамог —
Паказаў з пагрозай рог.

Сын пайшоў, ваўсю падбрыкваў
Ды з такім жа стрэўся «быкам»,
Моц сабраўшы ўсю ў плячах,
Паядынак з ім пачаў.

І звяры ўсе ў насцярозе:
Хто ў сутычцы верх з іх возьме?
Трэнер глянуў:
— Падаю
Знак — згулялі ўнічыю...

Пасталеў вясенні ранак.
У звяроў лясных сняданак.
Праявілі ў спорце спрыт —
Скарг няма на апетыт.

Але нешта, хоць і ціха,
Галаву ўзняла ласіха.
І, падбегшы к ласяню,—
Шмыг у хмыз, як ад агню.

З ёй казулі паляцелі,
Зніклі недзе, быццам цені,
З такавішч — цецерукі,
А з паддуб'я — вепрукі.

І барсук лянівы, лысы
У куп'ё хутчэй зашыўся,
Птах наземны — турухтан
Збег, схаваўся недзе ж там.

З відавоку ўсіх прапалі
Коні дзікія — тарпаны,
І куніцы, і тхары,
І ўсе іншыя звяры.

Іх дзяржава — гэта пушча,
І ў ёй стала неяк пуста.
Рыўся дзік адзін — сякач
І не думаў уцякаць.

К дзіку заяц напужаны
Прыскакаў з лясоў дзяржавы.
Крыкнуў:
— Прэч!
— Чаму ж, браток?
— К нам забрыў аднекуль воўк!

— Як жа ты?..— дзік глянуў строга.
— Я... турну адсюль любога.
— Дык чаму ж дрыжыш?
— Скажу:
Я... за лёс... за... твой дры-жу...

Дзік задраў свой лыч даўжэзны,
Іклы ў ім мацней жалезных.
Азірнуўся: дзе ж сусед?
А таго прастыў і след.

* * *

Праз паляны,
Праз ляскі
Заяц пёрся напрасткі.

Так падскокваў,
Так сігаў,
Што ў вачах аж лес мільгаў.

Каля хвой,
Каля асін
Бег спыняў на міг адзін.

Пазіраў,
Дзе хто ўгары,
Пра ваўка ўсім гаварыў.

Да звярыных месц,
Да гнёзд
Страх ён з весткай тою нёс.

Птушкі змоўклі.
Як жа пець,
Калі воўк нясе ім смерць?

Ён падлеткаў,
Іх дзяцей,
Пераловіць, ліхадзей.

Ненажэрны,
Ён наўкол
Пахапае і звяркоў.

Што звяркі?..
Той воўк-дужак,
Ён на ўсіх наводзіць жах.

Дзе ж ратунак?
Ад бяды
Не схаваешся ж кудысь.

І касы, як бег,
На сход
Сабіраў лясны народ.

Лапы сам
На пень успёр,
Азірнуў натоўп і бор.

— Я... ды што мне,—
Ён сказаў,—
Толькі сыкну —воўк назад.

І дадаў:
— Баюся вось
Я за вас, алень і лось...

Ад жальбы,
Ад чулых слоў
Тых адразу ж затрасло.

Спахмурнеў
Натоўп увесь.
Аблажыла хмара лес.

Сталі радзіцца,
Як быць,
Як напад ваўка адбіць.

Далажыць бы
Ўсё цару —
Найстарэйшаму зубру.

Цар той грозны —
Пугінал
Злыдня б хцівага прагнаў.

Трэ паслаць,
Але каго,
Да вялікасці яго?

Тут вушамі
Лось застрыг:
— Хай ляціць з дакладам стрыж!

Стрыж з царом пабыць
Быў рад,
Але цар жа глухават.

Ці скажы што,
Ці шапні,
Не пачуе ані-ні.

Ўзяць сароку?
Ды ў сарок
Сакатлівы галасок.

Пушчы ж цар,
Хаця і глух,
Ненавідзіць сакатух.

Змоўклі.
Думаюць гуртом.
Звісла хмара, грымнуў гром.

От басок!
Трасе гушчар.
Ну, такі пачуе й цар.

Грому
Сход з зямлі крычыць,
Каб прыйшоў дапамагчы.

Гром маланку —
Пугу ўзяў,
Паляцеў, лясы аззяў.

Бух! —
З размаху усяго
Над вялікасцю яго.

І на той
Грымотны ўдар
Выйшаў ён, рагаты цар.

Гром тут
Службу саслужыў
І зубру ўсё далажыў.

— Што ж,—
Узняў той галаву,—
Прымем меры, гавару...

* * *

Ласіхі з ласямі,
Чакаючы мер тых,
Трывожна насамі
Вадзілі ў паветры.

У плямках алені
Ківалі рагамі,
Таксама аж млелі,
Паветра ўдыхалі.

І сёлеткі-вепры
Паглядвалі скоса:
Што ж тояць там нетры
Ім, перапялёсым?

Між траў, кураслепу
З няўлоўнай аглядкай
Маўчалі вальдшнэпы
І курапаткі.

Кулік у адчаі
Паклікаў бакаса,
Той зіркнуў вачамі,
І змоўк ён адразу.

І хвойнікаў певень —
Глушэц самавіты
Хваста свайго веер
Схаваў, каб не выдаў.

Сталіся жораў
І гівал пявучы.
Змоўк гром па-над борам,
Замерла ўся пушча.

Адзін толькі заяц
Не мог утрымацца,—
Падказваць і раіць
Любіў жа з юнацтва.

Хваліўся, што дужа
Ён кемлівы й смелы,
Мядзведзі з ім дружаць —
І буры, і белы.

Казаў яшчэ: з воўкам
Падужацца можа,

А пушчу ўсю вокам
Абводзіў трывожна.

І тут на палянку
З прырэчнага ўзлеску
Прынесла крыжанка
Нядобрую вестку.

Сказала:
— Разбойнік
Ідзе па гушчарах,
Дзе знойдзе
Бяззбройных,
Усіх вынішчае.

За ёй прыляцеў і канюк.
— Сынкам маім,— енчыць,— каюк!

Сеў шэры запыханы дрозд:
— І нашых забраў, кажа, з гнёзд!

Спусціўся ўстрывожаны шпак:
— І мой падабраў маладняк!

Ускрыкнуў узрушаны тхор:
— Паўзе і ка мне ўжо да нор!

Усіх ён расчуліў,
Енк-голас тхаровы,
Звяры павярнулі
Да зайца галовы.

А ён неўпрыкметку
Схітрыў, аб'явіўшы,
Што йдзе на разведку,
І з гурту іх выйшаў.

Ад зборышча трохі
Адбег на прагалак
І выкінуў ногі,
Як кажуць, даў драла.

І ўсе зразумелі
Адразу ж затое:
Паказвае смеласць
Дрыжак перад... боем.

* * *

Цар зуброў,
Стары, пляшывы,
Ледзь дачуўся
Пра разбой,
Ваяводаў-старажылаў
Пушчы
Ў цёмны склікаў бор.

Ваяводы думаць сталі
Пра напад,
Стаіўшы дух,
Ды пасцёбвалі хвастамі —
Насядала зграя мух.

Слуг зубра
Прыйшло нямнога
Пад зялёны бору дах.
Ды адзін
Храбрэй другога
Ў час пагрозы выглядаў.

Праўда, ўсе,
Як глянуць збоку,
Мелі розных шмат заган:

Хто згубіў свой рог у бойках,
Хто насіў рубцы ад ран.

Толькі дзік
Адзін-адзіны —
Той, з кім заяц балбатаў,
Хібы ўсе прыкрыў шчацінай
Ад брушыны да хрыбта.

Быў ён смелы,
Ваяўнічы,
Нават рохкаў на цара
І зубрам паказваў лычам —
Выступаць на бой пара.

Але дзе там!..
Ваяводы
Праглі славы не ў баю,
Выстаўлялі, як заўсёды,
Фанабэрыстасць сваю.

Дужым, ім
Было някепска:
Хто ж сагне такіх у крук?..
Ды з'явіўся з новай весткай
Яркабровы цецярук.

Ён чуфыркаў,
Крыллем лопаў
І дакладваў, што ў лясах
Недзе, выйшаўшы з балотаў,
За ваўком ідзе ліса.

І, як воўк,
Усіх пужае
Рыжым вогненным хвастом,

Спапяліць агнём-пажарам
Захацела ўсё кругом.

Не на жарт
Усе насамі
Павадзілі з боку ў бок
І адчулі добра самі —
Знекуль цягнецца дымок.

Ім было няўцям,
Што ўранку,
Калі дождж ішоў наўсцяж,
Трапна кінула маланка
Іскры з неба ў смольны краж.

Што ж рабіць?
І старажылы —
Ваяводы войск лясных —
Далажыць пра ўсё рашылі
Чалавеку, другу іх.

* * *

Друг іх добры — чалавек,
Гаспадар лясоў і рэк,
Без дакладу ўсё ўжо ведаў,
За ваўком ішоў па следу;

Праз завалы пералез,
У гусцейшы ўбіўся лес,
Падабраўся да балота,
І раптоўна — дождж, грымота...

Ён, сівых гадоў ляснік,
Распасцёр свой дажджавік,
Ён ідзе, трымае стрэльбу,
Гоніць з ёю звера-шэльму.

Крок за крокам... Блізка цэль.
Воўк узяты на прыцэл.
Шчоўк курком! Стрэл бухнуў з громам.
Ды ўпустую — гэткі промах!

Гэткі промах!.. А з сабой
Усяго адзін набой.
Трэба бегчы ў леснічоўку,
Браць прыпас і гнацца зноўку.

І ляснік бяжыць, а лес
Устае наперарэз.
Жыганула бліскавіца,
А ў нагах — агонь-лісіца.

Заадно з ёй і пугач,
Крыважэрцаў паслугач,
З вышніх дрэў, працёршы вочы,
Ён за долам пільна сочыць.

Ён падказвае ваўку,
Дзе хавацца ў цемняку,
І лісе з вышынь сігналіць:
Штось гарыць, дым чорны валіць...

Ледзьве бліскаўкі іскра
Упілася ў смольны краж,
Ад яго «чырвоны певень» —
Скок!— направа і налева.

Дым наніз сышоў і лёг.
У звяроў перапалох.
І на шум перапалоху
Аб'явіў ляснік трывогу.

Да смалістага кража,
Скуль узнік лясны пажар,

Людзі пушчы парашылі
Прабівацца на машынах.

Ды — ніяк! Стаіць наўсцяж
Лес няходжаны — гусцяж,
І машынам не пралезці,
Каб з агнём змаганне весці.

Трэ падмога! І народ
Бачыць — блізка верталёт,—
Ён пагрозу заўважае,
Ён ідзе на бой з пажарам.

І, адчуўшы моц яго,
Скочыў з дрэў і знік агонь,
А над пушчай верталётчык
Пакідаць блакіт не хоча;

З вышыні нагляд вядзе,
Дзе хто ўкрыўся ад людзей.
Пугача ўгары заўважыў,—
Пужануў яго адразу.

На прылужжы, дзе раса,
След пакінула ліса.
І яе пілот прыкмеціў,
А ляснік як след «прывеціў».

Толькі ў час, як плыў дымок,
Знік, бы ў бездань кануў, воўк,
Драпануў ён куды-небудзь —
Не відаць з зямлі і неба.

Але помніць чалавек:
У пачвар — кароткі век.
Ён устаў,

І па імшарах
Ад яго бягуць пачвары.

Ён ідзе, і навакол
Наступае супакой.
У зялёным змроку пушчы
Зноў хмялее лес дрымучы.

У зязюльчыным барку
Зноў пачулася: ку-ку!
На гняздо сваё вярнуўся
Са змяёй у дзюбе бусел.

Выйшлі вепры — жалудоў
Пашукаць каля дубоў.
А ласі, алені ў плямках —
Дзікатраўя на палянках.

І магутныя зубры
Азіраюць, як цары,
Моўчкі, збочыўшы са сцежак,
Царства — нетры Белавежы.

І яна ва ўсёй красе
Над зямлёю шум нясе.
З шуму, гоману і шэпту
Нам складае казку гэту.



## МЯДЗВЕДЗЕВА ЗНАХОДКА

Тады, як таполі
Вятрам аддавалі свой пух,
Згубіў недзе ў лесе
Трубу-берасцянку пастух.

Труба ў глухамані,
Пад навіссю сосен, на пні
Ляжала, марнела
Бясконцыя ночы і дні.

Жыла ўсё надзеяй,
Што нехта — ці молад, ці стар —
З дарогі загляне
Сюды, ў непралазны гушчар.

Яе, весялуху,
Як людзі цікаўныя ўсе,
У рукі ён возьме,
Да вуснаў сваіх паднясе.

Чакаючы прагна
Дзянёк той з вясенніх часін,

Труба пераймала
Лясоў і гаёў галасы.

Падслухала шэпты
Ялін і дзяўчынак-бяроз,
І гоманы сосен
Пад сінню высокіх нябёс.

Злавіла няўлоўны
Світальнай расы переразвон
І срэбныя песні
Ракі ў навальнічны сезон.

З галін пазбірала
Цілінанне жоўтых сініц,
Зязюль кукаванне
І спеў салаўёў ля крыніц.

Даўно ўжо ў чаромхах
Усе салаўі адгулі,
І лета адпела,
І верасень паліць гаі.

Але не прыходзіць
Ніхто ў глухамань па трубу.
Ляжыць яна, тоіць
У сэрцы пявучым журбу.

* * *

Парой тою клыпаў
Сцяжынкаю ціха
Вандроўны мядзведзь
Па мянушцы — Бурыга.

Дагэтуль ён жыў сабе
Недзе ў глыбінцы,
Займаўся чым можна,
Каб смутку пазбыцца.

Пасля буралому
Калоды варочаў,
Аж пот заліваў
Медзвядзіныя вочы.

На бліжняй рачулцы
З абрыву крутога
Спускаўся к вірам,
Дзе разгульвае стронга.

Вясной латашыў
Недаспелкі-суніцы,
А летам — маліны,
Драбочкі зарніцы.

Збіраў і арэхі,
Што гронкамі віснуць,
І нават лясушак
Зялёную кіслядзь.

За працаю час
Працякаў
Непрыкметна.
Вясна адшугала,
Адгрукала лета.

Кляновай завеяй
Павеяла
Восень,
Зімы яна позвы
З лістотай разносіць.

* * *

Па позвах тых гусі
З лясоў і балот
Сабраліся: хутка
У вырай-адлёт.

Бурыга маўкліва
На іх пазіраў
І сеў на паляне —
Няма болей спраў.

Пачуў, як над лесам
Разносіцца шум
І крадзецца з нетраў
Няпрошаны сум.

«Нічога не зробіш,—
Ён шэпча,— відаць,
Бурызе старому
Пара паміраць...»

Па цёмных закутках
Блукаў цэлы дзень,
След смерці адшукваў —
Не ўбачыў нідзе.

На золаку новага
Яснага дня
Пад навіссю сосен
Спыніўся ля пня.

Сядзіць ён, смуткуе
І бачыць — труба,
Узяў і паднёс яе
Лапай к губам.

І ўраз ажылі
У трубе галасы,
Што ёй аддавалі
Гаі і лясы.

Вярнула аднекуль
Былое яна:
Загрукала лета,
Запела вясна.

У погуках звонкіх
Прачнуліся ўсе:
І птушкі, і ліўні,
І травы ў расе.

Калматы знаходку
Сціскае дужэй,
І гукі плывуць,
Гоняць смутак з грудзей.

Ён грае,
І шэпча бярозавы гай:
— Не памірай!

Ён грае,
І звоніць за гаем ручай:
— Не памірай!

Ён грае,
І вецер шуміць на ўвесь край:
— Не памірай!

І як паміраць,
Калі музыка зноў
Аб шчасці наткала
Шмат думак і сноў!

* * *

Спіць буры ў бярлозе
Пад посвіст завей,
І думак аб смерці
Няма ў галаве.

Сніць белай зімою
Чаромхавы май
І ў сне паўтарае:
— Не памірай!..



## ПРЫГОДЫ ПАТАПКІ

Казкі
Кажуць перад сном
Малалеткам-дзецям,
Калі зоркі за акном
Зіхатліва свецяць.

Зоркі сінія ўгары
Днём спакойна спалі,
Доўга, з раніцняй пары,
Прыцемкаў чакалі.

Вечар прыцемкам густым
Сцелецца паволі,
І ўжо больш не спіцца ім,—
Мусіць, спаць даволі.

Ходзяць зоркі ў цішыні,
Позіркам вясёлым
Аглядаюць з вышыні
Свет зямны наўкола.

Змоўкла поле.
Не шумяць
Каласы у жыце.
Чуйна жаваранкі спяць,
Покуль ранак прыйдзе.

Перапёлкі бачаць сны.
Пліскі сном абняты.
Пад крылом старой жаўны
Не пішчаць жаўняты.

Толькі зайчык шэры
Выскачыў на ўзгорак,
Крадзецца ў гарох.
Мышкі ў час вячэры
Выглядаюць з норак
І бягуць пад стог.

Крот
З бульбоўнікаў у сад
Рые ход.

Тхор
Паўзе да куранят
Цераз двор.

Зоркі рушылі далей
Ясныя, у змроку
Апусціліся ніжэй
Да ракі ў затоку.

У затоццы спяць яльцы,
З краснапёркамі ў цішы
Спяць гальцы
І калючыя яршы.

А ўладар затокі — сом —
Плаўнікі свае пяском
На мялі шаруе,
А мянтуз —
Карапуз
За вугрыцаю крадком
Пад карчом цікуе.

Зоркі ў шлях пайшлі ізноў,
Праз рачныя кручы
Выйшлі ў лес.
Ён без вятроў
Марыць, лес дрымучы.

На вяршаліне сасны
Засынаюць каршуны.
Не варкуюць галубы:
Пад галінамі вярбы,
Што стаіць каля вады,
Ім салодка спіцца.
Зімародак малады
Больш не мітусіцца.

Адны совы
Ля дубровы
Зіркаюць вачыма.
А драчы
Дзяруць горла уначы —
Слухаць немагчыма.

Мох лісіца хітрая
Нюхае ў бары,
Ходзіць, сцежкі блытае
Ля сваёй нары.

На мядзведжую бярлогу
Зоркі глянулі здалёк,
Ды ў бярлозе анікога —
Шэры змрок.

Дзе ж мядзведзь?
Чым ён заняты?
Сінім зоркам не відаць:
Абудзіўся лес кашлаты,
Пачало світаць.

* * *

Квітнее лес,
Дыміцца,
Варушачы галлём.
Расінак завушніцы
Мігаюць серабром.

Стаіць вясёлы пошум
Зялёнага галля.
Жаўтлявао парошай
Засыпана зямля.

Прыгрэтая зарою,
Чысцей расы і шкла,
Цячэ на дол па хвоях
Цягучая смала.

Бярозы-маладухі
Выглядваюць з-за хвой.
Таполі белым пухам
Пакрыты з галавой.

Сівым лісцём махае —
Ляцець бы ёй! — лаза.
Паўзе, нібы жывая,
Па мышшчы дзераза.

Вяршалін вострых пікі
Падняты сасняком.
Гарыць гарошак дзікі
Блакітным аганьком.

А кветкі —
Люба глянуць! —
Стракатаю сям'ёй
Сышліся на паляну,
На летні мітынг свой.

Адна стаіць, цыбатая,
Падняўшы
Парасон.
Лісцём другая кратае,
Б'е ўсёй зямлі паклон.

А трэцяя, чацвёртая
Глядзяцца ў глыб нябёс,
А пятая разгортвае
Пялёсткі ў ззянні рос.

Льюць кветкі пах духмяны
На ўвесь лясны гушчар.
Ірдзее на палянах
Паземкаў ранні жар.

Глухі куток.
Зацішак.
Паземкі могуць спець.
Але з бярлогі выйшаў
Па ягады мядзведзь.

Ідзе ён,
Прысядае,
Рахманы, на нагах,
Сцяжынку аглядае,
Што нікне ў верасах.

Вядзе яго сцяжына
Праз верасы,
Праз мох
Да той лясной мясціны,
Дзе выварацень лёг.

Схаваўшыся ў сасоннік,
Даўно, струхлелы, спіць,
На ім усеўся клёнік,
Прарос як мае быць.

Калматы пераскочыў
Бар'ер,
На лапах стаў
І вырачыў ён вочы —
След нечы напаткаў.

Глядзеў мядзведзь са скрухай:
Хто быў — не ўцяміць сам.

І сцежку ўсю абнюхаў,
Не верачы вачам.

Чый след? Скажы, сцяжына:
Мо ласіны?
Ці казіны?
— Не, бясспрэчна,— медзвядзіны.

* * *

Адкуль мядзведзь?
Мядзведзі
Тут ніколі не жылі.
У рахманага суседзі
Вокал іншыя былі.

На палянах,
На прагалах
Ён іх часта сустракаў.
Ім заўсёды на цымбалах
Весялушкі-песні граў.

За асіннікам зялёным
Кволы клён сагнуўся ў крук.
Пражываў пад кволым клёнам
З барсучыхаю барсук.

На яліне
Каля ўзгорка,
Скуль рака ў лугах відна,
Пасялілася вавёрка —
Без дзяцей, зусім адна.

На сасне,
Ад ветру ўкрыты,
У дуплянай хаце,

Жыў заўсёды знакаміты
Лекар лесу — дзяцел.

У сасонніку густым,
Расхінуўшы верас,
Прызямлілася з усім
Вывадкам
цяцера.

Над ракою, ля гары,
Збудавалі
Хітра
Хату добрую бабры
І траншэі — выдра.

Па-над самаю вадой
У альховым лесе
Шэры дрозд сваё гняздо
На суку павесіў.

На абрывах у цішы
Прапісаліся стрыжы.
А крыху далей ад іх
І ад воч варожых
Прытуліў дзяцей сваіх
Клапатлівы вожык.

Рассяліліся там-сям
Ласкі і куніцы.
Толькі вепрам і ласям
Недзе прытуліцца.

Ды не думалі яны
З меншымі спрачацца,
Парашылі дзесь адны
Убаку трымацца.

На гулянцы,
На абедзе
Шмат стары ў каго бываў,
А суродзіча-мядзведзя
Чуць не чуў і знаць не знаў.

І па сцежцы ўсхваляваны
Ён ішоў у белы свет.
Да сунічнае паляны
Вёў яго прыблуды след.

* * *

На паляне з-за ламачча
Чуе буры —
Нехта плача;

Плача голасам сірочым —
Крыўду збыць слязамі хоча.

Голас крыўды, як бывае,
Толькі рэха паўтарае.

Абляцела рэха долы,
Плач разнесла навакола.

Страпянуўся лес.
Пытае:
— У каго бяда якая?

Птушкі высунулі дзюбы:
— Хто памёр?
Камарык любы?

А звяры глядзяць з-пад хмызу:
— Буры, ўстань!
Зірні на рымзу!

Буры глянуў —
Каля пня
Бачыць ён медзведзяня.

Той раздзеты, босы.
Абляпаны,
Абшарпаны
Паглядае коса,
Сцежку месіць лапамі.

Слёзы горкія з вачэй
Льюцца ў бедака,
Па зямлі цякуць далей,
Не раўнуючы — рака.

Выйшлі з лесу качаняты,
У слязах купаюцца.
Прыскакалі зайчаняты,
Плыць кудысь збіраюцца.

Сонца ў чыстай сіняве
Патанула над лясамі.
А бядак раве, раве,
Заліваецца слязамі.

Працягнуў рахманы лапу.
Кажа:
— Хто ты?
— Я — Па-та-па...
— Хто?.. Патапа?
Э, хлапчына!
Грамацей — не вельмі... слаб.
Ты хацеў сказаць, магчыма,
Што завуць цябе —
Патап?

— Ну!
Патапка я, вядома.
— Скуль жа, госць?
— З лясной глушы.
— Што ж здарылася, бяздомак?
— Расказаць вам?
— Раскажы!

* * *

За мядзведжымі лясамі
Ёсць рака.
Каля ракі
Пасяліліся з ласямі
Сярод пушчы вепрукі.

За ракой,
У цемры зябкай
Між арэшнікаў,
Асін,
Жыў малы мядзведзь Патапка,
Першы ў маці, любы сын.

Маці сына гадавала,
Песні пела,
Берагла
І малому дагаджала,
Як умела,
Чым магла.

Меў малы Патапка
З аксаміту шапку,
Боцікі, кашулі,
Каб хадзіць на гулі,
Мяккую пасцельку,
Куртку ў канапельку,

Лузанцы-арэхі,
Цацкі для пацехі.

Адным словам,
Шмат чаго
Меў сынок ад роду,
Не хапала аднаго —
Пчалінага мёду.

І аднойчы папрасіўся
Ласы капрызуля:
— Мёд салодкі!..
Прынясі
Хоць на зуб, матуля!

Бегала мядзведзіца
Па лясах наўкола,
Пытала,
Дзе гнездзяцца
Меданосы-пчолы.

Ведаў лес ласіны,
Дзе пад галлём хвой
Пражываў пчаліны
Працавіты рой.
Ды яго багацці
Ён не паказаў,
Схітраваўшы, маці
Так сказаў:

— Мокрыя ў нас долы,—
Сцелецца макрыца.
У мокрадзі пчолы
Не хочуць сяліцца.
Слабыя ў іх сілы:
Ледзьве ад вады

Пацяжэюць крылы,—
Гінуць назаўжды.
Раю пашукаць
Сухія лясы,
Дзе сосны шумяць,
Цвітуць верасы.

Дзень мядзведзіца шукала
Тых лясоў,
Тых верасоў,
Мо знайшла б,
Ды ноч настала
З чорным змрокам,
З крыкам соў.

Маці бедная дадому
Ногі
Ледзь прывалакла,
Расказала ўсё малому,
Што пачула,
дзе была.

* * *

Патапка зажурыўся.
Адразу
Спахмурнеў,
Ад злосці калаціўся,
Але схаваў свой гнеў.

Лёг спаць ён,
Невясёлы
Ляжыць,
Не спіць зусім:
Заплюшчыць вочы — пчолы
Раяцца перад ім.

Маленькімі званкамі
Звіняць яны ў вушах,
Паўзуць пад коўдру самі
На тоненькіх нагах.

Густы,
Ліпнёвы водар
Спакою не дае:
Здаецца —
Кропля мёду
У роце растае.

Не зычыць ноч спачынку:
Да ранку навылёт
Патап глытае слінку,
Бо думае пра мёд.

І ён —
Мо ўзяўся спрыт такі
Ад лежкі на баку? —
Рашыў пайсці на хітрыкі,
Каб выпрасіць мядку.

Ледзь зоры адзвінелі,
Схаваўся недзе змрок,
Патапка на пасцелі
Скруціўся у клубок.

Крэкча,
Стогне,
Енчыць:
— Ай, баліць!
Ай, смыліць!
Ай, гудзіць паясніца!

Маці ўстала з печы:
— Што рабіць?

Чым лячыць?
Ці не скажа дактарыца?..

Дактарыца-страказа
Прыляцела з бору:
— Што ж ты топішся ў слязах,
Распранайся, хворы!

Патап заплюшчыў вочы,
Каб смешна не было,
А сам як заякоча,
Аж водгулле пайшло.

Матуля кажа:
— Сыне,
Не румзай, паляжы,
Шаноўнай медыцыне
Хваробу пакажы!

Патапка з енкам адказаў:
— Хачу, каб боль адразу знік,
Інакш не выцерплю, памру!
І загудзела страказа:
— Паставіць трэба градуснік,
Пакліч сініцу — медсястру!

Прыляцела сініца,
Прынесла яна
З птушынае бальніцы
Цвыркуна.

Пры высокіх градусах
Цвыркун
Цвырчыць,
Пры нізкіх бязрадасна
Маўчыць.

Цвыркуна пад паху
Паставілі Патапу,
Ён дрыжыць ад страху,
Аж сапе у сапу:

— Гіну, гіну!
Можа, вы
Схітравалі, медыкі?
Хтось кусае... Мо жывы
Звер-страшыдла гэтакі?

А цвыркун?..
Ледзь-ледзь прыціснуў
Цвыркуна таго мядзведзь,
Ён разок апошні піскнуў
І зарокся больш цвырчэць.

— Сыночак! — голас хмуры
Пачуў тады пястун,—
Тваёй тэмпературы
Не вытрымаў цвыркун.

— Ой, пячэ!
Ой, сячэ! —
Крукам курчыцца Патап.

— Збіце градусы хутчэй! —
Просіць маці.
— Што яшчэ?
— На жывот паложым жаб.

Жаб злавіў на лузе бусел,
Ён ляцеў як мог адтуль.
Ды Патап зароў:
— Баюся!..
Дайце лепш пілюль.

— Пілюлі,— кажа ціха
Страказа сініцы,—
Маюцца ў ласіхі,
Галоўнай урачыхі,—
Злётайце, сястрыца!

Ласіха адказала:
— Да мядзведзіцы сынка
Я пайшла б,
Ды ноч не спала,
Чыхала ад насмарка.
Клікайце да хворага,
Шчыра раю я,
Доктара вясёлага,
Лепш неўрапатолага —
Ляснога салаўя.

Паважаў неўрапатолаг
Ціхія дубровы,
Не любіў, вядома, хворых,
А любіў здаровых.

Ён заняты быў:
Як заўсёды,
Славіў ранак весела.
І сказаў:
— Паклічце ўдода,
Нашага прафесара.

З баравога лесу,
Дальняга раёну,
Прыляцеў прафесар,
Распушыў карону,
Махнуў крылом,
Крутнуў хвастом,
Відаць, прыдумаў штосьці

І рэцэпт цішком
Напісаў пяром
На белай бяросце.

* * *

У рэцэпце літаркі
Накрэмзаў удод:
«Хварэе на хітрыкі,—
Дужа любіць мёд».

Маці паважала
Слаўных дактароў,
Рэцэпт разбірала
Да апошніх слоў.

Крэмзанне птушынае
Цяжка разабраць —
З дзюбамі савінымі
Літары стаяць.

Маці склала літары,
З твару сцёрла пот,
Прачытала блытана:
«Дужым зробіць мёд».

Мудрасць пісаніны
Моўчкі пакляла,
Мёд шукаць пчаліны
Зноў у лес пайшла.

Сыну дарагому
Свой дала наказ:
— Не высоўвай з дому
Носа напаказ!

Бавіць час застаўся
Дома матчын сын,
З кута ў кут сланяўся
Без яе, адзін.

Выйшаў з хаты ў сенцы,
На тапчан узлез,
Адчыніў акенца,
Паглядзеў у лес.

Лес гамонкай дзіўнай
Славіў стрэчу дня...
К хаце медзвядзінай
Бегла ласяня.

Пад зялёным хмызам
Цёрлася хрыбтом,
Хмыз бязрогім, лысым
Кратала ілбом.

— Здароў, сусед!
— Здарова, ласянятка!
— Як справы, дамасед?
— Ды так... усё ў парадку.
А ты?
— Нішто.—
І ласяня
Прыгнула галаву,—
Хварэе маці, бачыш, я
Маліннік ёй ірву.
Хадзі ка мне,
Бо, мусіць,
Абрыдла там сядзець?

— Не, не!
Расы баюся,—
Прамармытаў мядзведзь.

— Расіца проста грае!
Не бойся, пагуляй.
— Ды не! Я не жадаю.
— Тады — бывай.

* * *

Па траве,
Па росах золкіх
Ласяня пайшло дамоў.
Узнімаліся вясёлкі
З-пад ласіных капытоў.

Дамасед глядзеў,
Зайздросціў,
Ціха тоячы нуду:
«Чым я горшы?
Можа, ў госці
Да яго схадзіць?
Пайду!»

Выйшаў.
Хараша на ганку.
Цягне з пушчы халадком.
Ён пайшоў насустрач ранку,
Хату кінуў пад замком.

Крочыць пушчаю,
Без толку
Прабіраецца далей.
Прылаўчыў сваю свісцёлку
Недзе блізка салавей.

Так запеў,
Засвістаў,

Што Патап ледзь не самлеў,
На дыбачкі стаў.

Асіны, бярозкі
Сыпанулі воплескі,
Клёнікі-падросткі
Затупалі спопрыску.

Нават кветкі, што стаялі
Покуль соннымі,
Паўставалі,
заківалі
Парасонамі.

Тут Патапка пільным слыхам
Навіну злавіў адну:
Хтосьці побач ціха-ціха
Кратаў кволую струну.

Хто?..
Патап усё агледзеў,
А струна гула, гула...
На шыпшынніку прыкмеціў —
Завіхаецца пчала.

З першай кветкі
На другую,
Праляцеўшы трохі,— скок!
Парасон яе прыгнула,
Запусціла хабаток.

— От знаходка! — ён разважыў,—
От дзівосная струна!
Не спушчу з вачэй...
Пакажа
Шлях да пасекі яна.

З кветкі на кветку
Водар пчолку гнаў.
Патап неўпрыкметку
Следам наступаў.

Цікаваў, старанны,
Вачамі за ёй,
Краўся праз паляны
Па траве густой.

Больш ужо нячутны
Салаўіны спеў.
Лес шуміць магутны
Верхавіннем дрэў.

Цёплы вецер вее
З волкіх лугавін.
І рака сінее
Між крутых страмін.

У пчалы на ножках
Дзьмухаўцовы пыл.
Узнялася з ношкай,
Ледзь хапіла сіл.

Вось яна... ля хвоі.
Можа, схопіш, зух?
Мёдалюб — за ёю...
Ды знячэўку — бух!

. . . . . . . . .

Страміна.
Рака.
Ні пчалы.
Ні мёду.

Нясуць дзівака
Сцюдзёныя воды.

* * *

Калі з ракі сцюдзёнай
Патап на сушу ўзбіўся,
Пад ельнікам зялёным,
Як мёртвы, паваліўся.

Здавалася малому,
Пакуль храпеў на лапе,
Што ён, забыўшы стому,
Спіць дома на канапе.

Сніў жаб:
Яны, назолы,
Вакол яго абселі,
Ад іх магільны холад
Ідзе, паўзе па целе.

І ён прачнуўся хутка.
Здалёку краўся вечар.
Ды сумная прабудка —
Паласавацца нечым.

У дрыжыках спрасоння
Малы здзівіўся вельмі:
«Што стала? Дзе я сёння?
Куды забраўся, шэльма?

Ні хаты,
Ні канапкі,
Ні жаб няма балотных.
Ялін звісаюць лапкі,
Гамоніць лес журботна...»

У лесе незнаёмым
Заліўся ён слязамі:
Між ім і родным домам
Кіпіць рака вірамі.

Пытаў сябе нягеглы:
«Дык што ж рабіць?
Тапіцца?»
Тым часам міма бегла
На вадапой лісіца.

Спаткаўшыся, застыла,
Бакі са злосці пыжа,
Са страху распушыла
Свой хвост агніста-рыжы.

Патап з такою злюкай
Нідзе не сустракаўся,
Прысеў, сагнуўся крукам,
Лагодна запытаўся:

— Ты хто? —
Маўчыць яна.
— Па што? —
Дрыжыць яна.

Тут сцяміла лісіца,
Што ён хоць і мядзведзь,
Але яе баіцца —
Тут нечага дрыжэць.

Сказала:
— Я — пажарніца.
Я зведала нягоду.
Пажар да рэчкі цягнецца.
Давай адгэтуль ходу!

Хіба пажар?
Цямнеў гушчар.
Рака віры круціла.
Зара загрыўкі белых хмар
Над лесам падпаліла.

* * *

У зараснік лісіца
Зававіла яго
І кінула, хітрыца,
Патапа аднаго.

Мядзведзь скасурыў вочы:
Куды далей ісці?
Дзе ў лесе цёмнай ноччу
Начлег сабе знайсці?

Згадаў матулі ласкі,
Хаціну, дзе цішком
Лясныя байкі-казкі
Ён слухаў перад сном.

Гукнуў матулю:
— Дзе ты?
Скажы, я прыбягу! —
Адклікнуліся нетры
Яму ў адказ:
— У-гу!

Паклікаў маці зноўку
І вушы навастрыў.
Здаля той покліч звонка
Лес цёмны паўтарыў.

І ён пайшоў,
Раз-пораз

Жадануючы гукаў,
Хоць чуў знаёмы голас,—
Нікога не спаткаў.

Чаму?
Ды ў вас такая
Загадка ёсць, лясы:
Заўсёды паўтарае
Тут рэха галасы.

Патап, бядак няшчасны,
Лясных не ведаў дзіў —
За голасам уласным
Да раніцы хадзіў.

Хто тут яго прытуліць?
Азыз ён,
Ногі збіў,
Парваў крысо кашулі
І боцікі згубіў.

Як за раку прабрацца?
Дзе кут знайсці ў бары?
Такога абарванца
Спужаюцца звяры.

Не спаў, бяздомак, ночку,
Прыкідваў так і сяк:
«Залатаць бы сарочку,
Абуцца!..
Толькі як?»

* * *

Не шукаючы дарожак,
Па лясной паляне

Вёў сям'ю тым часам вожык,
Мусіць, з палявання.

Бацька, смелы паляўнічы,
Галава ў атрадзе,
Валачыў мяшок здабычы —
Яшчарак і гадзін.

А балельшчыкі футбола,
Вожыкавы дзеці,
Гналі мяч палянай голай —
Порхаўку пад вецер.

— Стой! —
Патап устаў з засады
І здзівіўся:
Толькі
Засталіся ад каманды
У клубках іголкі.

Ён падумаў:
«Эх, рабя́ты!..
Выйшлі без футболак...» —
І сабе адзежу латаць
Папрасіў іголак.

— Ёсць іголкі,
Выдаць можам.
— Ніткі?
— Не,— гаворыць вожык,—
Не матаем мы клубкоў,
Ніткі ёсць у павукоў.

На калючую сямейку
Ён глядзеў з тугою,
Сам жа порхаўку знячэўку
Раздушыў нагою.

Порхаўка сухая
Пад нагою — хлоп!
Парахня густая
З-пад нагі ды ў лоб.

У вачах Патапа
Мітусіцца змрок,
Быццам нехта капай
Неба завалок.

Працірае вочы
Ён ад парахні,
Свет пабачыць хоча:
Неба, верас, пні...

— Гэй, вы! —
Вожыкаў паклікаў,
Не ідуць на выклік.
Хітруны без шуму-крыку
Недзе ў лесе зніклі.

Ён пад хвояй прысядае,
Топчацца на месцы,
Парахню з сябе страсае,
Ды не можа стрэсці.

* * *

Задрыжалі раптам гаці,
Скалануўся сасначок.
На драўляным самакаце
Ехаў лесам барсучок;

Для дзядулі — той без іклаў —
На сабе сняданак вёз:

Баравой капусты, вікі,
Земляных арэхаў воз.

Барсукоў унук-пракуда
Ля Патапа збавіў ход,
Думаў, пчол страсае кудла,
Хоча выкрасці іх мёд.

Бачыць —
Кудла, нібы ў сажы,
Круціць, верціць галавой.
— Бомбу атамную,— кажа,—
Я раструшчыў пад сабой.

— Бомба страшная,— ад смеху
Самакатчык аж раскіс,—
Ну, сядай! Пара мне ехаць.
Не скаціся, дружа, ўніз.

Барсучок на месца ўсеўся
І націснуў на педаль,
Толькі водгулле па лесе
Шуганула гулка ўдаль.

Самакат ляціць,
Па следу
Пыл курыцца.
З-пад гары
Весяляцца,
едуць,
едуць
Два свавольнікі-сябры.

А наперадзе хваіна
Нізка звесіла свой сук.
— Стоп! —

Ляціць далей машына.
— Стоп! —
Зароў мацней барсук.

Ён праскочыў, паімчаўся
Па зялёным сасняку,
А Патап вісець застаўся
Кілбасою на суку.

— Ой, ратуйце! — у імшарах
Енчыць.— Карак я зламлю...
Сук не вытрымаў цяжару,
З трэскам рухнуў на зямлю.

* * *

На зямлі расце лаза,
Пад лазою — дзераза,
Дзеразу дзярэ каза.

Налупіла дзеразы
Роўным лікам тры вазы
І палезла да лазы.

Казляняты побач з ёй
Не займаюцца гульнёй,
Абавязак маюць свой.

Самы большы лазіну,
Нахіліўшы пад сасну,
Спрытна дужкаю сагнуў.

Ён сказаў:
— Лазовы сук
Я скруціў, глядзіце, ў крук,—
Будзе ў нас надзейны лук!

Самы меншы, што без рог,
З дрэвам справіцца не мог,
Па лясны пайшоў гарох.

Абвясціў:
— Струкі люблю,
Сам сабе іх нашчыплю,
Вас таксама накармлю.

А сярэдні сеў на пень.
Скінуў з дудачкі рамень
І зайграў пра ясны дзень.

Ён сказаў:
— Чым так сядзець,
Лепш на дудцы падудзець,
Працавітым песні спець.

Праца спорыцца,
Наўкол
Лес шуміць,
Трасецца дол.

Дзе ж сівы, стары казёл?

Заказаў старому дзік
Сорак пар абутку з лык —
Босым бегаць не прывык.

Пры зялёнай пры сасне
Майстар лыкі ў скрутак гне,
Нават вокам не міргне.

Пад сасною на суку
Вецер сушыць у цяньку
З лык пантоплі вепруку.

Вандраваў Патап без спраў,
Да казла ён завітаў,
Пра абутак запытаў:

— Прадаеш?
— Не прадаю.
— Так даеш?
— Не! Не даю!

Мы, казлы, свой гонар маем,
Падкупіць нас цяжка.
Што там купля!..
Лепш згуляем,
Хлопча, ў перацяжкі.
Перацягнеш ты,— бяры
Вобуй мой без платы.
Сіл не хопіць —
Схіл гары
Носам рый, кудлаты!
Вось, бадай, усё ў мяне.
Так ці не?

— Так! —
Пагадзіўся з ім дзівак.

Разматалі лык маток.
Разам выбралі пянёк,—
Ён ні нізак, ні высок.

— Станеш ты, Патап, на пні,—
Загадаў казёл.— Цягні,—
Сілы ўсе свае напні!

Стаў мядзведзь на пень нагой,
Стаў нязручна, бо другой
Пня не чуе пад сабой.

А казёл мясцінку сам
Выбраў знізу:
Добра там,
Ёсць дзе ўперціся нагам.

Ён паклікаў казлянят:
Перад імі бацька-хват
Пахваліцца сілай рад.

— Пачынаць пара!

Гульцы,
Быццам з гора, уздыхнулі,
Лыка, ўзяўшы за канцы,
Што ёсць сілы пацягнулі.

І на пні,
І каля пня
Пачалася тузатня.

Патап напінаецца,
Казёл упіраецца,
Капытамі дол дзярэ,
Болей хітрасцю бярэ.

Шум стаіць.
Дуда дудзіць.
Лыка слабае трашчыць.

Хто смяяўся,
Хто дудзеў,
Хто матаў рагамі.
А Патапка паляцеў
Дагары нагамі.
Ён ляцеў
Праз лес густы,

Праз лазовыя кусты
Пад шыпшыну ў роў круты.

* * *

Пад шыпшыннікам без сонца
Чэзнуць лысыя пянькі,
Навялі свае красёнцы
Тут пачвары-павукі;

Ткалі з пражы
Хітра сецi,
Выраблялі штучны шоўк...
Іх Патап здаля прыкмеціў,
К ім па ніткі ён прыйшоў.

Павукі аслупянелі:
Скуль такі шаноўны госць?
Аднадушна зразумелі,
Што ў мядзведзя справа ёсць.

А мядзведзь сваёй апраткі
Паказаў і верх, і спод:
— Трэба ніткі.
Трэба латкі.
Патрабуецца рамонт!

— Латаць нам старызну?..
Што вы!..—
Павукі яму ў адказ.—
Мы каптан пашыем новы,
Самы модны, на заказ.

— Калі ласка!—
Схітравалі
Разявак лясных лаўцы,

Захадзілі, заснавалі,
Хіжакі, ва ўсе канцы.

Завіхаюцца, пачвары,
Свой скрываючы намер.
Рады ўсе, што іх ахвярай
Стаў дужэўшы ў лесе звер.

Цягнуць хціўцы павуцінне,
Сець плятуць —
За рэддзю рэдзь,
І ў ліпучай блытаніне
Завалтузіўся мядзведзь.

— Адпусціце, мухаловы! —
Лямантуе, просіць ён.
— Не адпусцім!
Безгаловы,
Бачыш — трапіў у палон!

Тут над ім,
Над павуціннем,
Над вяршалінамі хвой
Заклубіўся ў небе сінім...
Хто вы думаеце?
Рой.

І нявольнік аж затросся
І разявіў прагна рот:
З неба сіняга, здалося,
Пацячэ салодкі мёд.

Ён натужыўся як трэба,
Скінуў путы-кайданы,
І зірнула ў вочы неба,
І пад ім — абшар лясны.

* * *

Вісеў блакіт вясёлы,
Бяссмертнікі цвілі.
Звінелі роем пчолы
Высока у вуллі.

Калісь ляснік калоду
Да хвоі прывязаў,
Ад пчол лясных прыплоду
І ўзятку іх чакаў.

Ён ведаў, што аб мёдзе
Турбуецца мядзведзь,
Таму пакінуў боўдзень
Пад вулеем вісець.

Матляўся боўдзень доўга
На хвоі пад галлём,
Не дапускаў нікога
З зямлі ў пчаліны дом.

Патап сюды падкраўся,
Сеў ціха каля пня,
Падглядзець пчол збіраўся,
Чакаў зыходу дня.

Калі ж павечарэла,
Замоўклі птушкі спрэс,
З-за пня ён выйшаў смела,
Да вулея палез;

Паўзе, сасну трымае
У вострых кіпцюрах.
Мёд блізка, адчувае,
Ды боўдзень збоку — бах!

Патап падаўся ўправа,
Гуз на баку паскроб,
Але — ізноў праява! —
Падставіў боўдню лоб.

Пасыпаліся іскры
У ласуна з вачэй,
Кару ён з хвоі выскраб,
Ствол абхапіў ямчэй.

Ён туды —
Пад рэбры ўдар,
Ён сюды —
Штуршок у твар.
Куды ні паткнецца,
Боўдзень следам носіцца,
Б'е па боку,
Б'е пад сэрца,
Б'е па пераносіцы;
Скалаціў, змалаціў,
Вытаўк, аддубасіў,
Пад зарокам адпусціў,
Каб да пчол не лазіў.

Патапка прагнуў мёду,
Сніў соты ўсе дзянькі,
А вынес з-пад калоды
Не мёд, а гузакі.

З тугой згадаў яшчэ раз
Гаротнік родны дом
І праз хмызняк, праз верас
Паклыпаў прасцяком.

Ён клыпаў, заракаўся,
Навошта хітраваў,

Лайдачыў, ленаваўся,
Матулю зняважаў.

За тое, мусіць, вызнаў
Бяды і гора шмат.
Не быў бы больш капрызным,
Калі б прыйшоў назад.

Малы блукаў і плакаў
Да раніцы ў бары.
А ранкам небараку
Сустрэў мядзведзь стары.

Сказаў яму:
— Ну, годзе!
Не плач. Жыві са мной.
— Не, лепш да маці пойдзем,
Ёй сумна там адной.

— Відаць, надзеі мала
Самім знайсці твой дом,—
І ўзяў стары цымбалы,
Што нёс пад армяком.

* * *

Яловыя цымбалы
Адразу ж ажылі,
Не для пустой забавы
Зайгралі, загулі.

Наўкола абудзілі
Зялёныя лясы,
Дзе росы ў травах стылі,
Драмалі верасы.

Пачула рэха недзе
Іх звонкі галасок,
Адразу ж да мядзведзя
Прымчалася здалёк.

Мядзведзь сказаў:
— Лайдачыла
Ты, рэха, у цішы.
Мядзведзіцу ці бачыла
За рэчкаю ў глушы?

Яно залапатала,
Пасыпала, бадзёрае:
— Мядзведзіца,— сказала,—
Ляжыць у хаце хворая,
Айкае, охкае,
Па сыну ўздыхае,
Толькі лес галёкае,
Стогны паўтарае.

— Нарабіў ты ёй бяды,—
Пнуў стары Патапа.—
Як дабрацца нам туды,
Неслух і расцяпа?

Маўчыць ён вінавата,
Бяздомны матчын сын,
Не ведае да хаты
Ніводнай са сцяжын.

Рэха зноў сказала:
— За мною ідзіце
Наўпрост,
Нямнога, нямала,
Якраз адлічыце
Сем вёрст,

Ды яшчэ паўстолькі,
Ды чвэртку столькі,
Тады ўжо толькі
На трынаццатай вярсце
Звернеце направа,
Пойдзеце дубровай.
Там, дзе цар-сасна расце,
Будзе пераправа
Работы бабровай.

Нялёгкую задачу
Мядзведзям задалі.
Што ім рабіць?
Наўдачу
Ісці ці не?
— Пайшлі!

Прайшлі яны сем вёрст,
І паўстолькі,
І чвэртку столькі.
Гамоніць цар-сасна.
А дзе ж бабрыны мост?
Пашукалі.
Толькі
Маста ўсё не відаць.
Шуміць рака: да дна
Жардзінай не дастаць.
Мядзведзі напаткалі
Наводшыбе бабра:
— Дзе мост твой? — запыталі
Ракі гаспадара.

— Мост быў,—
Сказаў бабёр,— як водзіцца,
Ды сплыў
Вясною ў час разводзіцы.

— Што ж нам рабіць?
Скажы, парадзь:
Праз хвалі плыць?
Ці новага чакаць?

— Мы б новы збудавалі,—
Бабёр прызнаўся ім.—
Ды зубы памянялі,
Не справіцца адным.

— Не справіцца? — стары матнуў
Рашуча галавою.—
Ну, што ж,— цымбалы ён крануў,—
Пасобім талакою!

* * *

— Клічам, клічам талаку! —
Рэха ў лесе трубіць,—
Просім, просім на раку,
Тых, хто працу любіць!

Рэха ўсе куткі абнікала,
Пушчы і дубровы,
Хто дзе быў, паклікала
Мост узводзіць новы.

Кліч бабры-маставікі
Першымі пачулі,
Да знаёмае ракі
Гуртам сыпанулі.

Іх бабрыны брыгадзір
Склікаў ля страміны,
Загадаў валіць на вір
Гонкія асіны.

Выдры выйшлі на пясок
З ледзянога віру.
— Дай і нам нарад, браток! —
Просяць брыгадзіра.

— Вам работу я знайшоў.
Просьба паднатужыцца:
Налавіце нам яршоў,
Наварыце юшыцы!

— Мы ярша не ловім,— строга
Выдры запярэчылі.—
Будзе ў юшцы плаваць стронга,
Паспытайце ўвечары.

Покуль рэчкі жыхары
Размаўлялі на пяску,
З лесу цёмнага звяры
Выйшлі ўсе на талаку.

Лось рагаты бервяно
На плячах прыпёр:
— На, кладзі яго на дно,
Дарагі бабёр!

З барсучыхаю барсук
Праз хмызняк пралезлі
І крывулю — з дуба сук —
На сабе прынеслі.

Корч казёл з пляча спусціў,
Казляняты — дошкі,
Вожык камень прыкаціў,
Хоць засопся трошкі.

Дзік магутны з ройла ўстаў,
Выйшаў на страміну,

— Я,— гаворыць,— да маста
Дзёрану падкіну.

Хто працуе над вадой,
Хто ў вадзе па пахі.
Мост будуюць талакой
І звяры, і птахі.

Кнігаўка крычыць:
— Ку-гі! Кі-гі!
Чвыр гачу на берагі.

Драч сваё:
— Др-р-ра! Др-р-ры!
Наступайце на віры!

А сарока:
— Чык-чы-чы!
Чым драчу дапамагчы?

А сініцы:
— Цылі! Ці-лі!
Тое-сёе мы насілі.

А варона:
— Кр-р-ра! Кр-р-ра!
Стронгі бурт — варыць пара!

На масту
І пад мастом
Кожны справу мае.
Ды адна ліса хвастом
Без турбот віляе.

— Што ты робіш, хітрая?—
На яе зароў мядзведзь.

— Мне б кухарыць з выдрамі...
А Патапку?.. Так сядзець?..

Той у працы, сапраўды,
Быў не вельмі прыткі,
Ён усеўся ля вады,
Цёр хвашчынай лыткі.

— Труцень,— буры ўгневаўся,—
Годзе лынды біць! —
Бачыш, носяць дрэвы ўсе,
Мог бы пасабіць.

Падхапіў Патап з куста
За цаўё даўбешку
І падыбаў да маста,
Выйшаўшы на сцежку.

— Ах! — даўбешкаю махнуў,
Цэліўся па палі,
Але міма дзеўбануў,
Скаламуціў хвалі.

Казляняты ўзнялі піск:
— Ты не так, Патапка, б'еш;
Падымаеш мора пырск,
Нас вадою абдаеш.

Пакаціўся дружны смех:
— Ну, яшчэ раз плюсні! —
Уздыхнуў Патап, як мех
У гарачай кузні.

Стаў ямчэй у грамадзе:
— Ах! —
Пабегла хваля,

І схавалася ў вадзе
Дубовая паля.

Лезуць палі, бы цвікі
У васковы скомак.
Паглядаюць дружбакі:
Ён рабіць — не зломак.

Прыляцеў аднекуль дрозд,
Запазніўся крыху:
— Будзе мост!
Будзе мост!
Паглядзі, драздзіха!

Шум стаіць.
На ўвесь прастор —
Птушыны гармідар.
— Хто пацеў,— сказаў бабёр,—
Прыз найлепшы выдам!

* * *

Падымаецца рака,
Хвалямі ўскіпае.
Заціхае талака,
Вечар наступае.

Сталі ўсе на поўны рост,
Дружна узняліся.
Люба глянуць: добры мост! —
Хоць па ім каціся.

Можаш сам, Патап, ісці,—
Дом твой недалёка.

Працавітым у жыцці
Шлях адкрыт шырока.



## У ГРЫБЫ

Позна,
Калі ўсе спалі
Пад зорным начы крылом,
Прачнуўся ў далёкай далі
Няўрымслівы дзядзька — гром.

З-пад коўдры —
Кужэльнай хмары —
Выбраўся, ў шлях ідучы,
У бубен тугі ударыў
Дожджыку на зачын.

Вецер грамку,
Як другу,
Пра смагу зямлі данёс.
На вежы млыновай флюгер
Круць! — і па ветры нос.

Люстра стаўка,
Дзе зоркі
Збіраліся ля трысця,

Разбілася: хвалі-зборкі
Пабеглі па ім наўсцяж.

З клёнаў,
З бярозак белых,
Стаміўшыся ўжо вісець,
Ад бухання ўніз зляцела
Восені блізкай медзь.

Гром жа,
Як ліхаманка,
Кудлы хмурыны трос.
Жыгаўка хмар — маланка
Высвечвала даль нябёс.

Глядзела,
Дзе ўшчэнт пасохла
Зямля без жывых расін,
Засмягла і стала охрай
Лісце лясных раслін.

Туды
І ссыпала хмара
Скарб свой вільготны ўвесь —
На палявыя абшары
І на замораны лес.

* * *

Ліўся дождж.
За цэлы месяц
Абдаваў усё датла.
І зямля ў дрымучым лесе,
Як гавораць, зацвіла.

Неўзабаве,
Можа, ўранку,

Можа, ноччу
Хтось наўгад
Сыпануў на дол жаўцянкі —
Першынцаў-лісічанят.

Дні праз два,
Узмогшы трошкі,
Дружна, быццам для гульбы,
Паўзнімаліся на ножкі
Шараватыя грыбы.

Па суседству,
Бокам зелень
Расхінаючы,
Адны
Рабаватыя заселі,—
Далібог, дазор грыбны.

Белашапкі
Дужа ўвішна
На дарогу
З моху
Выйшлі,
Ад яе — ў гушчар ласіны,
А ў ім сталі на пастой
Пад крушынай,
Пад альхой.

Гурт грыбоў
Перапялёсых
Сеў ля пнёў,
Імхом аброслых.

А паблізу
На прымятым
Рыжым шыгаллі баркоў

Строй устаў зеленаватых,
Нізкашапкавых грыбкоў.

Каля іх
З зямлі баровай
Грыб пайшоў чорнагаловы,
Грыб жаўцюткі,
Грыб сінюткі
І, нарэшце, ля асін —
Чырванюсенькі зусім.

Адным словам,
Дождж насеяў
Шмат дароў па ўсіх лясах,
Каб сабралі людзі ўсе іх,
Не павезлі б на вазах.

Лес не ведаў,
Што рабіцьме
З мноствам скарбаў — без цаны.
Ён шаптаўся, думаў быццам
Прыхаваць усё ў цяні.

* * *

Дзьмуў вецер негарачы,
І ранкам на вятры
Збіраўся сад дзіцячы
Пагрупна на двары.

Яго старэйшым групам
Няўседліва было:
Шлях вабіў сэрцы рупных
З двара аж за сяло.

Двор, ціхенькі даволі,
Бязлюдны ў час такі,

Людней, людней паволі
І стаў, як вір ракі.

У тым, дзяцьмі набітым,
Ажыўленым вірку
І забаўкі забыты,
І цацкі ўсе — ўбаку.

Больш не скрыпяць арэлі,
Іх люлькі — ўніз насы.
Затое пазванчэлі
Няўседаў галасы.

Двор, праўда, кіпень віра
Нагадвае сабой.
Тут Тоні,
Толі,
Віры
Гудуць наперабой.

Ірынкі
І Марынкі
Аспрэчваюць Палін,
А Дзімкі
І Максімкі —
Ірынак і Марын.

Не ціхне сад дзіцячы,
Мацнее гамана,
З двара йдзе за парканчык
На вуліцу яна.

Чаму ж на ўвесь дзядзінец
Вядзецца спрэчка ўслых?
Мо штось не падзялілі
Дзетсадаўцы на ўсіх?

Такога не бывае.
Заўжды дзіцячы сад
Час марна не збывае,
Ўсё робіць акурат.

Прывык ён да парадку
І без яго — ні-ні,
Ці выйшаў на зарадку,
Ці то прыбег з гульні.

Ён згуртаваны дужа,
Хоць трохі гаваркі...
У двор сышліся дружна
Дзяўчынкі й хлапчукі.

Ідуць уздоўж дарожак,
Гавораць ідучы,
Што ні рука — то кошык
З ракіты ці з лучын.

Куды ж ты, дзетвара ўся?
Брацъ вішні ці бабы?
Не, сад ісці сабраўся
У гры-бы.

Ляжыць яго дарога
Ад ганка на двары
Да берага рачнога,
Далей — у гушчары.

А там?..
А там, казалі,
Дзе водзяцца ласі,—
Грыбы... грыбы...
Вазамі,
Калі б сабраць, вазі.

Раз многа,
То, вядома,
Рашыўся хтось спытаць:
Ці ўсякі грыб ядомы?
Ці ўсе іх можна браць?

* * *

— Што знайду,—
Рашыла Долка,—
Пойдзе ў груд,
Абы кашолка
Напаўнялася з гарой,
Была з пуд
Вагой.

— Грыб да грыба...—
Чмыхнуў Петрык.—
Можна хіба
Браць іх гэтак? —
Паглядзеўшы па сяброў,
Ён давёў:
— У кошык
Не вазьму благіх грыбоў,
Набяру харошых.

— Ну, збірай!
Хадзі, дзівак,—
Загудзела Вета,—
З бору ў гай,
З яго ў хмызняк —
Выхадзіш паўсвета,
Толькі прыйдзеш з пошукаў
Без грыбоў у кошыку.

Ціха кратаў цёплы вецер
Стужку Вецінай касы,

Нёс па садзе голас Вецін,
З ім — такія ж галасы.

Шчабятуха Міра
Глянула няміла
Ды прагаварыла:
— Дома госць чаканы —
Грыб любы.
І ўсе пажадана
Брацъ грыбы.

На Міру Марынка,
А з ёю Ірынка
Лыпнулі вачамі,
А з імі Максімка,
А з Максімкам Дзімка
Хітра прамаўчалі.

Абвясціў Валодзя
Сваю завядзёнку:
Ён усё, што знойдзе,
Пакладзе ў пляцёнку —
Грыбы буравconfigure,
Як зара, барвовыя,
Трохі васпаватыя,
І чорнагаловыя,
І адменна рыжыя,
І ўсе, і ўсе іншыя.

— Годзе вам! —
Адсек Піліп.—
Галаганім
Да паўдня...
Людзі кажуць:
Грыбу грыб —
Не раўня.

Сад не змоўк.
За словам — словы:
Не ўтрымаць іх на губах.
Склаўшы довады, высновы,
Спрэчка ўзнікла аб грыбах —
Хто з іх лепшы?
Хто смачнейшы?
Хто найболей прыгажэйшы?

* * *

Шмыгала сарока
Па садах і парках,
Збірала навокал
Навіны пляткарка.

Кепскія навіны
Дзе ў садах вы чулі?
Выспеліналівы,
Даспяваюць дулі.

На вішанні ягад
Па цэлай пляцёнцы.
Пазіраюць з прагай
Ягады на сонца.

Садавод на скарбы
Глянуў і зажмурыў
Вочы ад іх фарбаў,
Як які Мічурын.

Юны садаводзік
Вядзе ў дзеда роспыт
Пра бэры ды ў роцік
Цягне іх — на поспыт.

Сад стаіць з прыгібам
У зыркай сарочцы.
Не знайсці тут хібаў
Для плётак сароцы.

Крылатая шмыга
З саду знікла ўпотай,
Абследвала выган
Ды ў парк дала лёту.

У парку ля клуба
Вокрыкі і свісты:
Ваююць за кубак —
Прыз свой — футбалісты.

Школьны парк...
З дасвецця
У ім гулі-булі:
Галаганяць дзеці
І маўчаць бабулі.

У канцы алеі
Гушкалкі
Мільгаюць —
Бальшуны паселі,
Пад неба ўзлятаюць;

Мару ткуць пры гэтым —
Год праз пяць ці дзесяць
Асядлаць ракету,
Паляцець на Месяц.

Апусціла крылы
Нехаця сарока,
Бо ляцець не ў сілах
За марай высокай.

Гэткія няўдачы!..
Хто ж яе сурочыў?
А мо ў сад дзіцячы
Сунуць нос сарочы?

Села сакатуха
Ля сада на комін,
Навастрыла вуха,
Чуе — ў садзе гоман.

Хлапчукі й дзяўчынкі
Там, на панадворку,
Вядуць без упынку
Пра грыбы гаворку.

Шмат неверагодных
Слоў сплялі наўмысна,—
Які грыб нягодны,
А які карысны?

Пляткарка нагою
Туп! — аж захрусцела,
І пяро даўгое
Выскубнула з цела.

Атрамант птушыны
Разбавіла сажай,
Запісаць рашыла,
Што хто ў спрэчцы скажа.

Ледзь пачуе слова,
Ставіць і, бывае,
Ад сябе тры новых
Побач прыбаўляе.

Пратакол сарочы —
Адно адсябяцце:

Лопнеш, як захочаш
Да сэнсу дабрацца.

А яна ўсё піша,
Быццам эпапею,
Круціцца — не выйшаў
Рулончык паперы.

Спісала нямала,
Круціла рулончык,
Пакуль не зламала
Пяра свайго кончык.

Глянула нявінна
На слуп слоў даўжэзны
І ў лясы навіны
На хвасце панесла.

* * *

І тады...
Тады з варот,
Спрэчкі жар задзьмуўшы,
У няблізкі свой паход
Сад дзіцячы рушыў.

Ён прамераў паўсяла
І змяніў напрамак —
Вулка ўпоперак лягла
Да аселіц прама.

За сялом жытоў нажын,
Копкі ў неба лезуць,
Шлях улукаткі бяжыць
Праз іржэўе к лесу.

Сад праходзіць ля вазоў —
Людзі збожжа звозяць.
Даганяюць меншуноў
Бальшуны ў дарозе.

Весялей цяпер усім.
Строй расце, даўжэе.
Выхавальніцы за ім
Крочаць праз іржэўе.

Дужкі кошыкаў к рукам
Прыліпаюць ёмка.
Добра йдзецца грыбнікам,
Думаецца лёгка.

Сонца свеціць.
Каля ног
Канапелькі ўсталі.
Поле кончылася.
Лог.
Непакась густая.

Цяжка з зарасся травы
Выбрацца нагамі.
Вецер выбег, як жывы,
Юным памагае.

Ім насустрач —
Хто? Ляснік?
Не, стары настаўнік,
Знакаміцейшы грыбнік,
Іх дарадчык даўні.

Угінаецца, нясе
Ён кашэль паўнюткі.
І яго, вядома, ўсе
Абступілі хутка.

Па чарзе жадаюць кош
У руках паважыць:
Шмат грыбоў насеяў дождж,
Будзе што падсмажыць.

Роспыт свой вядзе натоўп
Аб грыбной навуцы:
— Дзе набралі?
— Колькі коп?
— Як грыбы завуцца?..

А настаўнік:
— Нахапу
Браў, па лесе нікаў.
Налічыў адну капу,
Потым збіўся з ліку.

— Трэ лічыць,—
Адзін хлапчук
Дружбакам параіў.—
Бо як я грыбы лічу,
Болей іх збіраю.

— Гаварыла мама,—
Данік з гурту лезе,—
Хто збірае мала,
Лічыць той раз дзесяць.

Грымнуў рогат:
— Эх, душа!
— Малайчына, Данік!

На траву грыбы з каша
Выгарнуў настаўнік.

Многа будзе?
— Не гадай,

Лепш лічыць збірайся.
— Данік! Данік!
Пачынай,
Толькі не збівайся.

Ён на кукішкі прысеў,
Груд кладзе з падборам.
Лічыць, лічыць...
Лік усе
Паўтараюць хорам.

Выклаў з гакам тры капы,
Зірк па-заліхвацку:
— От грыбы!
Усе грыбы —
Точаныя цацкі.

Сціплым быць стары прывык
У грыбной навуцы.
А зірнуў і як грыбнік
Не мог не ўсміхнуцца.

З груду нешта беручы,
Сам сказаў таемна:
— Падсасновік...
Толькі чын
У яго ваенны.
Ён — грыбовішч уладар,
Войск грыбных палкоўнік.
Па натуры ў іх радах
Хвойнікаў паклоннік.
Ля бяроз, лясных лазін
Часам пройдзе трохі.
А тады-сяды адзін
Сядзе ля дарогі.
Хоць няёмка аднаму,

Сумавацъ не будзе.
Як ідуць, усе яму
Кланяюцца людзі.

Сад адобрыў:
— Чын цікавы!
Грыб — не шыпшаль там які!
— А вось той, крыху жаўтлявы...
— Скуль ён родам?
— Хто такі?
— Радавы.
Яго пагоны
Без палосачак зусім.
Ён жа хоча, каб паклоны
Адбівалі й перад ім.
Задаецца: бач, не многім,
А яму гушчар лясны
Сцеле ў летні час пад ногі
Імшаныя дываны.
А як ён ідзе лясамі,
Мусіць, вы ўявіць маглі б...
Можа, ведаеце самі,
Як завецца гэты грыб?

Сад на Даніка насеў,
Позіркам упіўся:
Маўляў, вёў падлік як след,
Тут не памыліся.
Зразумеў сяброў намёк
Данік-першакласнік,
Над сабой узняў грыбок,
Адчаканіў ясна:

— Радавік —
Махавік,
Фанабэрыцца прывык...

Доўга з дзецьмі гаварыў
Друг іх ганаровы
Пра дажджу, зямлі дары
У лясах мясцовых.
Хто з іх любіць бор-галяк,
Хто — гушчар імшаны,
Хто — сасняк,
Хто — беразняк,
А хто лес — мяшаны.

* * *

Раскрылілася сарока,
Даўшы з сада ходу,
Над зялёнаю старонкай —
Зарэчнай выгодай.

Пралятаючы, вачыма
Зіркала: дзе ж сесці?
І рашыла першым чынам
Пашмыгаць на ўзлессі.

На сасне была з хвіліну
Пад курчавай шапкай,
Гурт прыкмеціла ялінак —
Скок адной на лапку.

Крутанула толькі дзюбай
І — на сук асіны,
А з яе — на пень ад дуба
І — на дол раслінны.

Тут з рулончыка паперу,
Быццам з матавіла,
На імхі, прагалы, верас
Хвастом раскруціла.

Зацікавіўся сам ветрык
Пратаколам птушкі,
Па лясных зашастаў нетрах
Папяровай стужкай.

Дрэвы ўсцяж зашапацелі,
Верасы паніклі.
З іх якія ж грамацеі? —
Чытаць не прывыклі.

А грыбы на баравінах
Выцягнулі шыі:
Ці зайздросныя навіны
З ветрыкам прыйшлі ім?

З рос, што лепей за рубіны
Ад святла ірдзелі,
Акуляры парабілі,
На насішчы ўздзелі.

Разбіралі ў нетрах лесу
Пратакол сарочы,
Ледзь дабраліся да сэнсу —
Вырачылі вочы.

Уявілі добра, мабыць,
Як шумелі дзеці,
Каго любяць,
Каго ганьбяць,
Які грыб на свеце
Самы першы,
Самы лепшы,
Прыгажэйшы,
Найсмачнейшы.

Ну й сарока!
Заварыла

Кашу ты пляткарствам:
Між сабою пасварыла
Ўсе грыбы ў іх царстве.

* * *

Хутка ўведаў махавік
Пра сябе гаворку,
Адхінуў мох-палавік,
Выбраўся пад хвойку.

У люстэрка, што смала
Кінула на хвойцы,
Паглядзеўся, і ўзяла
Злосць яго, малойца.

Чым за іншых горшы ён! —
Шык — касцюм зялёны,
Капялюш — як парасон,
Штонікі з нейлону...

Казырнуць зялёны б мог
Яшчэ касмылямі:
З твару, з губ звісае мох,
З барады — таксама.

Махавік сябе лічыў
Не апошнім грыбам
І, каб бліжнім дапячы,
К масляку падыбаў.

Па сіўцу стары масляк
Тэпаў, бровы хмурыў,
Рыхтаваў сябе так-сяк
К воднай працэдуры.

Намасоліў цемя ўсё;
На грудную клетку,
Быццам нейкае рыззё,
Нацягнуў
Сурвэтку.

Штось насвіствае сабе
Пра сваё купанне,
Бачыць — прэцца, аж сапе,
Махавік з імшання.

Прывіталіся.
— Ну, як
Ты, сіўца начальнік?..
— Я?.. Нішто,— схітрыў масляк,—
Ну, а ты, імшанік?..

Махавік аж пасінеў
(Гэткая абраза!)
І, схаваўшы трохі гнеў,
Выпаліў адразу:

—Падзівіся, любчык,
Зіркаламі лыпні,—
Выгляд, рост...
Касцюмчык
Па фігуры ліпне.
Мне па прыгажосці
Не знайсці раўнейшых...
Ты ж і сам зайздросціш,
Князь сіўца святлейшы!..

Той патыліцу паскроб,
Круглы ўвесь, як сподак,
Бельмы выкаціў на лоб,
Выгнуў падбародак:

— Выхваляешся?
— Чуць-чуць.
— Ведай жа, прайдоха,
Цябе ў лесе ўсе завуць
Кульгавым Цімохам.
Эх, Цімоша-Цімох,
Закапайся ў мох
І накрыйся мохам!

Махавік падляцеў,
Шапку ўздзёр — парасон:
— Як ты мог, карацель,
Кіжлай,
Слюнцяй,
Масол?!

Так счапіліся яны,
Два старыя тэпшы.
Счэпка-спрэчка аб адным —
Хто ж з іх, розных, лепшы?

Покуль трэсліся чубы
Двух суседзяў моглых,
Паўзнімаліся грыбы
На грыбоўях многіх.

Выйшлі к сцежцы пешкі
Ступы-сыраежкі,
Баравыя нетры
Кінулі сям'ёй.
Аж дрыжыць паветра,
Гнецца сцежка —
Гэта ступы тупаюць па ёй...

А да ступ лісічкі,
Усе маладзічкі —

Ўзахапы праз бор.
І іх чаравічкі
Кратаюць іглічкі
Пад сабой.

Ступкі хорам:
— Скіньце вы іх!
Надта ж бегаць любіце,—
Паламаеце крывыя
На бароўі тупальцы.

А лісічкі:
— Не, мілейшыя,
Дужыя мы ўсе,
А яшчэ — смялейшыя,
Бо выходзім першыя,
А яшчэ — смачнейшыя
І за ўсіх чысцейшыя,
Мытыя ў расе.

— Ну й хвальбушкі?!
Хто б ні йшоў,
Вас нагамі выб'е
І сатрэ ў парашок
Нават на бязгрыб'і.
Вось зірніце:
Як сыры — мы,
Шапкі ў нас — як стрэшкі.
Можна есці нас сырымі,
Бо мы — сыраежкі.

Сыраежак і лісіц
Захліснула сварка.
Шум падняўся.
Пыл вісіць
Па-над борам хмаркай.

Тупат.
Грукат.
Дрыжыкі
Прабіраюць бор,
То ўзняліся рыжыкі
З лядаў, як на бой.
Ва ўсіх губы-дудачкі,
Вочы — лып ды лып:

— Хто хваліўся тутачкі,
Што ён — лепшы грыб?

— Я! — падрыжак прабасіў.
— Я! — «язык валовін».
— Мы! — прыйшло з лясоў усіх,
Хвойных і яловых.

— Мы! — за борам груздзікі
Загулі,
Рассыпалі гузікі
Па гаі.
На баку з іглiцамі
Паўставалі рыцары —
Валуі.

І апенькі пешыя,
Ўзняўшы фартушкі,
Як ішлі,
Так першыя
Сталі на пянькі,
Быццам гаварылі:
Глянь жа, род грыбны,
Грыбы-балерыны
Мы ў цябе адны.
Мы й красуні лепшыя,
Чым усе тутэйшыя!

Загулі зялёнкі
Альтам непрыкметненькім,
А з імі больш звонка —
Хеўрай падрашэтнікі.

Шэры плюс
Улез у сварку,
З долу друз
Падняў на карку,
Валачэ нялёгкі груз,
Дужа сіліцца,
Аж сабе намуляў гуз
На патыліцы.

Падасінавік надзеў
Чырвоную шапку,
З дому выйшаў, зірк — ідзе
З-пад бярозы бабка.

Ён сабраўся шапку зняць,
Прывітаць суседку,
Пастаяць, пабалбатаць
З мілаю кабеткай.

Ды яна ўсяго да пят
Лыпаламі змерыла
І скрывіла свой пагляд
З нейкай фанабэрыяй.

Ён і кажа:
— Бабка,
Ты не будзь прыкідай,
На мяне, Агапка,
Не глядзі з агідай.

А яна
Дакор, праклёны...

— Што ж ты, дакаральнік,
Абажур уздзеў чырвоны,
Думаеш — начальнік,
Думаеш — цацуля,
Думаеш — найпершы?..
Толькі ёсць, я чула,
Чынам грыб старэйшы.

Гэта слухаў мухамор
І, як стала ціха,
Выйшаў к бабцы, нос задзёр,
Завёў, даўгалыга:

— Пра чырвоны абажур
Трапна ты...
Але прашу
Паглядзі: такі ж нашу,
Хоць, па праўдачцы скажу,
Я ж — сапраўдны прыгажун.

Адплікнуў ён пінжачок
Модны свой, у крапку,
Папірач крутнуў — кіёк
Перад носам бабкі:

— Я ў лясах — аўтарытэт!
Я — закон і права!
Дзе іду, за мной услед
Сунуцца, як лава,
Рыжыкі —
Выжлікі,
Сыраежкі —
Пешкі,
Таўстушкі —
Пампушкі,
Лісічкі —

Дурнічкі,
Маслякі —
Дзівакі;
За імі ўсе
Махавікі,
Асавікі,
А яшчэ — баравікі.

Плёў лухту сваю трапло.
Доўга мухамору
Хвасць служыла,
Не было
На яго ўгамону.

Муць той хвасці-пахвальбы
Заліла паўбору.
Так уз'еліся грыбы,
Што — на крок да бою.

Толькі той, каго хвалько
Быццам бы не ведаў,
Пасміхаўся ў вус тайком
Над сваім суседам.

* * *

На прыдарожнай баравінцы,
Бліжэйшай самай ад ракі,
Крыху стаміўшыся, спыніцца
Рашылі разам грыбнікі.

Лес, трыумфуючы па-свойму,
Прыходу юных рады быў:
Шумеў галлём узнёсла хвойны,
А ліставы ў далоні біў.

Жывы, ён творцам цудаў здаўся —
Не толькі з ветрам гаманіў,
А хто гукаў —
 Тым адгукаўся,
А хто смяяўся — тых дражніў.

Стаць кожны сэрцам летуценіў
Паплечнікам яго красы.
Няўтрымна з вуснаў паляцелі
Лясным прасцягам галасы.

Прыбегла рэха к ім на покліч,
А ўсе спрачальнікі — грыбы,
Хутчэй хаваючыся, змоўклі —
Набілі ў тузатні гарбы.

Чакаць рассуду парашылі
Людскога — ўведаць ад дзяцей,
Які з іх добры і фальшывы,
Які за іншых прыгажэй.

Лес, мнагадрэўны і вялікі,
Узмахваў крыламі галін,
Маленства з кошыкамі клікаў
Пад кроны хвой, бяроз, ялін.

Каля хваін, бярозак Данік
Прабег — не здзейсніўся разлік.
Ён сігануў аж у альшанік
І закрычаў там:
 — Ба-ра-вік!

Сябры зляцеліся адразу
Да дрэў альховага ляска,
Бо самі ў лесе ані разу
Не бачылі баравіка.

Ды засмуціла ўсіх памылка.
Ледзь Данік к грыбу нож паднёс,
Той глянуў на яго з ухмылкай
І прабасіў яму пад нос:

— Не! Я — не баравік,
Хоць і падобны шапкай.
Я, ведай, грыбнічок,— ляднік,
Або іначай — бабка.

Дзяўчынак, хлопчыкаў вачышчы
Праелі Даніка наскрозь:
Лічыў грыбы як след лічыльшчык,
Пачаў збіраць — не вельмі штось...

Хлапчук трымаў з находкай кошык,
Глядзеў на ўсіх не без тугі:
— Ляднік...
А ён усё ж не з горшых,
Па чыну між грыбоў — другі.

«Чыны» не браліся.
Затое, сваёю ідучы трайнёй,
Жаўцянак Віра, Толя з Тоняй
Знайшлі на ўзлеску высып-рой.

Ускрыкнуў Толя:
— Скарб узлескавы!..
Сказала Віра:
— Плён хадзьбы...
А Тоня падвяла:
— Не кепскія
Лісічкі гэтыя — грыбы.

Марынка выпарала рыжык,
Ірынка — з тузін казлякоў,

Максімка — жоўты грузд,
Што выйшаў
На свет адзін, без дружбакоў.

Іх сэрцы радаваў узятак.
Была й прычына для хвальбы:
Грыбоў знайшлося небагата,
Ды ўсе, як сырнікі, грыбы.

У зарассе Палінку з Дзімай
Сцяжынкі-ўтопкі завялі.
Яны нямала пахадзілі,
На жаль, нічога не знайшлі.

Нарэшце нехтачка папаўся,
І хлопчык абвясціў наўскрык:
— Ага! Злавіўся на папасе
Галоўны самы — баравік!..

Узяць хацеў.
Ды за плячыма
Палінка крыкнула:
— Не рэж!
— Чаму?
— Твой баравік зайчыны...
— Фальшыўцу — бухталя?
— Так лепш.

— Сюды, сябры! —
Гукнула Долка,
Ледзь у сасоннічак зайшла.—
Вясёлка вырасла... Вясёлку
Я пад сасонкамі знайшла!

— Ну й ну! —
Скрывіўся нейк Петрык.—

Мне ж не даводзілася чуць,
Што на зямлі, а не ў паветры
Вясёлкі без дажджу растуць.

На дол зірнуў, і заірдзела
Прыкметна ўсмешка на вачах:
Ваўнянка пад сасной сядзела,
Уся ў вясёлкавых кругах.

Ён верасок наўкол агледзеў,
Абшнырыў лядзы, адшукаў
І лоўка выкалупаў недзе
Сям'ю масла-сіўцавіка.

Старанна так усякі нікаў
Па шыгаллі, па верасах.
Лес гаманіў, у нетры клікаў,
Багацце ўсім паказваў сам.

Паўнелі кошыкі, кашолкі.
З-пад спрытных рук ішлі туды
Чырванашапкі,
Падсасноўкі,
Зялёнкі, бабкі
І радоўкі,
Чарнянкі,
І бялянкі,
І шэрыя грузды,—
Усе ядомыя грыбы.

І вось зацíхла рэха дзесьці
У заваражанай глушы.
На баравіну ўсе прынеслі
Свае кашолкі і кашы.
У іх было ўсяго навалам,—
Што не спакусіць грыбніка! —

Ды аднаго недаставала
На ўвесь хаўрус — баравіка.

Але хіба за ім ганяцца?
Хапае й так дароў лясных.
Нялёгка нават разабрацца,
А хто ж усё-такі між іх
І самы лепшы,
І слаўнейшы,
І найболей прыгажэйшы.

Стаяць усе каля кашолак,
Глядзяць на дзіўны скарб лясоў
І нечакана — нечы кволы,
Крыўдлівы досыць галасок:

— Нагамі мхі аббілі ўсе,
Абгойсалі бары.
Ка мне зайсці забыліся,—
Ці ж можна так, сябры?
Я ж між грыбоў прыкметны
Па росту, па красе,
У іх аўтарытэтны,
Слаўнейшы, чым усе...

Тут зашумелі ўсе заўзята,
І шусь! — на голас без размоў.
А ім насустрач васпаваты,
Надзьмуты выйшаў мухамор.

— Эх, васпавацік сіплы,—
Абурыўся дзетсад,—
Стаў самахвал!
Дзе ж сціпласць!
Маўчыш. Чаму не рад?

Прыкмеціў Данік, што паблізу
Ад мухамора, як сусед,
У махавой разлезлай рызе
Грыб выбіраецца на свет.

І сэрца ёкнула: палкоўнік?
А мо зноў нейкі радавік?..
Пілін, не горшы ўсіх грыбовік,
Ледзь глянуў, скеміў — баравік.

Усе застылі. Толькі Данік,
А з ім Піліп наперабой
Ляцелі ў верас, на імшанік
І ног не чулі пад сабой.

Прыселі разам.
Данік першы
Знайдзёнка дакараць пачаў:
Маўляў, і лепшы,
І слаўнейшы,
Прыгажэйшы,
І важнейшы,
А не спрачаўся, ўсё маўчаў...

Ён скінуў рызу,
Лісця намець
Стаптаў нагою і сказаў:
— Хто варт пахвал,—
тых людзі хваляць,
Хто — не,
той балабоніць сам.

А па каробачцы і вечка:
Ледзь баравік дагаварыў,
Як завяршылася і спрэчка,
Дзяцьмі пачатая ў двары.

* * *

Лес падхапіў галёканне
Маленькіх грыбнікоў,
Ім выставіў навокала
Рады баравікоў.

Пад елкамі,
Пад соснамі,
На ўзгаллі, ў гушчары
Збіраў дзетсад зайздросныя
Зямлі бацькоў дары.

Зямля глядзела ласкава,
Палала ўся красой,
Заслухаўшыся казкамі
І былямі лясоў.



## ПАКЕТ

Ірынка малая
Дадому ідзе,
Рукой прыцiскае
Пакет да грудзей.

Пакет каляровы,
Агнём залатым
Адменныя словы
Палаюць на ім.

Іх дзеці пісалі —
Не мастакі,
Выводзілі самі
Раўнютка радкі,
Паставілі зорку
На кожным ражку,
Дабавілі збоку
Яшчэ па сцяжку
І намалявалі,
Па просьбе сяброў,
Не дутышаў шызых —
Ліхіх паштароў.

Усё улічылі,
Зрабілі як след,
Ірынцы ўручылі
Адказны пакет.

Ірынка заходзіць
У светлы пакой.
Тут брацік Валодзя
Заняты гульнёй.

Імчыцца вадзіцель
У коле дзяцей,
Сігналіць — сыдзіце
З дарогі хутчэй!

Памостам дарога
У хаце лягла,
Вядзе ад парога
У кут, да стала.

Так проста к Валодзю
Плыве карабель,
Стаіць на комодзе
З паперы мадэль.

Узяў са стальніцы
Хлапчук самалёт,
Гаворыць сястрыцы,
Як добры пілот:

— Машына на старце,
Сядай, пасажыр.
К палёту, к адпраўцы
Гатоў камандзір.

Дзяўчынка без слова
Глядзіць на камод,
На папяровы
Малы самалёт.
— Ды ты не хвалюйся:
Настануць гады,
І я паімчуся
Туды, дзе ільды.
Цябе без білета
Тады пракачу,
Далёка над светам
З табой палячу...
А што ў цябе, Іра?..
Пісьмо ці пакет?..

— Прашу цябе шчыра —
Ні слова: сакрэт.
Скажы лепш,
Дзе мама?
Дзе мама мая?
— Дзе мама?

Таксама
Не ведаю я.
Магчыма, на сходзе?
Там сёння даклад,—
Сястрыцы ў лагодзе
Адказвае брат.

З пакетам Ірына
Выходзіць на двор.
Ля хаты рабіна
Глядзіць у прастор.

Бялеюць пялёсткі
Яе на страсе,
Над вуліцай вёскі
Іх вецер нясе.

Па небу хмурынкі
Плывуць сабе ў свет.
А думы дзяўчынкі
За імі — услед.

* * *

Вечар крадзецца вясновы
Па шляхах сваіх тайком.
На палеткі і дубровы
Павявае халадком.

Густа высыпалі росы
Ля ракі на мурагах.
Туманок пакінуў плёсы
І паўзе па берагах.

Да ружова-цёмнай рысы,
Дзе і неба і зямля —
Дзецi думаюць — сышліся,
Сонца коціцца здаля.

Павісела за ракою,
Напалову села ў бор,
Быццам хтось яго раскроіў,
Як чырвоны памідор.

Сонца згасла.
Змрок над полем
Ціха лашчыцца, паўзе.
Адыходзіць дзень паволі,
Дагараючы ў расе.

Зыркa ўспыхнулі навокал
Электрычныя агні.
Цішыня.
Грыміць далёка
Трактар недзе ў цішыні.

А на вуліцы ўрачыста
Песні моладзі гучаць:
Дзённай змены трактарысты,
Спевакі і гарманісты,
Позна вечарам не спяць.

І не спіць Ірынка ў хаце,
І Валодзя спаць не йдзе,
Пра Маскву-сталіцу маці
З імі гутарку вядзе.

— От як мне пашанцавала:
Я на выстаўцы была,

Тры дні скарбы аглядала —
Наглядзецца не магла!

Цішыня струной нацята,
А малым карціць спытаць:
— Чым жа славяцца юннаты?
— Што змаглі там паказаць?..

Поўнач блізка.
Заціхаюць
Песні, гулі на двары.
За ракою дагараюць
У начлежнікаў кастры.

Распляла Ірына стужкі,
Спаць лягла, на табурэт
Палажыла ля падушкі
Побач з плацейкам пакет.

З пасажырскім да сталіцы
Паляціць уранку ён...
Ціха спіць дзяўчынка.
Сніцца
Казка ёй — дзівосны сон.

* * *

У полі дарожка пятляе,
Куды невядома вядзе.
Дарожкай Ірынка малая
З пакетам ад вёскі ідзе.

Надзела яна, як на свята,
Сукенку, вянок з васількоў.
І дум у дзяўчынкі багата
Пра горад, пра дом і сяброў.

Ёй свеціць вясёлае сонца,
Лагодна дзьме ветрык у твар.
Ляжыць перад ёю бясконцы
Шырокі калгасны абшар.

Лажкі зеляне́юць,
Палеткі
У лёгкай смузе паплылі.
Звісаюць пад кожнаю кветкай
На лапках калматых чмялі.

Мінулася хутка прыволле,
Пагоркі, лажкоў дываны.
Далей ужо дзікае поле —
Гірса, лазнячок, дзірваны.

Дарожка, як змейка, знікае
Паміж непралазнай травы.
Ірынку трава закрывае
Вышэй галавы.

Прайшла падарожніца трошкі.
Спынілася — страшна адной:
Не стала ранейшай дарожкі,
Наўкола — густы травастой.

Малая стаіць нерухома.
А вецер,
А травы шумяць,
А думкі да роднага дому
Яе, бы на крылах, імчаць.

Куды ёй падацца?
Няйначай
Дадому, каб выбрацца з траў.
Тут выскачыў шэранькі зайчык,

Пярэднія лапкі падняў
І запытаў:

— Ірынка, Ірынка,
Куды ты ідзеш?
Што полем, дзяўчынка,
Пад пашкай нясеш?

— Іду я далёка —
Адсюль не відаць.
Ды травы навокал
Сцяною стаяць.

Дарожка прапала —
Ніяк не знайсці.
І сіл не хапае
Далей мне ісці.

А што я трымаю,
Ты сам адкажы.
Па травах мне, заяц,
Шляхі пралажы.

— Дык пойдзем, малая,
Я ведаю шлях,
Дзе зайцы гуляюць
Адны па начах,
Дзе гнёзды ў зацемках
Майструюць дразды,
Дзе сцелюць паземкі
Свой цвет малады.
Дык пойдзем, Ірынка,
Я ўсё пакажу,
У травах сцяжынку
Табе пралажу.

Пайшлі падарожнікі разам:
Ірынка, з ёй побач — касы.
Трава адступіла адразу,
Скідаючы блёсткі расы.

Праменні вясёлыя ззяюць,
Блішчаць пад нагамі пяскі.
Ірынцы наказвае заяц:
— Не бойся!
Ідзі напраскі!

Ідзе падарожніца хутка,
Сукенка ад ветру шасціць.
Наперад, к лясному закутку,
Яе пуцявіна ляжыць.

Устаў перад ёю высокі,
Дрымучы, стагодні сыр-бор.
Хваіны, падпёршы аблокі,
Нясуць свой маўклівы дазор.

Там-сям пасінелы асіннік...
На пнях абамшэлых грыбкі...
Снуе са свайго павуціння
Павук васьміногі сілкі.

Мурашнік, як стог, нерухома
На трох прымасціўся карчах.
Лясны сухастой бураломам
Павален крыж-накрыж на шлях.

Ірынка нячутна праходзіць,
Баіцца назад паглядзець.
Насустрач з гушчару выходзіць
Рахманы мядзведзь.

Ён стаў, паглядае
Скоса,
Паветра ўдыхае
Носам.

Са страху вавёркі
Скачуць.
Сініцы горка
Плачуць.

Мядзведзь прысланіўся
Да кража,
Малой пакланіўся
Ды кажа:

— Ірынка, Ірынка,
Куды ты ідзеш?
Што лесам, дзяўчынка,
Пад пашкай нясеш?

— Іду я далёка —
Адсюль не відаць.
Ды, бачыш,
Навокал
Завалы ляжаць.

Ніяк не прабіцца
Наперад праз іх,
І можна згубіцца
У нетрах лясных.

А што я трымаю,
Ты сам адгадай.
Мне сцежку па краю
Лясным пракладай.

— Дзяўчо, не пужайся,
Я ціха стаю,
Смялей узбірайся
На спіну маю.

Праз пушчы-цямнянкі
Пайду напралом,
Цябе да палянкі
Дастаўлю бягом.

Ірынка на карак мядзведзю
Забралася, скочыўшы з пня.
З пакетам пад пашкаю едзе,
Свайго падганяе «каня».

Нясе ён яе па імшарах,
Нясе цераз пні і карчы,
Нясе праз лясныя выгары,
Дзе сумна крычаць крумкачы.

На шлях нешырокі выносіць
І ставіць на ногі, як друг...
Паляны віднеецца просінь,
Далей, за палянаю,— луг.

Ірына палянку мінула,
Выходзіць да рэчкі наўпрост.
Налева, направа зірнула:
Дзе човен рыбацкі?
Дзе мост?

Трывожыцца сэрца — нікога
Не бачна нідзе ля ракі.
Ды вынырнуў з віру крутога
Самішча вусаты, бы кіт.

Наблізіўся — хваля крутая
Устала над роўняддзю вод,—
Дзяўчынку
Спакойна пытае,
Бяззубы разявіўшы рот:

— Ірынка, Ірынка,
Куды ты ідзеш?
Што лугам,
Дзяўчынка,
Пад пашкай нясеш?

— Іду я далёка —
Адсюль не відно.
Ды вір твой шырокі,
Глыбокае дно.

Куды мне падацца,
Скажы, дарагі,
Як мне перабрацца
На бераг другі?

— А што мне, старому,
Бяздонне віроў!
Самёнку малому
Тут цесна парой.

Я плаваць і ў моры
З кітамі магу.
Табе ў тваім горы
Дапамагу.

Ідзі, не журыся,
Не змокне пакет,
Смялей станавіся
Мне на хрыбет.

Вусы, нібы лейцы,
У рукі бяры.
Кіруй мной, умельца,
Дзе плыць, гавары.

Ірынка вусатага сома
Сама забрытала,
На ім,
Нібы на драўляным пароме,
Імчыцца з пакетам сваім.

Прычаліла.
Толькі нагою
Ступіла нясмела на дол,
І тут закружыўся над ёю
Магутны каўказскі арол.

Аб ім яна ў кніжцы чытала,
З сябрамі размовы вяла,
А зараз па лёту пазнала
І голас пачула арла:

— Я знаю, Ірынка,
Куды ты ідзеш,
Што зранку, дзяўчынка,
Пад пашкай нясеш.

Пражыў я нямала,
Садзіўся не раз
На стромкія скалы,
Што ўздыбіў Каўказ.

Далёкія зоры
Аблётаў кругом,
Ляцеў цераз мора
З падбітым крылом.

Кружыўся над краем
Пустэльняў і рэк,
Над Крымам, дзе ззяе
Агнямі Артэк.

Ішла ты ад вёскі,
Я пільна сачыў,
Хачу па-сяброўску
Табе памагчы.

Ірынка, садзіся
Між крылаў ямчэй,
І мы паімчымся
У неба хутчэй.

* * *

Палезла дзяўчынка
На крылы арла.
На крылах шырокіх
У свет паплыла.

Пад ёю палеткі,
Зялёны лясок,
Чыгунка пралегла,
Нібы паясок;

Віднеецца рэчка,
Квадратамі — сад,
І сажалак люстры,
І кубікі хат.

Ірынка імчыцца
Ад вёскі сваёй.
Там недзе рабіна
Смуткуе па ёй,

І, мабыць,
Валодзя
Глядзіць у акно,
Самотна чакае
Сястрыцу даўно.

Яму памахала,
Сказала сабе:
— Не плач, я вярнуся!
Вярнуся к табе!..

Мільгаюць пасёлкі,
Лясы,
Паплавы.
Віднеюцца ўдалечы
Вежы Масквы.

Арол закружыўся
Над светлай Масквой,
Над Краснаю плошчай,
Зубчастай сцяной;

На дол апусціўся
З блакіту нябёс,
Да Выстаўкі Іру
На крылах прынёс.

Па Выстаўцы крочыць
З пакетам яна,
Вянок васільковы
Гарыць, як вясна.

Ідзе з павільёна
У павільён.
У кожным з іх скарбаў,
Напэўна, мільён.

Жаўцеюць пшаніцы
І жыта снапы,
Вісяць каласы на іх,
Быццам цапы.

Ляжаць на паліцах,
Ва ўсіх на вачах
Гуркі і капуста —
З пуд будзе качан.

Ружовая бульба
У сем сваіх вочак
Глядзіць на прахожых,
Сказаць штосьці хоча.

Бялее бавоўна
І лён, яе брат,
І вабіць, і цешыць
Пагляды дзяўчат.

Стаяць халмагоркі,
Крычаць певуны,
Памост капытамі
Сякуць скакуны.

Стаяць, бы ў калгасе
Вясной на двары,
Жняяркі, дыскоўкі,
Плугі, трактары.

Стаяць кустарэзы,
Грузавікі,
Камбайны, бульдозеры,
Рухавікі.

Усе павільёны
Ірынка прайшла,

Багацці краіны
Убачыць змагла.

Цячэ з павільёнаў
Людскі акіян.
Б'е ў неба струменямі
Дружбы фантан.

Пятнаццаць сясцёр
На Ірынку глядзяць.
Пятнаццаць вясёлак
Над імі гарадь.

І школьніца бачыць
У вобразе іх
Саюз непарушны
Рэспублік усіх.

Масквічкі сяброўку
Вакол абступілі,
Значок ёй —
Аб Выстаўцы памяць —
Купілі.

Ідуць, бы знаёмыя,
Многа ўжо дзён,
Заходзяць к юннатам
У іх павільён.

Вітае ўсіх Іра,
Дзяцей пасланец.

. . . . . . . . .

Праменіцца ранак,
І казцы — канец.

Матуля падушку
Кранае рукой,
Гаворыць ласкава
Дачушцы сваёй:

— Прачніся, Ірынка,
Ужо дзетвара
У лагер збіраецца —
Ехаць пара!..

Дзяўчынка адкрыла
Павекі вачэй,
Пабегла ад ложка
Да вокан хутчэй.

Па вуліцы дзеці
Пад сцягам ідуць,
Шчаслівыя, песню
Пяюць на хаду.

Малая не верыць,
Што бачыла сон.
— Яшчэ хоць разок бы
Прысніўся мне ён!

— А што за дэпеша,
Дачушка, ў цябе?

— А што за дэпеша?
Скажу я табе.
Пакет ад юннатаў:
Мы цэлым гуртком
Свае экспанаты
На Выстаўку шлём —
Са школьнай цяпліцы,
Дзе дзіва расце,

Плён працы руплівай
Калгасных дзяцей.

Ірынка трымае
Прыгожы пакет.
А з вуліцы песня
Ляціць на ўвесь свет:

Мы сёння гурбою вясёлай
Выходзім у лагер, сябры.
Бывай, наша родная школа!
Бывай да асенняй пары!

Ты ласкаю нас атуліла,
Калі мы малымі былі,
І свет пазнаваць навучыла,
І ўсе таямніцы зямлі.

Святлом азароныя ясным,
Не раз, ідучы праз гады,
Мы ўспомнім настаўнікаў класных
І скажам ім дзякуй заўжды.

Куды б ні вялі нас дарогі,
І дзе б ні прыйшлося нам быць,—
К твайму прыляцім мы парогу,
Ледзь школьны званок празвініць.

Адкрыты шляхі перад намі,
Па іх мы гатовы ісці
І вытрымаць з чэсцю экзамен,
Экзамен адказны ў жыцці.



## НА ЛЯСНЫМ ПАЎСТАНКУ

Бяжыць чыгунка.
Бор стары
Яна стралой перасякае
І крута гнецца ля гары,
Нібы дуга якая.

Бліпчаць на шпалах,
На мастках
Стальныя вузкія істужкі.
Гудуць слупы.
На правадах
Папарна гушкаюцца птушкі.

Шчабёнка, жоўтыя пяскі...
Кюветы ў травах некранутых...
Тут днём і ноччу цягнікі
Ідуць, ідуць сваім маршрутам.

Куды спяшаюцца?
Куды
Нясуць людзей, імчацца з грузам?

Ва ўсе, напэўна, гарады
Савецкага Саюза.

Бягуць вятрам наперарэз,
Насустрач станцыям вясёлым
І абуджаюць сонны лес
Каля паўстанка Навасёлы.

Паўстанак гэты ў сасняку.
Над лесам — вежа вадакачкі.
За вадакачкай у стаўку
Крычаць, куляючыся, качкі.

Дамы драўляныя. Перон.
А воддаль — комін лесапільні.
Адсюль вядзе на палігон
Праз пушчу шлях аўтамабільны.

Кастусь Гавура чуў не раз,
Як песні там пяюць салдаты
І як здалёку ў ранні час
Б'юць, лес калоцячы, гарматы.

Ён, сын абходчыка, блукаў
Не раз на гэтым перагоне,
Але ніколі не бываў
На тым ваенным палігоне.

Прыйшлі канікулы — пара
Забаў, паходаў і гулянак.
Пад паху ўзяўшы Гайдара,
Гавура выйшаў за паўстанак,
Лёг пры чыгунцы на траве,
Над кнігай моўчкі разважае.
Раяцца думкі ў галаве.
Над лесам воблака плыве.
Павекі ціха сон змыкае.

* * *

Ён спіць.
Далёка ўжо за поўдзень.
Даўжэюць цені на зямлі.
Над жарам кветак на выгодзе
Снуюць, мільгаюць матылі.

Ён спіць.
І ластаўкі крыламі
Ледзь чутна чыркаюць над ім.
Гракі ў хаўрусе са шпакамі
Вандруюць вывадкам усім.

Нястомны дзяцел лес трывожыць,
Па хвоі дзюбаю грыміць,
Мо хлопца будзіць, ды не можа
Ніяк — спіць моцна — разбудзіць.

Гудок, прарэзлівы і блізкі,
Узняў гракоў у сіняву:
Імчыцца з ветрам пасажырскі
Праз Навасёлы на Маскву.

І над «Ваеннай тайнай» вочы
Адплюшчыў лежачы хлапчук,
Пачуў, як коламі грукоча
Цягнік упэўнена: тук-тук!

Ён збавіў ход імклівы трошкі,
Адхоны дымам аблажыў.
Тады з вагоннае падножкі
Саскочыў спрытна пасажыр.

З кювета вылез. Азірнуўся.
Убачыў Косцю

І назад
Ступіў паўкрока, спатыкнуўся,—
Відаць, быў хлопчыку не рад.

Ды што тут зробіш?
Ён на плечы
Успёр дарожны свой рукзак
І да Гавуры на сустрэчу
Пайшоў, паплёўся напрасцяк.

Ішоў,
І травы па каленях
Балюча сцёбалі яго.
«Маланкі» ззялі на кішэнях,
Нібыта крэмсалі ўсяго.

Ішоў
І ўпотай азіраўся,
Не паварочваючы твар.
На чорным гузіку матляўся,
Пабліскваў нікелем ліхтар.

Хто ён такі?
З якога боку?
Куды ідзе? Чым знакаміт?..
Падумаў Косця: «Мо здалёку
Да нас прыехаў следапыт?»

Што ж, следапыт, ідзі, выпытвай,
Дзе лось пасецца ці каза!
Але аб справе следапытнай
Ні слова дзядзька не сказаў.

Дастаў кісет ён вышываны,
Напхаў у люльку тытуню.
Над запальнічкай нечакана
Затрапятаў пучок агню.

Дым густа твар яго ахутаў,
Маршчын глыбокія раўкі,
І ён пачаў пытаць пра хутар
Пад назваю Дубкі.

— Дубкі?..
Дубкі,— згадаў Кастусь,— былі,
Там Жызлы-кулакі
Жылі.

— Былі-жылі...
Ды ўжо сплылі?

— Але.
Даўно ўжо кулакоў
Мы выслалі з Дубкоў.
І толькі Жызлаў сын
Даў ходу за мяжу.
— Адзін?
— Адзін.
Гавораць, што ён там
Душу
Прадаў панам.

— Ну, ладна...
Мабыць, хопіць
Тых Жызлаў косці мыць,
Скажы мне лепей, хлопец,
Дзе рыбкі палавіць.

— Шмат рыбы ў нас
На возеры Выгарка.
Ды там калгас,
Яго рыбгаспадарка.

— Куды ж падацца рыбаку?
Дзе блешні пакідаць?

— На Яланец-раку,
Відаць.

— На Яланец! —
І ад чыгункі
Падаўся дзядзька;
Клунак нёс,
І дым пускаў з крывое люлькі,
І напяваў сабе пад нос:

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
— Па лясных краях хадзіў.
— Чыжык, чыжык, што рабіў?
— У рацэ ваду муціў...

І знік з вачэй.
Лясныя нетры
Яго ўзялі ў зялёны змрок.
І толькі дзе-нідзе ў паветры
Плыў люлькай кінуты дымок.

* * *

Дым над палянай спакваля
Разматваў свой клубочак,
Пасля ад хвойнага галля
Каціўся ў цемрадзь ночы.

Агеньчык рос, мільгаў святлом,
З галінкі на галінку
Чырвоным порсткім снегіром
Скакаў ён без супынку.

Кастусь падкінуў у касцёр
Галля,
Пад ціхім ветрам

Агеньчык крылы распасцёр,
Святло шугнула ў нетры.

Дым між хваінамі паплыў,
Згубіў з зямлёю сувязь,
У небе зоры засланіў,
Дыхнуўшы, як Везувій.

Згасала ўдалечы зара,
Цвіў каля пнёў сунічнік.
З важатым
Выйшаў да кастра
Знаёмы пагранічнік.

Шыракаплечы, малады,
Але на выгляд сталы,
Ён завітаў на дзень сюды
З падшэфнае заставы.

Замоўклі дзеці.
У цішы
Госць гаварыў натхнёна,
Як ён нядаўна на мяжы,
Двух напаткаў шпіёнаў.

Двое было іх.
Яны,
Людзі чужога свету,
Прабраліся ў кут лясны
Пагрансельсавета.

Ішлі невядома куды,
Блыталі шлях,
Пятлялі.
Струмені дажджу сляды
За імі ў кустах змывалі.

Ноч над зямлёй плыла.
Грукала навальніца.
Трывожным жыццём жыла
У гэтую ноч граніца.

Страшна было праз бор
Ісці чужакам пад кулі,
Наткнуўшыся на дазор,
Убок павярнулі;

Перачакалі, пакуль
Грымоты мацней ударацць,
І ад штыкоў,
Ад куль
Зніклі ў густых імшарах.

А там ён, баец, ляжаў,
Маўкліва ляжаў,
Не дыхаў,
Замежных гасцей чакаў,
Лічачы крокі слыхам.

Блізка яны ўжо.
— Стой!
Дзве постаці ў ноч мільгнулі.
Пад мокрымі лапамі хвой
Адну з іх дагнала куля.

Яшчэ раз спусціў курок —
Асечка. Нідзе нікога.
Другі дыверсант уцёк.
Ноч.
Навальніца.
Змрок.
— Застава, ў ружжо!
— Трывога!

* * *

Трывога! Трывога!..
Палянку
Трывогай гудок скалыхнуў.
За ім паравоз на паўстанку
Працяглы матыў зацягнуў.

Пажарнай каманды сірэна
Да іх далучыла свой свіст.
На палігоне ваенным
У штаб пазваніў сувязіст.

І толькі мінулі хвіліны,—
Маўкліва пастроіўся ўзвод,
Ляцяць з палігона машыны
На лесапільны завод.

Пыл шэраю хмараю валіць
З-пад грузных машын у бакі.
І хрыпла машыны сігналяць,
І не замаўкаюць гудкі.

Трывога... Трывога...
Што стацца
У вечар харошы магло?
З заходніх аслепленых станцый
Няўжо ліхалецце прыйшло?

І, мабыць, цяпер на граніцы
Ідзе, не сціхаючы, бой,
І падаюць ніц чужаніцы,
І травы дымяцца крывёй?..

Дымяцца не травы — дыхнула
Агнём з лесапільні у твар,

І ўсё наваколле пачула:
— Гарыць лесапільня!
— Пажар!

Гарністы трывогу зайгралі,
Паклікалі ў строй хлапчанят.
Туды, дзе гудкі не змаўкалі,
Пайшоў піянерскі атрад.

Пад зарывам шастаў сярдзіта
Галінамі чорнымі лес.
Кастусь прыгадаў «следапыта»,
Што ў памяці к вечару счэз;

Успомніў усё да драбніцы —
І люльку, і постаць між дрэў...
Агеньчык яго запальніцы —
Здалося — пажарам гарэў.

* * *

Туману белага валокны
Плылі над лесам. Цёплы дзень
Паслаў, яснеючы, праз вокны
На спытак хлопчыка прамень.

У доме свой парадак, строга
На пэўным месцы ўсё стаіць.
У халадку каля парога
Аўчарка Гром, як леў, ляжыць.

Стаіць акварыум з жывою
Чырвонай рыбкай на акне.
Гадзіннік з гіраю шкляною
Хвіліны лічыць на сцяне.

Сцяна паклеена, партрэты
У зеляніне дзеразы.
Ляжаць на століку газеты,
Блішчаць на ўслончыку тазы.

Стол, белым абрусом засланы,
Аж зіхаціць перад святлом.
Складае ліст Кастусь старанна
Вайскоўцу-брату за сталом.

Сур'ёзны, ціхі, задуменны,
Ён піша, свой схіліўшы твар,
Як уначы гулі сірэны
І як атрад тушыў пажар;

Усе падзеі ўспамінае,
І шле паклоны ад бацькоў,
І брата роднага пытае,
Калі прыедзе той дамоў.

Ён склаў лісткі і на канверце
Бярэцца адрас напісаць.
Спяшайся, Косця: клічуць дзеці
На лядах ягады збіраць.

* * *

Лубянкі, кошыкі імкліва
З дарогі ўгору узлятаюць.
Гамонка, жарты... Смех шчаслівы
Па-над дарогай выбухае.

Парою ранняй з Навасёлаў
Кастусь вядзе сяброў на ляды.
Гусцее бор стары наўкола
І цеплыні, і дзецям рады.

— Мядзведзь! Мядзведзь! —
Віхрасты Юзік
Крычыць, паказвае рукою.
Сябры к яму:
— Ах, карапузік!
— Мядзведзь... то ж выварацень хвоі.

— А што, Кастусь, калі шпіёна
Ты часам стрэнеш,— здацца змусіш?
— А як жа! З ім я па закону
Усё зраблю, не пабаюся...

Зноў весялосць, і шум, і гоман.
Зайшоўся шчыра бор ад смеху.
Далёка, аж да палігона,
Яго нясе на крылах рэха,

Нясе над возерам Выгарка,
Над Яланцом — ракой лясною.
Над лесам сінява.
Ні хмаркі,
Ні воблачка пад сінявою.

* * *

Адкрыліся ляды.
На іх
Не моўкне званочак сініцы.
Між пнёў, на прагалах сухіх,
Рассыпала лета суніцы.

Дары баравыя, што ёсць
Ад вас саладзейшае ў свеце!
Дрымотнымі лядамі скрозь
Пайшлі бестурботныя дзеці.

Гавура застаўся адзін,
Адзін — не было з ім нікога,—
Угледзеў праз навісь галін
Будан між ядлоўцу старога.

Адразу заныла душа,
Так боязна стала малому:
У змроку буданным ляжаў,
Спаў моцна якісь незнаёмец.

Хроп дужа, аж водгул ішоў,
Лясной не баяўся самоты.
Ляжала пры боку ружжо,
Знадворку сушыліся боты.

«Мо той «следапыт»? Ці шпіён?» —
Падумаў хлапчук, і наўцёкі
Спалохана кінуўся ён
Праз пні і ядловец высокі.

Адбегся, стаіўся ў кустах,
Ажыннік рассунуў калючы.
Развага падужала страх,
Хлапец азірнуўся рашуча.

— Што, Косця?..
— Відаць, занямог? —
Даведацца рупіла хлопцам.
— Стрэў шпіка.
— Ды ну?
— Далібог.
Вунь, гляньце,— будан пад ядлоўцам!

Прыціхлі ўсе. Дуб-велікан
Цяжкою лістотай зашастаў.
Адважна павёў на будан
Гавура атрад свой у наступ.

Лявонка, дружбак Кастуся,
Па ўмоўнаму знаку сігнал даў,
І ўміг узнялася уся
З зямлі Кастусёва каманда.

Будан той, дзе нехта ляжаў,
Вакол хлапчукі абступілі.
Дзед пальцам адтуль паграджаў,
А дзеці на месцы застылі.

— Адкуль наляцелі, шаршні?
Якія вас гоняць турботы?..
Бурчаў разаспаны ляснік,
Свае падбіраючы боты.

Сябры Кастусю грамадой
Пасыпалі кпіны-іголіцы:
— Сустрэўся са шпікам... герой!
— Не гэткія, брат, на граніцы!..

Ляснік у сваім будане
Прысеў ля смалістага кража:
— Вы ж бачыце,
Стрэльба пры мне —
І носа шпіён не пакажа.

Ён недзе, як Жызлы сынок,
Па свеце бадзяецца ўпотай.
Сюды, у зацішны куток,
Прыходзьце, шаршні, на дзянёк,—
Пра ўсё раскажу вам з ахвотай.

* * *

Стаіць лесвічанка за борам.
Чуваць штохвіліны: ку-ку...

— Ку-ку! — паўтараючы хорам,
Ідуць хлапчукі к лесніку.

Ідуць дружбакі-аднагодкі,
Між імі і Юзік малы.
Па верасе скачуць падлёткі,
Пішчаць у дуплішчах дзятлы.

У кронах мільгнула вавёрка,
З-пад ног узляцеў цецярук.
Прабегла лісіца, у норку
Схаваўся рахманы барсук.

Хапаючы слонку малую,
Каршун шугануў з-за бяроз.
Стрыжы каршуна атакуюць,
Нібы ястрабкі бамбавоз.

На кожнай сцяжынцы прыгоды.
У засені кронаў густых
Хавае багацці прырода
Ад вока драпежнікаў злых.

Рака недалёка. Як люстра,
Свіціцца яна з хмызнякоў.
Калгаснік выходзіць насустрач,
На лузе спыніў хлапчукоў:

— Ці трапіўся хто вам на вочы?
— Не бачылі,— дзеці ў адказ.—
А што?
— На Выгарцы уночы
Труціў хтосьці карпаў у нас...

Сказаў ён і рушыў пакосам.
Глядзелі сябры яму ўслед.

Сцямнеў, атрасаючы росы
У частым ляшчэўніку, свет.

У госці не трапілі дзеці,
Назад павярнулі гурбой.
У лесе Лявонка прыкмеціў
Кагосьці на хвоі старой.

— Мядзведзь?
— Выдумляеш ты.
— Хіба
Засцігнуты раннем шпіён?
— Труціў недзе ў прыцемках рыбу,
А зараз хаваецца ён.

— Зірніце пільней, малалеткі,—
Хто іншы яшчэ можа быць:
Вунь морда пад чорнаю сеткай,
За поясам лыжка вісіць...
— Каб стрэльба была ды зарады,
На дол бы ён жыва сышоў!

І Юзік малы па загаду
Ўзяць стрэльбу падаўся дамоў.

* * *

Гамоніць бор вясёлы,
На кожным дрэве птах.
Гудуць чмялі і пчолы
На сініх чабарах.

Над яблыняй-лясушкай
Віецца матылёк.
А птушкі-весялушкі
Схаваліся ў цянёк.

Бяжыць з паўстанка Юзік
Дарогаю лясной.
Нясе спацелы Юзік
Бярданку за спіной.

Панурыя вароны
У гушчары сядзяць
Ды з высачэзнай кроны
На хлопчыка крычаць:

— Ну, што за паляўнічы,
Ледзь стрэльбу валачэ?
Калі саву паклічам,
Адразу ж уцячэ...

А ён мінуў палянку,
Мінае хмызнякі,
Спяшаецца — бярданку
Чакаюць дружбакі.

Кастусь у рукі зброю
Па правілах узяў,
Угору над сасною
Яе рашуча ўзняў:

— А ну! Наніз, пачвара!
Даволі там сядзець!..
І рэха па выгарах
Пайшло, пайшло грымець.

Тым часам на галіны,
Ва ўсіх над галавой,
Клубок упаў пчаліны —
Прыблудны шумны рой.

Пачуўся зверху голас
Старога лесніка:

— Ціпэй! Бо могуць пчолы
Ад крыку паўцякаць...

І тут ляснік чагосьці
Заёрзаў на суку —
Пчала яму са злосці
Уджаліла руку.

Крыху пазней дахаты
Здабычу нёс стары,
Дарогаю рабятам
Пра пчолы гаварыў:

— Веснім днём, калі з-за хмары
Гром у бубен свой ударыць,
Пройдзе спорны дождж, і ўсюды
Зашуміць вада ў запрудах,
Прачынаюцца тады
І палеткі і сады.
Зацвітаюць у дубровах
Кураслеп і сон ліловы,
І пралескі побач з імі
Аганьком палаюць сінім,
Вішні свецяцца ў садах,
Незабудкі — на лугах.

Ранкам сонечным вясёла
Вылятаюць з вулляў пчолы
На рабіну,
На каліну,
І за рэчку
На парэчку,
І на ландыш у лясок
Па нектар — духмяны сок.

Пчолы ўсе на кветках пыльных,
Ды іх дом вартуюць пільна,

Каб шаршні не лезлі, восы,
Тры малых і тры дарослых —
Шэсць пчаліных вартавых,
Справа ёсць заўсёды ў іх.

Вось разведаў шэршань ласы,
Што рой выйшаў на папасы,
Захацеў стары разбойнік
Заглянуць цішком на пчольнік.
Ён пакінуў свой куток
І з разгону — на лятток.

Варта, дружная на дзіва:
— Стой! — і шлях загарадзіла.—
Ці даўно цябе, стракаты,
Ад сваёй прагналі хаты?
Ты чаго ж вярнуўся зноў?
Ты па што да нас прыйшоў?

Бой не змог бы выйграць шэршань,
Поле бою кінуў першым,
Ад вулля уцёк без шуму
І пачаў ён думаць думу:
Што тут хітрае зрабіць?
Як пчалу перахітрыць?

Не прыдумаўшы нічога,
На ўвесь свет завыў нябога.
Прыляцелі да суседа
З лесу восы, караеды,
Мухі, прагныя ктыры —
Па разбою ўсе сябры.

Шэршань выйшаў засмучоны.
— Вам заданне, пустазвоны:
Вы сягоння ж мне павінны

Каптанок пашыць пчаліны,
Каб я стаў у ім малы
І падобны да пчалы.

Рады хіжыя старацца.
Загудзела ў момант праца:
Хто сукае павуцінку,
Хто на карку прэ паўсцінку,
А хто ўвішна каля пня
Кроіць світку для шаршня.

Мітусня і шум навокал:
Трутню выкалалі вока,
Мухам дзвюм зламалі крылы,
Больш лятаць не маюць сілы.
У ктыра і злой асы —
Чык! — адцяпалі насы.

Шэршань крылы склаў і пешкам
Ходзіць важна з качарэжкай.
Б'юць краўцы яму паклоны,
Падбягаюць з балахонам.
Балахон ён нацягнуў
І на пасеку шмыгнуў.

Пчолы ўраз сабралі сілы
Ды адцялі шэршню крылы,
Падхапілі і пад вулей
З летака свайго кульнулі.
Абхітрыць хацеў ён пчол —
Мёртвы бразнуўся на дол.

— Гэта быль ці казка, дзеці,—
Гаварыў ляснік,— не знаю.
Толькі ведаю, што недзе
Шэршань — Жызлы сын лятае.

Можа, ён і к нам у госці
Завітаў з агнём, з атрутай,
Каб пры выпадку адпомсціць
За бацькоў,
за іхні хутар.

* * *

Бор слухаў маўкліва,
Нібыта чакаў
Віхуры раптоўнай
Страшэнных забаў.

Тым часам на станцыі
Дальняй Клінцы
Ў дарогу збіраліся
Ехаць байцы.

Даўно пад пагрузкай
Даўгі эшалон:
Платформы, цяплушкі
І класны вагон.

Салдаты спацелыя,—
Быў ім загад —
З зямлі уздымалі
Станіны гармат.

Прычэпы цяжкія
Машын грузавых
Каціді паўзводна
Па рэйках стальных.

Пагрузка закончана —
Можна прымаць.
Гарматы ствbooламі
У неба глядзяць.

Стаяць вартавыя
Пры іх па баках,
Нясуць сваю службу
Яны на пастах.

Гудок развітальны
Дае машыніст.
Мацней націскае
Басы гарманіст.

З таварнай к вакзалу
Ідзе эшалон.
Шуміць, мітусіцца,
Спявае перон.

Жанчыны, рабочыя,
Дзеці прыйшлі
Вітаць абаронцаў
Савецкай зямлі.

Вітаюць ад сэрца
Байцоў дарагіх,
Кідаюць букеты
Ім кветак жывых.

Ляцяць тыя кветкі
Байцам наўздагон,—
Ідзе,
Адыходзіць
З Клінцоў эшалон.

Бывайце, страчайце
Праз месяц, Клінцы!

На палігон навасёлаўскі
Едуць байцы.

* * *

Пагаслі ў вірах бліскавіцы,
Залева прайшла па лясах.
За ноч сыраежкі, лісіцы
Ўзняліся нібы на дражджах.

Прачнуліся дзеці ледзь золак
На кліч берасцянай трубы,
Пабеглі гурбой з Навасёлаў
Збіраць маладыя грыбы.

Кастусь затрымаўся — уранку
Ён ездзіў па кніжкі ў раён
І толькі пад поўдзень з паўстанка
Пусціўся сябрам наўздагон.

Галёкала рэха па лесе —
Ніхто не адказваў нідзе.
На пень тады хлопчык усеўся,
Тужліва наўкол паглядзеў.

Дрымотны смалісты зацішак.
Між голля — крынічны блакіт.
Раптоўна з ажынніку выйшаў
Знаёмы рыбак-«следапыт».

На твары, паголеным чыста,
Што ў спёку лупіцца пачаў,
Усмешка змяіцца ўрачыста.
Рыбак сваю люльку дастаў.

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
— Па лясных краях хадзіў.
— Чыжык, чыжык, што рабіў?
— У чужых людзей гасціў.

Мёд салодкі еў і піў,
Ні капейкі не плаціў.

Кастусь яго змераў вачыма
І сцяў ядлаўцовы кіёк.
У рыжай кашулі мужчына
Гугнявіў:
— Здароў, землячок.

З-пад броваў, густых і навіслых,
Агеньчык ваўчыны гарыць.
Гавура падумаў: то Жызла
У твар яму зараз глядзіць.

Дыхнула атручанай рыбай
І дымам на дол баравы...
— З якое вы, дзядзька, сялібы?
Відаць, заблудзіліся вы?..

А дзядзька смяецца,
Няйначай,
Сустрэў у глушы прасцячка:
— Я тут пасяліўся на дачы
У ціхім кутку лесніка.

Ты, можа, раскажаш, хлапчына,
Калі ў вас ідуць цягнікі,
Мо ездзяць з вайсковай машынай
На рынак у горад жанкі?

А хіба не чуў ты, што днямі
Да нас, на лясны палігон,
Са станцыі Энскай з байцамі
Павінен прыйсці эшалон?

— Пра гэта малым невядома,—
Схітрыў ён.— А хочаце знаць,

Прашу ў Навасёлы. Дадому
Адгэтуль — рукою падаць.

А дзядзька марудзіць, з ляшчыны
Смаўжа на далонь пасадзіў
І, лупу дастаўшы, хлапчыне
Сказаў таямніча:
— Глядзі!

Смоўж мокры, як скручаны слівень,
Ляжаў, павялічаны шклом.
І стала Гавуры тужліва:
Адзін — анікога кругом.

Шуляк трушчыць нечыя косці,
Над лесам
Хмурынка брыдзе.
Пусціўся на хітрыкі Косця —
Чужога к чыгунцы вядзе.

Чыгунка.
На насыпе жоўтым
Пуці, а яліны — уздоўж.
«Відаць, з дынамітам прыйшоў ты
Таемнаю сцежкаю, смоўж?»

— Дай зробім, хлапец, адпачынак,
Стаміўся я, брат, ад хады!
— Наш дом недалёка. Магчыма,
Вы зойдзеце?
— Мне не сюды.

І ён, устрывожаны нечым,
Уцяў галаву у каўнер,
У зараснік збочыў, хлапечы,
Відаць, разгадаўшы манеўр.

* * *

Узрушаны Косця, з двара
Ускочыўшы хуценька ў дом,
Сасмяглы, прыпаў да вядра,
Напіўся сцюдзёнкі нагбом.

Зняла яна, быццам рукой,
Дарожную стому усю.
Лявонка, сусед, у пакой
Навіну прынёс Кастусю:

— З падшэфнай заставы сябры
Да нас завіталі.
Ва ўсіх
Наганы.
Мне брат гаварыў,
Што справа ёсць важная ў іх!

— Якая?
— Ды ў нашай глушы
Куток сабе, кажуць, знайшоў
Шпіён, што пасты на мяжы
У час навальніцы прайшоў.

Гавура сваё расказаў:
Як вёў ён шпіёна
І як
У цёмны сасоннік, назад,
Падаўся з чыгункі чужак.

— Да шэфаў, Лявонка!
Няхай
Ідуць за ім следам наўпрост.
— А ты?
— Я — глядзі перадай —
Спяшаюся к бацьку, на пост.

* * *

Цішыня, нібы струна, напята.
Не пачуеш шолаху нідзе.
Не баіцца Косця: Гром калматы
Побач з ім па насыпу ідзе.

Да паста абходчыка далёка.
Лес дрымучы, хмызнякі наўзбоч.
Aганькі не свецяцца, навокал
Дыхае няўлоўным змрокам ноч.

Ні ляснога пошуму, ні гуку.
Спяць вятры, і спіць уся зямля,
Толькі месяц выйшаў на чыгунку
Ды па рэйках коціцца здаля.

Косця ўбачыў: хтось прыпаў да жвіру...
Гэтак блізка чутна: стук ды стук...
Гром трывожна вушы натапырыў,
Кінуўся уперад з ім хлапчук.

На пуцях, скуль стукат чуўся нейкі,
Ён прыкмеціў дзядзьку, што крадком
Разбіраў на моцных стыках рэйкі
Балтавым чыгуначным ключом.

Што рабіць?
Ужо зялёным вокам
Семафор у цемры заміргаў.
Ідучы к паўстанку, недалёка
Паравоз таварны пракрычаў.

— Гром, вазьмі!..
Мільгнуўшы ў цемры ценем,
Кінуўся, як леў, разумны Гром.

Жызлы сын схіліўся на калені,
Пакаціўся з насыпу кулём.

Валтузня і хрып.
Гірчыць аўчарка.
Недавярак у кустах узвыў.
Цемрадзь. Ноч.
Цягнік грукоча,
Ярка
Асвятліў
Пуці лакаматыў.

І пуці заззялі,
Нібы рэкі,
Пацяклі з гары на спад круты,
Дзе ляжаць развінчаныя рэйкі,
Кастылі валяюцца, балты.

На слупах, адчуўшы блізкі смутак,
Загулі трывожна правады.
А цягнік ідзе, ідзе сваім маршрутам.
Што рабіць?
Што?
Кінуцца куды?

Зараз у цяплушках на палацях
Пад шынелямі вайскоўцы спяць,
Да пабудкі аб далёкай хаце
І аб родных сны, напэўна, сняць.
І ніхто таго не прадчувае,
Як іх стрэне гэты перагон:
Смерць, калецтва кожнага чакае,
Паляцяць вагоны пад адхон.

Цемрадзь. Ноч.
За чорнымі лясамі

Месяц бестурботна патануў.
Косця ўзняў ліхтарык над пуцямі,
Гальштукам чырвоным ахінуў.

Гальштук той успыхнуў — быццам вецер
Сцяг на барыкадзе развінаў.
За жыццё, супроць страшэннай смерці
Піянер над рэйкамі устаў.

* * *

Спыніўся цягнік.
З эшалона
Да Косці падбег камісар,
Узяў яго гальштук чырвоны,
Чыгуначны светлы ліхтар.

— Мой браце!..— Застылі на месцы
Браты у натоўпе байцоў.
Вялі да іх Жызлу армейцы,
І Гром побач з імі ішоў.

Над лесам займаўся світанак.
Вайскоўцаў чакаў палігон.

Зноў рушыў на ціхі паўстанак
Маршрутам сваім эшалон.
Плылі па платформах гарматы,
Ствалы — у каляных чахлах.
І пільна стаялі салдаты
На строгіх адказных пастах.
Шумелі лясы, і крыніцы
Бруіліся чыстай вадой...

Было гэта ў нас ля граніцы,
Было перад самай вайной.



## НАСУСТРАЧ ЖЫЦЦЮ

### 1

Шмат складаных назваў носяць
Вёскі, сёлы і пасёлкі.
Гэта ж вёска мае назву
Вельмі простую — Сасёнкі.

І стаіць яна далёка
Ад сталіцы, у барах,
Са сталіцай размаўляе
Па мядзяных правадах.

Правады гудуць пад ветрам,
Па слупах бягуць праз бор.
Тут высокія хваіны
Уздымаюцца да зор.

Журавы крычаць над борам,
Пралятаючы здалёк.
У бары зялёным дзятлы
Кожны кратаюць сучок.

Асцярожная ласіха,
Не шукаючы дарог,

Ласянят вядзе бязрогіх
Да ракі Ласёвы Рог.

Прамільгне рака на ўзлессі
Каля вёскі
і тады,
Як маланка, мігам знікне
Немаведама куды.

Вёска гэта не падобна
Да суседніх між бароў.
Хто не ведае,
Дык ведай:
Трыста сем у ёй двароў!

Трыста восьмы — двор арцельны.
І шырокі, і даўгі,
Там стаяць пад новым дахам
Малатарні і плугі.

Двор к двару стаіць сцяною.
Каля кожнае сцяны
Ясень цягнецца высокі,
Засланяе каміны.

І калі зямлю світанак
Ад начных абудзіць сноў,
Над Сасёнкамі дыміцца
Трыста восем каміноў.

Дым слупамі — на пагоду —
Падымаецца ўгару.
Людзі рупныя выходзяць
Сустракаць хутчэй зару.

На пасты свае выходзяць
Трактарысты, кавалі,

Аграномы, паляводы —
Ўладары сваёй зямлі.

Хоць адсюль адна дарога
Цягнецца праз сельсавет,
Ды сасёнкаўцаў нямала
Выйшла ёю ў ясны свет.

То ж яна вяла да славы
Ад палеткаў і баркоў
Авіятараў, артыстаў,
Інжынераў, маракоў.

2

Дружна гэтаю дарогай
Хлапчукі ідуць малыя
Цераз пушчу, расцяробы
Ды імшарнікі лясныя.

І глядзяць на іх лісічкі,
Паказаўшыся з-пад лісця.
Сыраежкі са слязамі
Самі просяцца:
— Вазьміце!..

Хлапчукі не маюць часу,
Каб спыніцца ў лесе гонкім.
Іх вядзе Макейчык Цішка
У любімыя Сасёнкі.

І нясе ён урачыста,
І ахоўвае старанна
Не грыбоў вялікі кошык,
А мадэль аэраплана.

Кіламетраў сто налёту
Мае Цішкава машына,
Яна з вёскі заляцела
У далёкія мясціны.

Дружбакі па ўсіх калгасах
Потым цэлы дзень званілі,
Пра пасадку самалёта
Ім паведаміць прасілі.

А ў Сасёнках жартавалі
Нат дарослыя ў ахвоту,
Што без крылаў засталіся
Тры вядомыя пілоты.

І пайшлі яны ў разведку
Па сцяжынках незнаёмых...
Дзень мінуў, яны з мадэллю
Цераз бор ідуць дадому.

Бор канчаецца.
Чыгунка.
Паравоз азваўся недзе.
Пуцявы абходчык хлопцаў
Супыніў на пераездзе.

Вусы-пікі дзед наставіў,
Трохі смешныя, сівыя,
І пытаецца з усмешкай:
— Вы адкуль
І хто такія?..

— Мы з Сасёнак,— кажа Грышка.
— Мы пілоты,— кажа Цішка.
— Мы зрабілі самалёт,—
Кажа Янка Безбарод.

— Ого-го! — жартуе дзядзька.—
Калі даць яшчэ вам волю,
Вы адкрыеце, напэўна,
Які-небудзь новы полюс.

— Павядзём мы самалёты,—
Цішка марыць,— у пустыні,
Мы аздобім стэп лясамі
І пасевамі густымі...

Зацікавіўся абходчык,
Паглядзець ён сам жадае,
Як у небе іх машына
Самаробная лятае.

Цішка ўзяў мадэль у рукі,
Выйшаў крокаў пяць наперад,
На вачах сяброў і дзядзькі
Запускае ён прапелер.

Самаробная машына
Узнялася над бярозай.
Ёй насустрач з-за пагорка
Дым узвіўся з паравоза.

Чуцен гул жалезны блізка,
Паравоз ляціць, грукоча.
І сцяжок свой для сустрэчы
Дастае стары абходчык.

Разгарнуў і... мімаволі
Апусціў сцяжок дзядуля...
Самалёты... самалёты...
Бомбы насып скаланулі.

Насып сілай выбуховай
Падняло слупамі ўгору.

Птушкі, крыламі ўзмахнуўшы,
Закружыліся над борам.

Паравоз разгон суцішыў
І спыніўся нечакана,
Не давёз па прызначэнню
Ён ні сеялкі, ні краны.

Не кране іх на платформах
Працаўнік рукой шурпатай —
Прагавіта ліжа, ліжа
Ўсё агонь языкаваты.

Машыніст з акна машыны
Нахіліўся галавою,
Ён жазло яшчэ сціскае
Амярцвелаю рукою;

Просіць моўчкі, каб жывыя
У яго жазло забралі,
Семафор для паравоза
Узнялі над магістраллю.

Самалёты праляцелі.
Дыша ў твар гарачы вецер.
Дружбакоў шукае Цішка
У засыпаным кювеце.

А кювет пусты.
Нікога
Не відаць пасля бамбёжкі.
Дзе сябры? Куды пабеглі?
Разгубіўся хлопчык трошкі.

Ён таго не разумее,
Што ўжо грымнула навала,

І сяброў яго — пілотаў
Па бары параскідала.

Ён гукаў іх і не бачыў,
Як пагаслі дня праменні,
Як няўмольна па кашулі
Кроў чырвоная струменіць.

Падышла здалёк дрызіна,
Гасіць полымя пажару...

У шпіталь павезлі Цішку
На дрызіне санітары.

3

Дні праляцелі ў шпіталі
Без дружбакоў і знаёмых.
Раны залечаны.
Хлопчык
Насыпам крочыць дадому.

Дом пад антэнаю, дзе ж ты?
Дзе каля сцен тваіх засень?
Дом зруйнаваны.
У неба сумна паглядвае ясень.

Шастае ён пад вятрамі
Голлем сваім абгарэлым
І асыпае лістоту,
Што без пары пачарнела.

Чорна на вуліцы, вее
Прыскам, нібыта ў пустыні,
Ямы ў трывожнае неба
Зораць вачыма пустымі.

Вось яны, войны, якія!
Ты іх не ведаеш, Цішка.
Глянь —
Перагортвае вецер
Мудрыя школьныя кніжкі.

Гэта ж па іх ты вучыўся,
Свет пазнаваў неабсяжны.
Зараз дарога да школы
Чорнай замецена сажай.

Ты з дружбакамі сваімі
Клеіў з фанеры мадэлі,
З імі далёка ў пустыню
Мары маленства ляцелі.

Дзе яны, светлыя мары,
Мары аб шчасці і міры?
Хцівы замежны прыблуда
Прагне засыпаць іх жвірам.

Цішка, ты меншага брата
Гушкаў не раз у калысцы,
Кніжкі для першага класа
Брату прыносіў калісьці.

Дзе ён цяпер,
Першакласнік?
Пыл у дарозе глытае:
Хлопчыка з маткай па свеце
Водзіць дарога крутая.

Ён разгубіў па дарозе
Сшыткі ў лінейку касую.
Вораг па іх з самалёта
Рысу правёў кулявую.

Ты не сатрэш гэту рысу
Сціркай вучнёўскай сваёю:
Ворага след заціраецца
Толькі ягонай крывёю.

Вуліцай роднай прайдзіся,
Глянь на руіны, варонкі —
Ворагу помсціць паклічуць
Мовай нямою Сасёнкі.

4

Сумны хлопчык ужо развітаўся
З вёскай той, дзе руіны дымяцца,
Дзе маленства яго адзвінела
І цяпер пачалося юнацтва.

Развітаўся ўжо з кніжкамі тымі,
Па якіх ён у школе вучыўся,
Толькі сшытак малодшага брата
У дарогу забраць не забыўся.

Будзе суд над злачынствам варожым,
Суд суровы народаў планеты.
Сведкам грозным, праўдзівым і строгім
Сшытак з'явіцца гэты.

І на ім, мабыць, людзі падпішуць
Свой прысуд усім войнам на свеце
І таму, хто для ўласнай нажывы
Будзе зноў рыхтаваць ліхалецце.

Суд рыхтуецца ў бітве вялікай.
Прыйдзе ён, прыйдзе ён немінуча!
Верыць гэтаму, крочачы ў полі
Без сяброў і без родзічаў, вучань.

Шлях яго ахінае трывога
І раскаты гарматнага грому.
Цёплы попел
Сляды замятае
Ад сасёнак, ад роднага дому.

Іх надоўга пакінуў Макейчык,
Толькі ўзяў у дарогу надзеі,
І па следу сасёнкаўцаў родных
Адзінокі ідзе ён.

Блізка вечар.
Крывавае сонца
Асядае за далямі ў жыта.
Цішку стома бярэ — яго ногі
Алавяным цяжарам наліты.

Ён з дарогі звярнуў адзінока
І кароткі зрабіў адпачынак,
Дзе на ўзмежку самотная вішня
Ружавела дарамі галінак.

Хлопчык жытняга хлеба акраец
Напалам разламаў на калене,
Назбіраў, прыгінаючы дрэва,
Вішань поўную жменю.

Добра з вішнямі першымі ўпрысмак
Есца хлеб за дарожнай вячэрай,
Пахне дымам ён роднае печы,
І кляновым лістом, і аерам.

Абступіла Макейчыка поле
Маладымі, густымі жытамі,
Нахіляецца ў нізкім паклоне
Да яго каласамі.

Закалыхвае шумам вячэрнім
У калысцы сваёй, нібы мора,
І хлапчук засынае салодка
На ўлонні жытнёвых прастораў.

Ахінуты барвовай зарніцай,
Ён не чуе, малы пагарэлец,
Што ўжо фронт набліжаецца грозна
Да яго, да вясковых аселіц.

І не бачыць пад ціхаю вішняй
Ён, дарожнаю стомай абняты,
Што ідуць па палетках не нашы,
А чужыя салдаты.

Жыта стоптана ў іх пад нагамі,
Здратаваны калгасныя гоні...
Сонны Цішка адзін застаецца
У фашысцкім палоне.

5

Патрывожылі сон яго
На жытнёвай пасцелі
Самалёты,
Якія
Над зямлёй загудзелі.

Не страчаў ён ніколі
Яшчэ гэтакіх раніц...
Поле...
Костачкі вішань...
Разламаны акраец...

Цягачы, транспарцёры
На дарозе грукочуць.

Па дарозе пяхота
Незнаёмая крочыць.

Цішка добра разгледзеў,
Што пяхота чужая,
Яна топча дарогу,
Як звярыная зграя.

І прыгадвае Цішка
У Сасёнках руіны,
І пажар на чыгунцы,
І ў пажары машыны...

Ён бы кінуўся зараз
На варожую зграю,
Толькі зброі ніякай
Пагарэлец не мае.

Бой пачаўся ў паветры.
З-за хмурынкі ў імгненне
«Ястрабок» паказаўся
І пайшоў на збліжэнне,

Строй рассыпаў варожы
Кулямётнай чаргою
І абвіў пікіроўшчыка
Сваёй мёртвай пятлёю.

Зanыраў пікіроўшчык,
З курсу кулямі збіты,
Падымаўся і падаў —
Вырываўся з пятлі той.

Толькі вырвацца нельга!
І ён рухнуў без сілы,—

У фашыстаў заўсёды
Шлях адзін —
да магілы.

Над дарогай знішчальнік
Праляцеў невысока,
Знік і зноў паказаўся,
Ды ўжо з іншага боку.

За хвіліну, здаецца,
Абагнуў ён планету,
Супроць ворага смела
Бой павёў у паветры.

Толькі ўся апусцела
Кулямётная стужка.
Праляцела над воблакам
Яснакрылая птушка.

Час вяртацца дадому
З баявога палёту,
Але цяжка пакінуць
Поле бою пілоту.

На машыну чужую
З віражу ён заходзіць,
Па хвасце ёй прапелерам
Б'е з разгону...
І — годзе!

Бамбавоз у паветры
Разгубіў свае крылы,—
У фашыстаў заўсёды
Шлях адзін —
да магілы.

Над палеткамі неба
Дымам чорным кранута.
Паміж дыму бялее
Купал — шоўк парашута.

У паветры над полем
Ён трымае пілота,
Што ляціць, спапяліўшы
Два чужых самалёты.

Да яго, дарагога,
Да мясціны сустрэчы
Па разоры глыбокай
Цішка кінуўся бегчы.

Ёсць лажок сярод жыта,
Дзе струменіць
Крыніца.
Тут бы лётчыку, мусіць,
Самы раз прызямліцца.

Толькі цяжка зніжацца:
Б'юць і б'юць аўтаматы,
Кулі свішчуць шалёна
Над ім, дымам абнятым.

Парашут ападае —
Шоўк прабіты навылет,
І зямля набліжаецца
Пад нагамі штохвілю.

Вось пілота над жытам
Вецер лёгкі загойдаў...

Так сустрэўся Макейчык
З земляком сваім Войдам.

А навокал іх полымя
Поле ўсё ахінула,
Парашут непадцягнуты
Языкамі лізнула.

І, здаецца, на волю
Ім з агню не прабіцца...

Цішка ўспомніў адразу
Пра лажок і крыніцу.

Да крыніцы з пілотам
Хлопчык рушыў у дыме,
А пажар разгараецца,
Ідзе следам за імі.

Кожны з іх над крыніцай
Лёг, вадою абліўся.
І яны праз агонь
На усход падаліся.

6

Яшчэ над полем пад вятрамі
Агонь пякельны не патух,
А ручаёк крынічны вывеў
Іх з поля дымнага на луг.

Яны ляжаць на сенавале,
Начной чакаючы пары,
Паміж сабою размаўляюць,
Як землякі і як сябры.

Пустуе луг, не дакасілі
Яшчэ калгаснікі травы,
Ідуць уздоўж сырых пракосаў
Цыбатай парай журавы.

— Ім добра! — Цішка пазайздросціў.
— Чаму? — пытае лётчык.
— Ім
Шляхі наўкол усе адкрыты —
Ляці пад небам дарагім!

— І ты, магчыма, лётаць хочаш?
— Хачу!
З надзеяй добраю і верай
Яму адказвае хлапчук.

Глядзіць на Цішку лётчык Войда:
Ў таго блакіт жывы ў вачах,
На твары кропелькі вяснушак,
Чырвоны гальштук на грудзях.

Такім ён быў і сам нядаўна.
Мінулі школьныя гады,
І стала дзіўнай явай мара,
Што акрыляла шлях тады.

Цяпер вятры шумяць у небе
Над лёсам светлым юнака;
Ён стаў знішчальнікам-пілотам,
Камсоргам авіяпалка.

— Ты будзеш,— кажа лётчык Цішку,—
Вадзіць у небе караблі.
Але вайна... Шляхі да мэты
Цераз нягоды пралеглі.

Ішла размова гэта доўга.
А як асеў над лугам змрок,
Камсорг сказаў:
— Зямляк, збірайся!
За фронтам нас чакае полк...

## 7

Сябры прабіраліся лесам
Пры водбліску ліпеньскіх зор.
І раніцай іх на прасецы
Сустрэў партызанскі дазор.

К ім выйшаў дазорца бяссонны
І мокры ад золкай расы.
Ён стрэльбу наставіў рашуча
І з ёю — калючкі-вусы.

Макейчык прыціх на хвіліну,
Здавалася ўсё яму сном:
Чыгунка... мадэль у паветры...
Абходчык з узнятым сцяжком...

— Таварыш абходчык!
— Той самы...
Куды ж ты і з кім ты, пілот?
— Далёка,— адказвае хлопчык.—
З пілотам сапраўдным на фронт!

Стаіць ён, такі ганарысты,
Як быццам ужо сапраўды
На добрай ваеннай машыне
Лятаў на заданне кудысь.

— Дык фронт,— абвяшчае дазорны,—
Зусім недалёка, ў бары...
Тут знойдзецца справа пілотам.
Прашу к партызанам, сябры!

Сабраліся ўсе партызаны,
Як неба зара абняла.
Па радыё з імі размову
Масква дарагая вяла.

Іх клікала мужна і смела
Займаць баявыя пасты,
Біць ворага ў кожным закутку,
Пуці падрываць і масты.

Спакойны такі і суровы
Плыў голас любімай Масквы.
Прыціхлі франты на хвіліну,
І рэкі, і шум баравы.

І толькі гучаў рэпрадуктар,
І чулася толькі здаля,
Як вецер гарачы калыша
Сцягі над сцяною Крамля,
Як сэрца гарачае б'ецца
Братоў і сясцёр дарагіх
І як нараджаецца клятва
У стане згуртаваным іх.

— Клянёмся! — сказаў партызанам
Стары камуніст-камандзір.
— Клянёмся! — атрад адгукнуўся,—
Вярнуць краю шчасце і мір!
— Клянёмся! — лясы паўтарылі.
— Клянёмся! — ўзняліся штыкі.

Лягла партызанская клятва
На Цішкавым сшытку ў радкі.

Выводзіў іх хлопчык старанна,
Нібы на экзамене тым,
Дзе правяраліся ўмельства
І мужнасць народам самім.

Выводзіў, здавалася, мужна
Не літары, словы, радкі,

А ставіў адзін ля другога
Байцоў батальёны, палкі.

Укладваў у кожнае слова
Ён волю атрада ўсяго,
Надзеі,
Трывожныя думы
І Войды і сэрца свайго.

Вучнёўскі лінеены сшытак
Ляжыць на абсмаленым пні,
Чаргой кулямётнай прабіты,
Пранесены ім праз агні.

Над ім нахіляюцца людзі,
Што выйшлі з лясное глушы,
І подпісы
Ўпэўнена ставяць
Пад клятвай уласнай душы.

За подпісам подпіс кладзецца,
І прозвішчаў слупік даўгі,
Як быццам жывы,
Пераходзіць
З ліста аднаго на другі.

І сшытка ўжо мала — патрэбен
Паперы даўжэзны абрус:
Сваю партызанскую клятву
Падпісвае
Ўся Беларусь.

Да Войды тады падыходзіць
Абходчык, бывалы салдат.
Сказаць сваё слова даверыў
Яму партызанскі атрад.

— Вазьмі гэты сшытак,— ён кажа,—
За ўсё даражэйшы ў жыцці.
Прайдзі з ім
За лінію фронту,
А там — да Масквы даляці.

У Крэмль перадай і пры гэтым
У штабе галоўным скажы,
Што б'ём мы як след
Акупантаў —
Прыблудаў ліхіх з-за мяжы.

Наказ ён і Цішка прымаюць,
Падпісаны сшытак бяруць,
І мары,
Імклівыя мары,
Іх к лётнаму полю нясуць.

8

Глянула стоена ў вочы
Поле дарожкай узлётнай
І агарнула пілота
Нейкай надзеяй самотнай.

Зводдаля ціха ён кінуў
Погляд да стартавых ліній,
Дзе самалёты
Стаялі
Строем сваім сакаліным,

Дзе па камандзе пілоты
Бралі ў дарогу маршруты
І на хаду
Зашпілялі
Лямкі сваіх парашутаў.

Дзе яны зараз?
Хто скажа?
Войдзе аб тым невядома,
Як «ястрабкі» іх ляцелі
З роднага аэрадрома,
Як з вышыні
На дарожку
Кінулі цень самалёты,
Круг у паветры зрабілі —
Гэтак бывае заўсёды.

Потым машыны чужыя
Селі на мёртвае поле,
Нашаму люду
Прынеслі
Гора, пакуты, няволю.

Сталі машыны на старце
Шчыльна, адна ля другое,
Каб узляцець
Па сігналу
У вышыню раніцою.

Спяць афіцэры чужыя
Блізка ад лётнае зоны.
Спіць
Вартавы самалётаў,
Водарам траў ахмялёны.

А ў паднябессі імглістым
Мачта дрыжыць ветравая,
Сцяг з павуком крыжаватым
Мачта над полем трымае.

Сцелюцца нікла на полі
Травы да лініі старта.

Поруч з Макейчыкам
Войда
К ёй прабіраецца ўпарта.

Водбліск далёкай зарніцы
К ім далятае праз вёрсты,
Свецiцца
У цемры палоннай
Полымем грознае помсты.

Блізіцца помста:
З сярнічкі
Войдавай пырхнуў агеньчык,
З мачты высокае к долу
Сцяг апускае Макейчык...

Ноч.
Цішыня навакола,
Як перад блізкаю бурай.
Толькі агонь прабіраецца
Тонкім бікфордавым шнурам,

Цягнецца к скрынкам зялёным,
Дзе пад свінцоваю пломбай
Доўга мішэняў
Чакаюць
Крыжам кляймёныя бомбы.

Шнур ужо скончыўся.
Выбух.
Гулка трасуцца абшары.
Цёмнае лётнае поле
Забарвянела ў пажары.

І запалалі машыны,
Як на вуголлішчы трэскі,

І ў паднябессі
На мачце
Гальштук паплыў піянерскі.

Ім любаваліся людзі:
Людзям са змроку начнога
Глянула радасна ў вочы
Зарывам перамога.

Мсціўцаў ад ворага ўкрыла
Ноч сваёй шэрай імглою,
Ім паказала
Дарогу
Да паласы франтавое.

Іх сустракалі ў дарозе
Дзеці, дзяды, маладзіцы.
Вокліч кідалі ім вёскі:
— Клятву народа нясіце!

Слаліся вёрсты пад ногі,
Зоры гарэлі заўсёды.
Вецер здалёку
Прыносіў
Свежы і радасны подых.

9

Даносіць вецер гул гармат.
Калыша вецер травы.
Рака.
Цераз раку ляжыць
Палоска пераправы.

Яе штыкамі патрулі
Варожыя замкнулі.

Яны стаяць
І дзень і ноч
Бязменна ў каравуле.

Наткніся толькі на штыкі
Без пропуску, дазволу,—
Не ўбачыш, браце,
Ні сяброў,
Ні свет зямны ўжо болей.

А хлопчык з лётчыкам нідзе
Дазволу не пыталі,
Бо па сваёй зямлі
Ішлі,
Яе абаранялі.

Народ ім клятву уручыў
І даў такое права —
Ісці праз рэкі
І лясы,
Масты і пераправы.

Хай камянеюць патрулі
У мёртвым каравуле! —
Два падарожнікі ад іх
На поплаў
Павярнулі.

Хоць абступілі чараты,
Лягла пад ногі затвань,—
Ішлі і выйшлі
Да ракі
Яны з народнай клятвай.

Нясе нячутна іх, нясе
Рака крутая Сейма,

Ды кулямётная чарга
Рванула напярэймы.

Свой град гарачы кулямёт
Над Сеймай рассыпае,
І Войда
Пад агнём плыве,
Як плыў калісь Чапаеў.

Паружавелі грыўкі хваль,
На хвалях кроў палае.
Вада сцюдзёная
Бяжыць
І рану замывае.

Але яму ўжо цяжка плыць
Успененай ракою.
Пілот свой сшытак дарагі
Узняў па-над вадою.

Ён хлапчуку перадае
Яго рукой сяброўскай,
А з ім
Пуцёўку у жыццё —
Білет свой камсамольскі.

Шуміць і пеніцца рака.
Знікае ў хвалях лётчык.
І без яго цяпер плыве
Праз смерць і хвалі хлопчык.

Плыве насустрач ён жыццю,
Плыве на ўсходні бераг.
Грыміць,
Грукоча грозны бой
Там на пагорках шэрых.

Пяхота цягне свой ланцуг
Па выпаленых кручах,
І танкі ўральскія ідуць,
Змятаюць дрот калючы.

І сакаліны строй ляціць,
Лятуць сыны народа,
Лятуць паплечнікі твае,
Камсорг таварыш Война!

А дзесьці ў небе над Крамлём
Чырвоны сцяг лунае,
Дзень перамогі
І вясны
Народу прадвяшчае.

ЗМЕСТ

**Вершы**

Хай зямля адгукнецца! . . . . . . 6
Усмешка . . . . . . . . . . . 8
Сонца будзіць ранак . . . . . . . 10
Мая мазаіка . . . . . . . . . 11
Залецце . . . . . . . . . . . 14
Чырвоны сцяг . . . . . . . . . 15
Сустрэча з дзедам . . . . . . . 16
На гары . . . . . . . . . . . 18
Ромаў почырк . . . . . . . . . 20
Мастакі . . . . . . . . . . . 21
Лясное наваселле . . . . . . . 23
З выраю . . . . . . . . . . . 25
Размова з жураўлём . . . . . . 26
Птушыны мікраraён . . . . . . 27
Бусел не прастудзіцца . . . . . 29
Ластаўкі і верабей . . . . . . 31
Вокны плачуць . . . . . . . . 34
Рэха выканала просьбу . . . . . 35
З дождыкам! . . . . . . . . . 37
Хачу падрасці . . . . . . . . 38
Грыбнікі . . . . . . . . . . . 40
Трусікі . . . . . . . . . . . 41
Зайцаловы . . . . . . . . . . 42

Рыбары . . . . . . . . . . . . . 46
Усе жаданні . . . . . . . . . 48
Казачок . . . . . . . . . . . . 49
На птушкаферме . . . . . . . 51
Эх бы пакупацца! . . . . . . . 53
Па мядок . . . . . . . . . . . . 54
Змей на нітачцы . . . . . . . . 57
Касманаўты . . . . . . . . . 58
Зоркі ў калодзежы . . . . . . . 60
Падкова на шчасце . . . . . . . 62
Пажарнікі . . . . . . . . . . 64
Ну і сталяры!.. . . . . . . . . . 65
Мурзавей . . . . . . . . . . . . 67
Дзівосны парад . . . . . . . . . 70

**Казкі**

Казка Белавежы . . . . . . . . 74
Мядзведзева знаходка . . . . . . 91
Прыгоды Патапкі . . . . . . . . 97

**Паэмы**

У грыбы . . . . . . . . . . . . . 144
Пакет . . . . . . . . . . . . . . 177
На лясным паўстанку . . . . . . 197
Насустрач жыццю . . . . . . . 227

Михаил Иванович Калачинский
ЭХО ЗЕМЛИ
Стихи, сказки, поэмы
Для детей младшего школьного возраста
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар А. С. Дзеружынскі. Мастак В. С. Стасевіч. Мастацкія рэдактары М. Р. Казлоў, В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар В. А. Басько.
ІБ № 238
Здадзена ў набор 25.08.77. Падп. да друку 01.03.78. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Шрыфт абыкн. Друк высокі. Ум. друк. арк. 12,48. Ул.-выд. арк. 10,73. Тыраж 10 000 экз. Зак. 586. Цана 70 кап.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220004, Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

